# Прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў:

## Дапаможнік у дзеянні



2012

# ЗМЕСТ

# АЎТАРЫ

**Алена Валачай** – трэнерка ў сферы правоў чалавека і прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў. Супрацоўнічае з БДІПЧ АБСЕ і Фондам дамоў правоў чалавека ў Осла, Нарвегія (Human Rights House Foundation) у стварэнні стандартаў навучання правам чалавека і дыстанцыйнага навучання адвакатаў правам чалавека. Удзельнічала ў ацэнцы выкананай у 2001–2010 гг. дзяржаўнай праграмы адукацыі ў сферы правоў чалавека ў Рэспубліцы Таджыкістан і ў распрацоўванні новай праграмы на 2012–2016 гг.

**Ірына Віданава** – заснавальніца і выдавец «Мультымедыйнага часопіса 34». У 2000–2002 гг. працавала міжнароднай каардынатаркай Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі. Выкладала гісторыю ў Беларускім дзяржаўным універсітэце і Ліцэі пры БДУ. У 2006 г. атрымала ступень магістра грамадскай палітыкі са спецыялізацыяй у менеджменце некамерцыйных арганізацый і міжнароднай палітыцы ва ўніверсітэце Джонса Гопкінса (ЗША). Аўтарка шматлікіх публікацый пра новыя медыі і моладзевую праблематыку.

**Агнешка Камароўска** – прадстаўніца Усходнееўрапейскага дэмакратычнага цэнтра (Wschodnioeuropejskie Centrum Demokratyczne). У 2004–2010 гг. была супрацоўніцай міжнароднай праграмы Фонду імя Стэфана Баторыя і адказвала за праграмы для Беларусі ды Украіны. Эксперт у сферы супрацы няўрадавых арганізацый і незалежных СМІ, аўтарка тэкстаў пра стан трэцяга сектара ў Беларусі і Украіне.

Асобная падзяка эксперту польскага Хельсінскага фонду Агнешцы Класоўскай за падтрымку і кансультацыі.

Аўтаркі таксама выказваюць падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы выдання І. Заранку, А. Палудзе, М. Пашкевічу, С. Салашу, В. Смалянцы, М. Суткене, Ю. Чавусаву, А. Шэіну.

# ПРАДМОВА

У мітусні штодзённай працы, увесь час пераадольваючы цяжкасці, заўважаючы ўсё новыя праблемы, наракаючы, што ў содням толькі 24 гадзіны і катастрафічна не стае часу на тое, каб ажыццявіць усе задумы і планы, мы часта не заўважаем, што нават у самых неспрыяльных умовах нам шмат чаго ўдалося дасягнуць. Гэта кніга для людзей, якія лічаць сябе грамадзянскімі актывістамі і хацелі б больш паспяхова прадстаўляць грамадскія інтарэсы, агучваць вострыя праблемы і прапаноўваць варыянты іх рашэння. Спадзяемся, што абагульнены намі досвед кампаній адвакацыі дапаможа ў гэтай працы.

Першая глава – гэта дапаможнік у грамадзянскай адвакацыі. Аўтаркі намагаліся напоўніць сэнсам гэтае моднае паняцце, перакінуўшы мосцік ад тэорыі да практыкі. Тут тлумачыцца, чым кампаніі для прадстаўніцтва інтарэсаў адрозніваюцца ад інфармацыйных або іншых грамадскіх кампаній і штодзённай дзейнасці НДА, якая датычыць аказання дапамогі або паслуг розным групам насельніцтва. Бо плануючы і пачынаючы кампанію адвакацыі, грамадзянскія актывісты мусяць усведамляць, што дасягненне пастаўленых мэтаў можа заняць месяцы і нават гады, што такая кампанія складаецца са шматлікіх этапаў і розных кампанентаў, што яе ініцыятарам хутчэй за ўсё давядзецца ўступаць у кааліцыі, а таму спатрэбяцца не толькі крэатыўнасць, энергія, дыпламатычнасць, рашучасць і гнуткасць, але і вельмі шмат цярплівасці.

Дапаможнік падкажа, з якіх этапаў складаецца кампанія, як лепш арганізаваць сваю працу, якія складанасці могуць узнікнуць, якія пытанні трэба сабе задаць і г.д. Дапаможнік напісаны на аснове сучасных тэорый і практык адвакацыі, творча пераасэнсаваных і адаптаваных да беларускіх рэалій аўтаркамі, якія самі ажыццяўлялі кампаніі для прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў у Польшчы, Украіне і Беларусі.

У другой главе дэталёва апісаныя дзевяць кампаній адвакацыі, якія беларускія некамерцыйныя арганізацыі ажыццяўлялі ў перыяд з 2008 да пачатку 2012 г. На фоне гучных палітычных кампаній, супрацьстаяння рэпрэсіям і барацьбы за выжыванне тытанічная праца грамадскіх аб’яднанняў, накіраваная на змяненне існых законаў і практык дзеля пабудовы больш адкрытага і дэмакратычнага грамадства, нярэдка застаецца за кадрам. Часам здаецца, што спробы дамагчыся сістэмных зменаў шляхам адвакацыі ў аўтарытарнай дзяржаве з самага пачатку асуджаныя на правал. Аднак нават у неспрыяльных умовах апошніх гадоў у Беларусі нараджаліся і ажыццяўляліся яркія, часам адчайныя грамадзянскія кампаніі – насуперак усё больш жорсткім законам, пераследу, эканамічнаму крызісу і апатыі сярод насельніцтва.

У кнізе прадстаўленыя далёка не ўсе кампаніі, а толькі шэраг прыкладаў. Выбар быў прадыктаваны тым, што кожная з гэтых кампаній была адкры-

тай грамадзянскай ініцыятывай (не была прывязаная да якіхсьці палітычных сілаў), скіроўвалася на рашэнне канкрэтнай праблемы, мела выразную мэту і план дзеянняў для яе дасягнення. Яшчэ адным важным фактарам была наяўнасць у аўтарак публікацыі доступу да інфармацыі, неабходнай для разумення і дэталёвага апісання кожнай кампаніі. Прадстаўленыя кампаніі адрозніваюцца маштабамі (нацыянальныя і лакальныя), мэтамі (змена заканадаўства або належнае выкананне ўжо існых нормаў), наборам інструментаў для іх дасягнення, працягласцю і г.д.

Для абагульнення даволі аб'ёмнага матэрыялу і лягчэйшага ўспрымання была распрацаваная адзіная для ўсіх кампаній структура аналізу. Далёка не ўсе кампаніі здолелі дасягнуць пастаўленых мэтаў, а таму працягваюцца дагэтуль, выкарыстоўваючы самыя розныя метады (ад традыцыйнага збору подпісаў і вулічных акцый да онлайн-петыцый ды віртуальных флэш-мобаў), знаходзячы нестандартныя рашэнні на прамежкавых этапах і адаптуючыся да зменаў сітуацыі.

Гэта дапаможнік у дзеянні, таму тут шмат прыкладаў дакументаў, зваротаў, інфармацыйных і візуальных матэрыялаў, якія могуць быць карыснымі пры распрацоўванні новых кампаній. Вялікая ўвага надавалася выкарыстанню новых тэхналогій, асабліва інтэрнэту і сацыяльных сетак. Сама публікацыя выходзіць у фармаце электроннай кнігі, а таму ў ёй шмат гіперспасылак, пры націсканні на якія можна выйсці на сайты кампаній ды знайсці іншыя дадатковыя матэрыялы.

Наша публікацыя была б немагчымая без дапамогі каардынатараў і актывістаў кампаній, а таксама іх партнёраў. Аўтаркі дзякуюць усім, хто дапамог у ажыццяўленні гэтай задумы. Мы спадзяемся, што гэты дапаможнік нагадае пра нашыя агульныя поспехі, падкажа цікавыя рашэнні і натхніць на новыя дзеянні і перамогі, якія абавязкова ўвойдуць у наступныя перавыданні.

Мы адразу мусім паведаміць, што прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў да нас напісана мноства працаў – даследчага і практычнага характару. Нам хацелася б прыўнесці ў гэтую сферу яшчэ больш прагматызму і практычнага падыходу.

Грамадскі інтарэс даволі добра зразумелы праз прызму стандартаў абароны правоў чалавека: кожны выступае носьбітам правоў і свабод, а ў чыноўнікаў (як прадстаўнікоў уладаў) ёсць абавязкі паслядоўна і рэгулярна забяспечваць рэалізацыю гэтых правоў. Стандарты абароны свабод вызначаюць ступень магчымага ўмяшання або, дакладней, забяспечваюць неўмяшанне дзяржавы ў рэалізацыю нашых свабод. А грамадскім інтарэсам ёсць кантроль з боку грамадскіх арганізацый, ініцыятыўных групаў і сродкаў масавай інфармацыі за рэалізацыяй правоў і свабод у адпаведнасці са стандартамі іх абароны. На гэтым і грунтуецца прапанаваны намі падыход да прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў.

Пачнём з самага канца: якія памылкі могуць замінаць нам пры планаванні і ажыццяўленні прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў? Гэты спіс можа быць доўгі. Спачатку назавем толькі некаторыя памылкі, якія аказваюць істотны негатыўны ўплыў на прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў. Тыя ж з чытачоў, хто штодня і на практыцы займаецца абаронаю грамадскіх інтарэсаў, дапоўняць і ўдакладняць гэты спіс.

Важна зразумець, што кожная сітуацыя абароны па-свойму ўнікальная, хоць і падпарадкоўваецца пэўным агульным правілам. Такім чынам, адною з самых сур'ёзных памылак ёсць даволі павярхоўныя веды пра існую грамадскую праблему. Не валодаючы дастатковымі фактамі, а галоўнае, не звяртаючы ўвагі на прававую прыроду адносін «улада–чалавек», можна абмінуць сутнасць праблемы, якую вы збіраецеся вырашаць.

Яшчэ адна памылка – падыход да абароны грамадскіх інтарэсаў як да кампаніі. Пра «кампанейшчыну» са свайго вопыту ведаюць тыя, хто вырас ва ўмовах савецкага ладу. Яна ж хутка знайшла сваё месца і ў галовах маладзейшых людзей. Нашае памылковае бачанне прадстаўніцтва як нейкай кампаніі адразу ж выракае яго на хуткаплыннасць і настройвае нас на кароткачасовае прыкладанне намаганняў. Аднак няма, відаць, ніякай больш доўгатэрміновай дзейнасці, якая патрабавала б такіх скаардынаваных высілкаў, чым прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў. Асабліва ва ўмовах няпоўнага фармавання або недасканалай працы дэмакратычных інстытутаў у нашых краінах, пры адсутнасці культуры павагі правоў і свабод, праблемах кіравання ў дзяржаве і неразвітым мясцовым самакіраванні.

У больш дасведчаных людзей, якія не адзін год займаюцца праектнаю дзейнасцю ў недзяржаўным сектары, можа ўзнікнуць жаданне разглядаць прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў як праект. У цэлым гэта правільны падыход, аднак ён патрабуе сур'ёзнага ўдакладнення: працягласць жыцця звычайнага праекта грамадскай арганізацыі складае, як правіла, адзін год. А план абароны грамадскіх інтарэсаў часам патрабуе не аднаго праекта, а цэлага ланцужка ўзаемазвязаных падзей і дзеянняў, падпарадкаваных адной мэце на больш доўгім

прамежку часу. Уменне планаваць і ажыццяўляць праекты мае спалучацца са стратэгічным бачаннем перспектывы.

Адсутнасць гэтай перспектывы, інакш кажучы, адсутнасць яснага бачання неабходных зменаў – грубая памылка: гэта можа каштаваць вам усіх намаганняў і рэсурсаў, якія прападуць дарэмна. Вы можаце спланаваць мноства эфектных дзеянняў, яны будуць каштаваць вялікіх грошай, у іх будзе ўдзельнічаць мноства людзей, але пры адсутнасці сфармуляванай доўгатэрміновай мэты нельга будзе дасягнуць зменаў у той сферы, у якой вы вызначылі праблему.

Штодня ў рассылках няўрадавых арганізацый і сацыяльных сетках віртуальна сустракаюцца людзі, якія спрабуюць дыскутаваць пра неабходныя нам змены. Але чамусьці часта ў цэнтры размовы стаяць дзеянні, і амаль ніколі – дасягальная мэта (напрыклад, давайце тэрмінова створым «Антыкарупцыйную платформу», бо карупцыя – гэта страшнае зло). Відаць, таму людзям так складана аб'яднацца, бо адсутнасць яснай узгодненай мэты перашкаджае аб'яднанню. Ёсць нават такі падыход – трэба рабіць хоць штосьці, а там час пакажа.

Прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў не можа чакаць, што і калі «пакажа час». Мы хочам, грунтуючыся на досведзе, прадэманстраваць асноўныя крокі, ажыццявіўшы якія можна спланаваць і правесці рэальнае прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў.

# ШТО ТАКОЕ АДВАКАЦЫЯ[1]

Мы часта марым пра змены да лепшага. Аднак яны не адбываюцца самі па сабе. Змены ў грамадстве часта звязаныя з неабходнасцю прадстаўляць інтарэсы пэўных сацыяльных групаў. У аснове такога прадстаўніцтва, якое называецца адвакацыяй, мусяць ляжаць прававы падыход, вяршэнства права, роўнасць перад законам і выкананне правоў чалавека. Ініцыятыўныя групы і няўрадавыя арганізацыі мусяць зразумець, што з сябе ўяўляюць працэс адвакацыі ды яго асноўныя складнікі.

Уменне ў кожным канкрэтным выпадку прымяніць адпаведныя прыёмы і метады адвакацыі дазволіць нам планаваць і ажыццяўляць прадстаўніцтва інтарэсаў розных групаў людзей.

Трэба адразу падкрэсліць, што не існуе поўнага і адзінага правільнага азначэння гэтага паняцця. У залежнасці ад разумення гэтага тэрміну выкарыстоўваюцца розныя падыходы да яго выкарыстання.

Дэвід Коэн (David Cohen), аўтарытэтны спецыяліст у галіне адвакацыі, прапаноўвае наступны падыход:

*«Адвакацыя складаецца з шэрагу арганізаваных дзеянняў і акцый грамадзян або арганізацый, якія выкарыстоўваюць інструменты дэмакратыі для таго, каб падрыхтаваць і ператварыць у жыццё нормы і законы, накіраваныя на стварэнне справядлівага і раўнапраўнага грамадства. Інструментам адвакацыі ёсць розныя грамадзянскія акцыі (інфармаванне і асвета грамадзян, петыцыі, кампаніі, грамадзянскае непадпарадкаванне і г.д.), выбары, масавая грамадзянская мабілізацыя, ажыццяўленне ціску, перамовы, звароты ў суд.*

*Актывісты імкнуцца дамагчыся свайго шляхам аб'яднаных высілкаў і арганізаваных акцый ды аказаць уплыў на тых, хто мае рэальную палітычную і эканамічную сілу. Гэтыя дзеянні накіраваныя на змяненне і ажыццяўленне такой палітыкі, якая палепшыла б жыццё простых людзей, што маюць абмежаваную палітычную сілу і эканамічныя сродкі. Дзякуючы ўдзелу простых грамадзян, а таксама некамерцыйных арганізацый, СМІ і дзяржаўных інстытутаў (урада, парламента, мясцовага самакіравання і г.д.) у акцыях, дэмакратычныя працэсы ў грамадстве набываюць рэальную сілу»*[2].

---

[1] Адвакацыя з грэцкай мовы: ad – «тут, цяпер»; voca – «клікаць, заклікаць» = «клікаць кагосьці сюды».

[2] «Хрестоматия для некоммерческих организаций». Душан Ондрушек и др. Open Society Foundation Bratislava, Partners for Democratic Change Slovakia. Братислава, 2003.

Часам пад адвакацыяй разумеюць правядзенне разнастайных акцый і кампаній як такіх або простае лабіраванне нейкіх інтарэсаў.

Такая разнастайнасць тлумачэнняў, імаверна, звязаная з тым, што акцыі адвакацыі не праходзяць ідэнтычна, не існуе адзінай схемы і аднаго рэцэпта для дасягнення поспеху ў гэтай галіне. Можна толькі вывучаць досвед правядзення іншых акцый, але проста паўтарэнне і атрыманне ідэнтычнага выніку – рэдкая з'ява.

У межах нашага падыходу мы будзем карыстацца наступным азначэннем:

Адвакацыя – гэта гнуткі працэс, шэраг узаемазвязаных дзеянняў, накіраваных на дасягненне сістэмных зменаў шляхам рашэння грамадска значнай праблемы. Для дасягнення пастаўленых мэтаў выкарыстоўваюцца інструменты дэмакратыі, скіраваныя на выкананне правоў чалавека – палітычных, эканамічных і сацыяльных.
Пры гэтым адвакацыя – гэта дынамічны працэс, складнікі якога ўвесь час змяняюцца. Мы мусім улічваць гэта ўжо на ўзроўні планавання і быць гатовымі ў любы момант адрэагаваць на змены.

Паняцце адвакацыі выкарыстоўваецца намі ў шырокім сэнсе, прычым адвакацыя не магчымая без выканання наступных неад'емных умоваў:

а) наяўнасць рэальнай праблемы ў грамадстве;
б) мэта – выкананне ўладамі правоў чалавека, то бок прававы падыход да абароны грамадскіх інтарэсаў;
в) улік «гнуткасці» працэсу, адсутнасці адзінай схемы;
г) дынамічнасць працэсу, то бок усё можа хутка мяняцца;
д) накіраванасць на сістэмныя змены;

Калі ўзнікне неабходнасць абараніць інтарэсы якой-небудзь групы, гэта не азначае, што пачынаць трэба з рашэння самай сур'ёзнай праблемы ў маштабе ўсёй краіны або ўсяго свету. Мы можам пачаць з малога. На першым этапе нашыя дзеянні могуць абмежавацца выражэннем занепакоенасці з нагоды існага стану рэчаў у цікавай для нас сферы жыцця, да якой мы мусім прыцягнуць увагу грамадства. Пасля нашыя дзеянні могуць быць скіраваныя на змяненне палітыкі ўладаў на мясцовым і/або дзяржаўным узроўнях, на змяненне свядомасці прадстаўнікоў пэўнай сацыяльнай групы, дзейнага заканадаўства.

Важна таксама разумець, чым адвакацыя адрозніваецца ад звычайнай дзейнасці для аказання дапамогі.

Штодня няўрадавыя арганізацыі аказваюць дапамогу, у тым ліку гуманітарную, людзям у складанай сітуацыі, дапамагаюць ім у рашэнні праблем. Гэта важная і патрэбная сфера дзейнасці. Аднак часта нашыя спробы аказаць дапамогу парадаксальным чынам павялічваюць колькасць людзей, якім яна патрэбная. Натоўпы людзей проста атакуюць арганізацыю, патрабуючы ад яе выкарыстання ўсіх наяўных рэсурсаў, але ні вынік, ні канец працы не бачны. У гэтым выпадку трэба паглядзець на сваю працу з іншай перспектывы: магчыма, рэальнае рашэнне будзе заключацца не ў аказанні дапамогі асобным людзям, а ў пошуку слабага месца ў механізме, які рэгулюе гэтую сістэму і з-за якога ўзнікаюць шматлікія праблемы гэтай сацыяльнай групы.

Менавіта ціск, які аказваецца з мэтаю выклікаць сістэмныя змены, адрознівае адвакацыю ад дзейнасці для аказання дапамогі (прапановы разнастайных паслуг).

Розныя віды дзейнасці для аказання дапамогі неабходныя. Напрыклад, дзеці-інваліды з першых дзён жыцця маюць патрэбу ў дапамозе і падтрымцы. Немагчыма і проста неэтычна сказаць ім: «Прабачце, мы цяпер займаемся рашэннем вашай праблемы на структурным узроўні…» Аднак нават у гэтым выпадку нашыя дзеянні могуць аказацца больш эфектыўнымі, калі яны суправаджаюцца прадуманай падтрымкай з боку дзяржавы і не накіраваныя выключна на барацьбу з памылкамі ў яе працы, але выступаюць спосабам запаўнення прабелаў у шэрагу абавязкаў дзяржавы ў дачыненні сваіх грамадзян, людзей з грамадзянствам іншых краінаў і апатрыдаў, якія ў гэты момант знаходзяцца пад юрысдыкцыяй нашай дзяржавы. Акурат з гэтай прычыны шматлікія арганізацыі адначасова займаюцца адвакацыяй і вядуць працу для аказання рэальнай дапамогі.

Існуе шэраг неад'емных складнікаў кожнага працэсу адвакацыі:

- Праблема
- Мэта
- Мэтавыя аўдыторыі ды ключавыя фігуры
- Паведамленне
- Пасланец/пасярэднік
- Стварэнне кааліцый і альянсаў[3]
- Пошук неабходных рэсурсаў
- Ацэнка працэсу адвакацыі

Ніжэй прадстаўленая простая схема, якая адлюстроўвае ўзаемасувязі паміж гэтымі складнікамі.




[3] Гэты элемент не заўсёды абавязковы. Ён з'яўляецца пры неабходнасці. Строга неабходныя выбар формы арганізацыі ды вызначэнне этычных нормаў узаемадзеяння ўнутры кааліцыі.

## КРОК 1. ПРАБЛЕМА

Ключавым, можна сказаць, цэнтральным элементам працэсу адвакацыі выступае *правільнае вызначэнне мэты. Гэты этап аказвае ўплыў на ўвесь працэс планавання адвакацыі.* Ён наўпрост звязаны з правільным вызначэннем праблемы і прычын яе ўзнікнення.

*Знайсці рэальную праблему,* якая патрабуе прыкладання вашых намаганняў і прадстаўніцтва інтарэсаў, азначае:

- вызначыць, як менавіта сітуацыя ўшчамляе інтарэсы ўсёй сацыяльнай групы;
- сабраць надзейныя факты (доказы) для пацвярджэння існавання і важнасці гэтай праблемы;
- высветліць прычыну гэтай з'явы (дайсці да «першапрычыны»);
- ацаніць, як суадносіцца гэтая праблема з місіяй і стратэгіяй арганізацыі, ці кампетэнтная арганізацыя ў рашэнні гэтай праблемы;
- ацаніць магчымасць рашэння праблемы сіламі нашай арганізацыі, аб'ём уласных рэсурсаў і магчымасць прыцягнуць рэсурсы звонку.

Калі мы прыступаем да рашэння грамадска значнай праблемы, мы мяркуем або маем звесткі, што ў пэўнай сферы жыцця існуюць пэўныя адмоўныя з'явы. Наша задача складаецца ў ліквідацыі гэтых адмоўных з'яваў або ў кардынальным змяненні сітуацыі. Натуральна, імкненне ажыццявіць нейкія змены мае сэнс толькі ў тым выпадку, калі мы добра разумеем, што менавіта трэба змяніць.

Для правядзення паспяховай абароны грамадскіх інтарэсаў аднаго разумення або эмацыйных адносін да гэтай сітуацыі не дастаткова. Часта сітуацыя патрабуе пераканання, асвятлення і нават аказання ціску для таго, каб людзі ўбачылі, адчулі і зразумелі праблему ў той ступені, у якой яе разумеем мы. Поспеху можна дасягнуць толькі ў тым выпадку, калі мы маем аргументы, заснаваныя на даследаваннях і канкрэтных надзейных звестках, якія пацвярджаюць актуальнасць і маштаб выяўленай праблемы.

Неабходныя звесткі могуць утрымлівацца ў:

- маніторынгах выканання законаў, якія рэгулююць гэтую сферу;
- ужо апублікаваных справаздачах розных устаноў і арганізацый;
- незалежных экспертызах;
- праведзеных даследаваннях на гэтую тэматыку;
- статыстычнай інфармацыі;
- публікацыях у СМІ;
- фактах звароту ў арганізацыю па якую-небудзь дапамогу (псіхалагічную, прававую, сацыяльную);
- пацверджаных звестках назіральнікаў і г.д.

Мы можам выкарыстаць ужо наяўную інфармацыю або апублікаваныя аўтарытэтныя крыніцы, вынікі даследаванняў, а таксама правесці ўласныя даследаванні, накіраваныя на рэалізацыю мэтаў адвакацыі.

Гатовая інфармацыя можа адсутнічаць або не ахопліваць важныя для асвятлення нашай праблемы аспекты. Напрыклад, адна з найбольш уразлівых групаў грамадства – дзеці-сведкі. Іх шматкроць дапытваюць міліцыя і судовыя органы, яны шматкроць «робяцца» ахвярамі. Каб прадстаўляць інтарэсы групы дзяцей-сведак, мы пачнём, відаць, са звароту да судовай статыстыкі, каб уявіць сабе маштаб праблемы: колькі дзяцей штогод робяцца сведкамі злачынстваў і правапарушэнняў? Нескладана даведацца, што такога кшталту афіцыйнай статыстыкі ўвогуле не існуе і што гэтая катэгорыя грамадзян засталася па-за ўвагай правасуддзя і грамадства ў цэлым. Гэта выдатная тэма для адвакацыі, але яе трэба падтрымаць інфармацыяй. У гэтай сітуацыі першакрыніцай часта выступае маніторынг выканання законаў, якія рэгулююць гэтую сферу, або аналіз дзейнага заканадаўства і практыкі ў цэлым.

*«Пад маніторынгам разумеецца планамернае, сістэматычнае вывучэнне пэўнага фрагмента сацыяльнага жыцця, якое праводзіцца паводле пэўнай схемы. Прычым маніторынг ёсць адным з кампанентаў дзейнасці, накіраванай на ўкараненне зменаў у жыццё негвалтоўным шляхам»*[4].

У перакладзе з латыні monitor – гэта той, хто
- нагадвае,
- папярэджвае,
- перасцерагае.

[4] «Мониторинг прав человека». Хельсинкский Фонд по правам человека, Варшава, 2004.

Акрамя гэтага, трэба разумець розніцу паміж звычайным маніторынгам, які выкарыстоўваецца пры навуковых даследаваннях, і маніторынгам выканання правоў і свабод. У навуковых даследаваннях маніторынг разумеецца як «комплексная сістэма назіранняў, ацэнак і прагнозу якіхсьці зменаў», гэта «інфармацыйная» сістэма, яна не прадугледжвае кіравання зменамі[5]. Аб'ём нашай публікацыі не дазваляе больш дэталёва разгледзець гэтую тэму. Для пашырэння ведаў у гэтай галіне можна пазнаёміцца з кнігай «Мониторинг прав человека» Хельсінскага Фонду правоў человека. Мы прапаноўваем усім, хто займаецца або плануе заняцца прадстаўніцтвам грамадскіх інтарэсаў, прайсці навучанне ў межах адмысловага трэнінгу, прысвечанага правядзенню маніторынгу, – для павышэння сваёй кампетэнцыі ў зборы і сістэматызацыі інфармацыі з мэтаю ажыццявіць сістэмныя змены.

Перад вызначэннем мэты правядзіце *аналіз найбольш зацікаўленых бакоў або тых групаў,* якія будзе закранаць прапанаваная змена. Для гэтага трэба задаць сабе наступныя пытанні:

- Хто церпіць з-за гэтай праблемы?
- Хто мусіць прыняць рашэнне?
- Хто будзе вам перашкаджаць у ажыццяўленні вашых планаў?
- Хто вас падтрымае?
- Хто яшчэ не вызначыўся са сваім стаўленнем?

Гэты аналіз дапаможа не толькі зразумець вашыя магчымасці для аказання дапамогі і пралічыць рызыку, якая ўзнікне ў выніку непрымання вашых дзеянняў, але і перайсці да фармулявання мэты.

---

[5] Словарь иностранных слов. Изд-ие 10-е. Гл. таксама, напрыклад, Биологический энциклопедический словарь. М., 1989.

## КРОК 2. МЭТА

*Мэта адвакацыі* – адзін з самых важных элементаў. Мэта – гэта тое, што «пранізвае» ўвесь працэс адвакацыі. Пра мэту трэба памятаць заўсёды. У добра сфармуляванай мэце можна ўбачыць меркаваную змену, да якой мы імкнемся ў працэсе адвакацыі.

Пры выбары мэты пажадана кіравацца шэрагам крытэраў:

- Ці сапраўды пастаўленая вамі мэта здольная вырашыць абраную праблему?
- Ці выканальная яна з кропкі гледжання магчымасцяў вашай арганізацыі (фінансавых і чалавечых) і магчымасцяў вашых самых актыўных апанентаў?
- Звярніце ўвагу на палітычную сітуацыю ў краіне і палітычны каляндар – вы ўсё яшчэ думаеце, што рэальна дасягнуць пастаўленай вамі мэты?
- Ці ўяўляе вашая мэта цікавасць для іншых людзей і арганізацый? Паглядзіце ўважліва, ці зможаце вы прыцягнуць на свой бок дастаткова моцную падтрымку?
- Ці бачыце вы магчымасці прыцягнуць сродкі, неабходныя для рэалізацыі плану вашай адвакацыі?
- Як мэта адвакацыі адпавядае мэтам вашай арганізацыі ў цэлым?

Вы можаце выкарыстоўваць тры асноўныя метады выбару мэты:

- *Выбар прыярытэту.* Калі вы бачыце некалькі мэтаў у полі выбранай праблемы, то паглядзіце, якая з іх будзе прыярытэтам з гледзішча грамадскіх патрэбаў на канкрэтны момант. Прыкладам можа быць прыняцце закона, які рэгулюе мірныя сходы. Можна ставіць за мэту змяніць асобную норму, якая вызначае месцы правядзення мірных сходаў. У той жа час, калі не ўлічыць, што планаваны закон можа зрабіць мірныя сходы практычна немагчымымі, мы выпусцім з-пад увагі прыярытэт – саму законную магчымасць правядзення сходаў, засяродзіўшыся на асобным пытанні – месцы іх правядзення.
- *Звужэнне.* Сфармулюйце мэту сфакусавана і вузка. Яна можа быць сфармуляваная настолькі шырока, што вы не зможаце дасягнуць яе ў агляднай будучыні. Напрыклад, дамагчыся поўнага доступу да інфармацыі для падаткаплатнікаў цягам кароткага часу пасля ўступлення ў сілу новага Падатковага кодэкса даволі складана, аднак пры звужэнні мэты (дамагчыся прыняцця рашэння пра тое, каб на этапе ўвядзення новых нормаў была забяспечаная якасная інфармацыйная і асветніцкая праца самой падатковай інспекцыі на месцах) мы вяртаемся ў межы магчымага. Такім чынам, мэта забяспечыць доступ кожнага чалавека, якому патрэбная інфармацыя, можа звузіцца да мэты дамагчыся прыняцця ўладных рашэнняў пра ўзмацненне інфармацыйнага і асветніцкага блоку на этапе ўвядзення новых нормаў заканадаўства.

- *Пашырэнне.* Часам мэта патрабуе пашырэння, бо вы не зможаце знайсці патрэбнай вам падтрымкі для яе рэалізацыі пры занадта вузкай фармулёўцы пытання. Напрыклад, грамадскім арганізацыям, якія абараняюць правы маргіналізаваных групаў, можа быць складана дасягнуць мэты, пастаўленай вузка, накіраванай толькі на іх мэтавую групу. Пашырыўшы мэту, ахапіўшы ёй і іншыя групы, у дачыненні якіх у грамадстве няма непрымання, можна дамагчыся большай падтрымкі.

Яшчэ адна важная рэкамендацыя – на гэтым этапе трэба адрозніваць мэту ад задач.

мэта (чаго я хачу) ≠ задача (што я зраблю)

Задачы – гэта пэўныя «вяхі» або крокі на шляху дасягнення мэты, гэта больш дробныя крокі, якія можна «вымераць». Задача мае выразныя часавыя рамкі (хоць яны не заўсёды ўтрымліваюцца ў яе фармулёўцы), яна мае быць сфармуляваная такім чынам, каб у ёй можна было ўбачыць вынік гэтай «вяхі». Задачы звязаныя паміж сабою, і іх можна змяняць. Добра пастаўленую мэту адвакацыі мяняць не трэба, нават калі мяняюцца кароткатэрміновыя задачы.

Да мэты адвакацыі мы звяртаемся цягам усяго працэсу адвакацыі, на шляху да рашэння праблемы. Сама мэта ў гэтым выпадку служыць крытэрам выканальнасці планаў і адпаведнасці нашых дзеянняў прапанаваным зменам.

## Крок 3. Мэтавая аўдыторыя

Вызначэнне мэты дазваляе нам перайсці да наступнага элементу адвакацыі, а менавіта да выбару мэтавай аўдыторыі. Гэта тыя людзі, якіх мы потым будзем пераконваць у важнасці і карыснасці прапанаваных намі зменаў. Можна выдзеліць два асноўныя тыпы мэтавай аўдыторыі: галоўную і апасродкаваную.

Каб вызначыцца з гэтым, паспрабуйце адказаць на наступныя пытанні:

- Якія працэдуры прыняцця рашэнняў у сферы, дзе палягае грамадска значная праблема, вызначае закон?
- Хто можа прыняць рашэнне, якога вы дамагаецеся? Хто гэты чалавек ці асобы, якія маюць уладныя паўнамоцтвы прымаць рашэнні, што прывядуць да зменаў, якія ёсць мэтаю вашай адвакацыі (галоўная мэтавая аўдыторыя)?
- Хто можа паўплываць на тых, хто прымае рашэнне? З меркаваннем каго яны будуць лічыцца больш за ўсё (апасродкаваная мэтавая аўдыторыя)?

Неабходна не толькі даведацца прозвішчы людзей, якія ўваходзяць у нашую галоўную мэтавую аўдыторыю, але і разгледзець іх меркаванні, перакананні, каштоўнасці і досвед. Гэтая інфармацыя важная для максімальна дакладнага вызначэння, якія *паведамленні* мы мусім для іх падрыхтаваць.

## КРОК 4. ПАВЕДАМЛЕННЕ

Паведамленне – гэта спосаб камунікацыі, які дазваляе максімальна эфектыўна данесці мэту нашай адвакацыі да мэтавых аўдыторый. Мы ўжо пісалі, што тое, як мы разумеем праблему, не абавязкова будзе дастаткова блізкае і цікавае людзям, якія прымаюць рашэнне. Нельга разлічваць выключна на іх добрае сэрца, на душашчыпальныя, эмацыйныя аргументы. Гэта акурат той момант, калі прыдасца вашая цяжкая праца пры аналізе праблемы і прычын яе ўзнікнення.

Пры стварэнні паведамлення звярніце ўвагу на наступныя элементы:

- *Змест:* што канкрэтна вы скажаце і як будзеце гэта аргументаваць? Паведамленне мае выразна перадаваць, чаго вы хочаце дамагчыся, чаму гэта важна, якую вы маеце стратэгію для дасягнення мэты і якіх дзеянняў вы чакаеце ад канкрэтных асобаў.
- *Пасланец/пасярэднік:* які канал перадачы інфармацыі будзе самы ўдалы, да каго гэтая аўдыторыя, гэтыя асобы будуць лепш прыслухоўвацца (да экспертаў, выбарцаў, газеты, міжнароднай супольнасці)?
- *Форма паведамлення:* вулічныя акцыі, лісты, буклеты, улёткі, СМІ, сустрэчы. Важная таксама мова – якія словы трэба, а якія нельга выкарыстоўваць, ужываць прафесійны жаргон або, наадварот, пазбягаць яго. Варта таксама прадумаць, дзе і калі лепш перадаць паведамленне.

Вам абавязкова трэба сфармуляваць асобныя паведамленні для кожнай мэтавай аўдыторыі, ахопленай вашай адвакацыяй.

## КРОК 5. ПЛАНАВАННЕ АДВАКАЦЫІ

Калі мы вызначылі мэтавыя аўдыторыі ды абмеркавалі, якую інфармацыю і якім чынам хочам да іх данесці, мы можам пачаць планаваць канкрэтныя *дзеянні,* з якіх будзе выбудоўвацца наш працэс прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў і яго стратэгія.

У розных крыніцах вы можаце прачытаць розныя апісанні таго, што называюць планаваннем, планам адвакацыі, стратэгіяй. Усе гэтыя словы аб'ядноўвае неабходнасць старанна распісаць як мага больш канкрэтны план дзеянняў у адпаведнасці з пастаўленай вамі мэтай.

Навыкі планавання, атрыманыя ў праектнай дзейнасці, будуць карысныя і ў выпадку планавання адвакацыі. Асаблівасць планавання адвакацыі складаецца ў тым, што яно гнуткае, у ім няма жорсткіх часавых рамак. Кожная новая магчымасць, карысная для дасягнення пастаўленай мэты, можа зрабіць неабходным перагляд складзенага раней плану. Аднак перагляд не датычыць пастаўленай мэты – яна «пранізвае» працэс адвакацыі ды не змяняецца пасля пачатку руху да яе.

## ВІДЫ ДЗЕЯННЯЎ

«Крокі, якія няўрадавыя арганізацыі робяць для таго, каб дамагчыся – без ужывання гвалту – больш строгага выканання правоў чалавека, большай эфектыўнасці ў стварэнні прававой дзяржавы, ліквідацыі дыскрымінацыі, паляпшэння аховы навакольнага асяроддзя або сістэмных зменаў у функцыянаванні дзяржавы, можна падзяліць на чатыры групы: прававыя, палітычныя, грамадскія і адукацыйныя. Як правіла, гэтыя дзеянні ажыццяўляюцца адначасова, бо большасць праблем немагчыма вырашыць у межах аднаго віду дзеянняў»[6].

На схеме адлюстраваны працэс адвакацыі – ад праблемы да рэальных дзеянняў для яе рашэння.

[6] «Мониторинг прав человека». Хельсинкский Фонд по правам человека, Варшава, 2004.


ПРАБЛЕМА І ЯЕ ПРЫЧЫНЫ
МЭТА АДВАКАЦЫІ
ПЛАН АДВАКАЦЫІ
ЗАДАЧА / КРОК 1
ЗАДАЧА / КРОК 2
ЗАДАЧА / КРОК 3
ПЛАНАВАННЕ
ДЗЕЯННЯЎ ДЛЯ ПРАДСТАЎНІЦТВА
ГРАМАДСКІХ ІНТАРЭСАЎ,
ЯКІЯ ДАЗВАЛЯЮЦЬ ВЫКАНАЦЬ
ГЭТУЮ ЗАДАЧУ
ПРАВАВЫЯ
ДЗЕЯННІ
ПАЛІТЫЧНЫЯ
ДЗЕЯННІ
ГРАМАДСКІЯ
ДЗЕЯННІ
АДУКАЦЫЙНЫЯ
ДЗЕЯННІ
МАНІТОРЫНГ

*Прававыя дзеянні*[7]

Да іх ліку адносіцца, перадусім, стратэгічная судовая цяжба, інакш кажучы, свядомае, запланаванае вядзенне судовых працэсаў з мэтаю перагледзець інтэрпрэтацыю права або выдаліць з прававой сістэмы недасканалыя нормы. Раскрываючы іх неадпаведнасць Канстытуцыі або супярэчнасць з ратыфікаванымі міжнароднымі дамовамі, няўрадавыя арганізацыі дамагаюцца зменаў на падставе рашэнняў Вярхоўнага суда, Канстытуцыйнага суда, Еўрапейскага Суда ў галіне правоў чалавека або тых квазісудовых органаў ААН, у якіх дапускаюцца індывідуальныя скаргі (Камітэт правоў чалавека, Камітэт супраць катаванняў, Камітэт ліквідацыі расавай дыскрымінацыі).

Як прававыя могуць разглядацца таксама судовыя працэсы пра кампенсаванне з дзяржаўнай казны стратаў у выніку парушэння правоў чалавека адной з дзяржаўных устаноў. Гаворка ідзе пра тыя шматлікія выпадкі, у якіх дагэтуль не было прынята звяртацца ў суд (незаконнае затрыманне сіламі аховы парадку, жорсткае абыходжанне з затрыманымі з боку іншых зняволеных і г.д.).

У некаторых выпадках прававыя дзеянні могуць зводзіцца да адкрыцця крымінальных справаў супраць службовых асобаў.

Гэтая катэгорыя ўключае ў сябе таксама дзеянні для распаўсюджання ў грамадстве прававой культуры, ведаў агульнаправавога характару і звязаных з правамі чалавека, а таксама навучання выкарыстанню на практыцы працэдураў іх абароны. Для гэтай мэты апроч класічных метадаў можна выкарыстоўваць розныя конкурсы (напрыклад, на калектыўную распрацоўку і прыняцце канстытуцыі школы, клуба і г. д.); гульні, якія імітуюць судовыя працэсы; распаўсюджваць даведнікі наконт правоў чалавека і працэдур, якія служаць для іх абароны (у іх разглядаюцца правы хворых, састарэлых, дзяцей і моладзі, зняволеных, выбарцаў, падазраваных у здзяйсненні злачынства і г.д.).

*Палітычныя дзеянні*

Палітычныя дзеянні зводзяцца, галоўным чынам, да пошуку саюзнікаў сярод палітыкаў, якія засядаюць у нацыянальным або міжнародным парламенце (Еўрапейскі парламент, Парламенцкая асамблея Рады Еўропы). Магчымы таксама палітычны ціск на ўрад, наўпроставы ці ўскосны – праз адпаведныя прадстаўніцтвы міжнародных арганізацый (ААН, Рада Еўропы, АБСЕ). Мэта такіх дзеянняў – дамагчыся зменаў або ў прававой сістэме, або ў практычнай дзейнасці дзяржаўных органаў. Дзеянні могуць ажыццяўляцца ўнутры краіны і за яе межамі.

---

[7] Апісанне прававых, палітычных і грамадскіх дзеянняў прыводзіцца паводле выдання «Мониторинг прав человека». Хельсинкский Фонд по правам человека, Варшава, 2004.

У сваёй унутранай дзейнасці мы мусім шукаць палітычнай падтрымкі ў палітыкаў, якія ажыццяўляюць заканадаўчую і выканаўчую ўладу на агульнадзяржаўным або мясцовым узроўнях – у залежнасці ад характару праблемы. Маюцца на ўвазе разнастайныя формы ціску на дэпутатаў парламента праз групы выбарцаў (за галасы якіх яны будуць змагацца ў наступнай выбарчай кампаніі). Гэтыя групы мусяць дамагацца, каб дэпутаты прагаласавалі за пэўны закон або супраць яго, выступілі з той або іншай заканадаўчай ініцыятывай ці выкарысталі іншыя формы дзейнасці, напрыклад, дэпутацкі запыт. Такі ціск будзе больш эфектыўны ў краінах з мажарытарнай выбарчай сістэмай, дзе паўторныя выбары дэпутата ў большай ступені залежаць ад волі выбарцаў, чым там, дзе працуе прапарцыйны выбарчы закон і тым самым будучыня кандыдата залежыць выключна ад месца ў партыйным спісе, а яно загадзя вызначаецца кіраўніцтвам партыі. Шмат у якіх выпадках натуральным саюзнікаў няўрадавых арганізацый, што імкнуцца да зменаў, робяцца парламенцкая апазіцыя і ўвогуле тыя палітычныя праціўнікі ўладаў, чые прапановы не знаходзяць падтрымкі ва ўладных структурах.

Ціск на палітыкаў ажыццяўляецца ў такіх выпадках наўпрост (напрыклад, праз прэсу або па месцы жыхарства – праз суседзяў, сваякоў, знаёмых, або падчас сустрэчаў твар да твару і г.д.). Такія метады больш эфектыўныя падчас выбарчай кампаніі, чым пасля выбараў. Часам удаецца паспяхова аказваць ціск ускосным чынам: мэтаю грамадскага ціску робяцца суб'екты права, з якімі палітыкі лічацца з розных меркаванняў – скажам, эканамічных (напрыклад, фірма – патэнцыйны інвестар у гэтай мясцовасці). Мы таксама намагаемся пераканаць палітыка або яго прыхільнікаў у тым, што ажыццяўленне прапанаваных намі пераўтварэнняў прынясе яму большую палітычную карысць (ці хаця б меншую шкоду), чым захаванне статус-кво.

На міжнародным узроўні палітычныя дзеянні могуць, напрыклад, быць накіраваныя на прыняцце Камісіяй правоў чалавека ААН[8] рэзалюцыі, якая асуджае масавыя парушэнні правоў чалавека ў канкрэтным рэгіёне [...]. Сюды ж адносіцца прадстаўленне міжнародным арганізацыям альтэрнатыўных справаздач у процівагу афіцыйным урадавым дакладам у межах справаздачнасці перад камітэтамі, якія ахоўваюць асноўныя канвенцыі ААН (Камітэт правоў чалавека, Камітэт супраць катаванняў, Камітэт ліквідацыі расавай дыскрымінацыі, Камітэт ліквідацыі ўсіх формаў дыскрымінацыі ў дачыненні жанчын, Камітэт правоў дзіцяці, Камітэт эканамічных, сацыяльных і культурных правоў), а таксама спробы ўключыць у разгляд справаў, якія мы расследуем, адмысловых дакладчыкаў і працоўныя групы. Магчымы шэраг іншых крокаў, якія маюць на мэце выклікаць асуджэнне з боку міжнародных арганізацый парушэння правоў чалавека, у тым ліку лабіраванне ў Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы

[8] У 2006 г. на змену Камісіі прыйшла Рада правоў чалавека ААН – заўв. рэд.

або Еўрапейскім парламенце. Аналагічныя крокі робяцца ў трэціх краінах – напрыклад, цэлы шэраг парламентаў прыняў рэзалюцыю з нагоды парушэння кітайскімі ўладамі правоў чалавека ў Тыбеце. Пры гэтым вялікае значэнне маюць умелыя кантакты з міжнароднымі ды замежнымі СМІ, супраца з замежнымі праваабарончымі арганізацыямі.

Справа, аднак, не зводзіцца да асуджэння ўрадаў, якія парушаюць правы чалавека. Можна таксама дамагацца прыняцця новых нормаў для абароны гэтых правоў. Нашыя высілкі могуць спрыяць прыняццю рэзалюцыі або рэкамендацыі Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы, прадпісання Камітэта міністраў Рады Еўропы, рэзалюцыі Еўрапейскага парламента або пэўнай фармулёўкі ў дакументах АБСЕ. Дасягнуўшы вынікаў у выглядзе «мяккага» міжнароднага права (рэзалюцыі, рэкамендацыі), можна дамагацца яго перакладу на мову юрыдычна абавязковых міжнародных пагадненняў.

Такім чынам, можна, напрыклад, дамагацца ўключэння ў міжнароднае права палажэнняў, якія прадугледжваюць абавязковае ўвядзенне падатковых ільготаў пры фінансаванні няўрадавых арганізацый або якія вызначаюць стандарты свабодных выбараў ці мінімальны ўзровень грамадскага кантролю за дзейнасцю спецслужбаў.

*Грамадскія дзеянні*

Іх сутнасць заключаецца ў выкарыстанні розных формаў арганізаванага, часцей за ўсё калектыўнага ўздзеяння на ўладу ў выглядзе негвалтоўных грамадзянскіх акцый (non-violent public action):

1. *Давядзенне да ведама ўладаў,* якіх менавіта зменаў у заканадаўстве або на практыцы мы ад іх чакаем. Органы ўлады рэдка вырашаюцца на перамены на гэтым этапе. Яны пойдуць на іх толькі ў тым выпадку, калі адчуюць моцны грамадскі ціск або зразумеюць, што перамены – у іх інтарэсах.

2. *Інфармацыйныя акцыі* з мэтаю атрымаць рэакцыю на гэтае пытанне з боку як мага шырэйшай і найбольш уплывовай часткі грамадства. Мы шукаем саюзнікаў, гатовых падтрымаць нас і стаць на наш бок. Акцыі могуць мець розную форму, быць так званымі кадравымі (патрабуюць адмыслова падрыхтаваных выканаўцаў: вулічны тэатр, грамадзянскае непадпарадкаванне) і калектыўнымі (петыцыі, маршы, дэманстрацыі, мітынгі, гэпэнінгі і г.д.). Як правіла, яны не аказваюць наўпроставага ўздзеяння на функцыянаванне дзяржаўнай сістэмы, тым не менш, ствараецца псіхалагічны ціск на палітыкаў, якія ўсё больш усведамляюць важнасць праблемы і неабходнасцю заняцца ёю. У таталітарных і посттаталітарных краінах інфармацыйныя акцыі ўспрымаюцца як падрыўныя і лічацца незаконнымі.

3. Па завяршэнні працэсу пошуку саюзнікаў можна выставіць *ультыматум* – папярэдзіць органы ўлады, што калі ў прызначаны тэрмін не будуць прынятыя канкрэтныя крокі для рашэння гэтай праблемы (а іх, як правіла, мы выразна пазначаем), мы будзем вымушаныя аказаць наўпроставы ціск.

4. *Калектыўныя акцыі наўпроставага дзеяння,* то бок дзеянні без ужывання гвалту, накіраваныя наўпрост супраць палітычнай сістэмы. Яны могуць зводзіцца да:

- разрыву сувязяў паміж дзяржавай і яе грамадзянамі, адмовы ад супрацы: страйкі, байкоты (выбараў, дзяржаўных асветніцкіх і культурных арганізацый, розных установаў), адмова ад службы ў войску або выплаты падаткаў, зняцце банкаўскіх укладаў і г.д.;
- стварэння перабояў у дзейнасці дзяржаўных устаноў: блакаванне тэлефонаў, розныя формы мірнай акупацыі будынкаў, масавая падача заяваў або судовых скаргаў, якая парушае нармальную працу адпаведных устаноў, строгае выкананне прынятых правілаў і нормаў, якія часта не выконваюцца (напрыклад, нормы аховы працы), масавае выкарыстанне грамадзянскіх правоў і г.д.

Задача ўсіх гэтых акцый – прымусіць улады пайсці на перамовы. Ад нашых акцый мусяць цярпець не суграмадзяне, а апарат кіравання; іх мэта – пазбавіць дзяржаўны апарат кантролю над той або іншай сферай дзяржаўнай дзейнасці, якая мае для яго вялікае значэнне. Пажадана, каб акцыі абмяжоўваліся дзеяннямі, не забароненымі законам, каб у найгоршым выпадку даходзіла да дробнага парушэння правілаў грамадскага парадку з тэхнічных прычынаў. Аднак гэта не заўсёды магчыма (як, напрыклад, пры адмове ад абавязковай службы ў войску), у такіх выпадках мы мусім лічыцца з тым, што давядзецца панесці пакаранне.

5. *Перамовы з прадстаўнікамі ўлады* пра формы і метады ажыццяўлення канкрэтных зменаў.

Асаблівай формаю дзеянняў для абароны грамадскіх інтарэсаў ёсць грамадзянскае непадпарадкаванне. У чыстым выглядзе яно заключаецца ў яўным, публічным парушэнні палажэння закона, якое той, хто ладзіць акцыю, лічыць няправільным, амаральным або шкодным. Грамадзянскае непадпарадкаванне выкарыстоўваецца для абароны прынцыпаў, а не асабістай выгоды, яго галоўная асаблівасць – гэта гатоўнасць асобы, якая парушае той або іншы закон, паўстаць перад судом і панесці пакаранне. Грамадзянскае непадпарадкаванне прымяняецца, як правіла, у прававых дзяржавах, а чалавек, які выкарыстоўвае гэтую форму пратэсту, прызнае законнасць дзяржаўнай улады і канстытуцыйнай сістэмы. Непадпарадкаванне пакліканае служыць удасканаленню палітычнай сістэмы, а не яе звяржэнню.

Тыя, хто лічаць дзяржаву чужою, а ўладу – навязаную сілаю, парушаюць права падпольна ды імкнуцца пазбегчы пераследу і пакарання з боку ўладаў, легальнасці якіх не прызнаюць. (Напрыклад, у камуністычнай дзяржаве дзеяч дэмакратычнай апазіцыі, які выдаваў нелегальную газету, не паведамляў пра гэта ў пракуратуру, каб панесці адпаведнае пакаранне, бо ён не прызнаваў гэтай дзяржавы. Калі ж у яго краіне адбыліся сапраўды свабодныя выбары і да ўлады прыйшла група, чыіх поглядаў гэты дзеяч не падзяляе, ён абавязаны дзейнічаць яўна. Маладыя амерыканцы, якія хаваліся ў Канадзе ад удзелу ў вайне ў В'етнаме, не выкарыстоўвалі грамадзянскага непадпарадкавання; тыя ж з іх, хто адкрыта знішчаў позвы ў войска, публічна адмаўляўся ад службы і трапляў за гэта за краты, далі прыклад класічнага грамадзянскага непадпарадкавання).

Грамадзянскае непадпарадкаванне можа быць індывідуальнае і калектыўнае. У першым выпадку, калі пакаранне нясе асобны чалавек, асабліва калі ён мае шырокую вядомасць, грамадзянскае непадпарадкаванне выклікае рэакцыю ў грамадстве: «Калі ўжо ён гатовы сядзець у турме за сваю ідэю, можа, справа сапраўды важная?» І тады пачынаюцца калектыўныя дзеянні з патрабаваннем вызваліць гэтага чалавека. Калектыўныя акцыі грамадзянскага непадпарадкавання (публічнае спальванне ваенных білетаў, адмова ад службы ў войску, адмова перадаць дзяржаве частку ўраджаю, як гэта робіцца ў краінах з камуністычным або фашысцкім рэжымам і пад.) могуць таксама выкарыстоўвацца як акцыі наўпроставага дзеяння. Бывае, што палажэнне закона, супраць якога мы хочам выразіць пратэст з маральных меркаванняў, не датычыць нас асабіста, і таму мы не можам яго парушыць. Тады ў парадку «замяшчэння» мы парушаем іншае палажэнне, так або інакш тэматычна звязанае з гэтай праблемай .

Пра гэтыя віды дзеянняў вы можаце паглядзець фільм «Вазьміся за справу».

*Ёсць яшчэ адзін вельмі важны від дзейнасці – адукацыйныя дзеянні.*

На перыяд да 2014 г. прыярытэты ў адукацыйных дзеяннях на міжнародным і нацыянальным узроўнях абумоўленыя «Запіскай Вярхоўнага камісара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у правах чалавека», у якой у адпаведнасці з пунктамі 2 і 3 парадку дня Пятнаццатай сесіі Рады правоў чалавека і Штогадовым дакладам Вярхоўнага камісара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у правах чалавека і дакладам Упраўлення Вярхоўнага камісара і Генеральнага сакратара «Падтрыманне і абарона ўсіх правоў чалавека, грамадзянскіх, палітычных, эканамічных, сацыяльных і культурных правоў, уключаючы права на развіццё», а таксама актуальнай патрэбай працягваць адукацыю ў сферы правоў чалавека ў сістэме школьнай адукацыі. Былі названыя мэтавыя групы, якія патрабуюць асаблівай увагі для адукацыі ў галіне правоў чалавека:

- сістэма вышэйшай адукацыі,
- настаўнікі і педагогі сістэмы сярэдняй адукацыі ды ўся сістэма сярэдняй адукацыі ў цэлым,
- грамадзянскія службоўцы,
- працаўнікі праваахоўных органаў і ваеннаслужачыя.

Мэты Сусветнай праграмы адукацыі ў галіне правоў чалавека (раздзел «В» Плана дзеянняў)[9]:

а) спрыянне стварэнню культуры правоў чалавека;

б) спрыянне агульнаму разуменню асноўных прынцыпаў і метадаў навучання ў галіне правоў чалавека з улікам міжнародных дакументаў;

[9] Проект плана действий на второй этап (2010–2014) Всемирной программы образования в сфере прав человека. ГА ООН. A/HRC/15/28.

в) надаванне асноўнай увагі адукацыі ў галіне правоў чалавека на нацыянальным, рэгіянальным і міжнародным узроўнях;

г) стварэнне агульных калектыўных рамак дзеянняў для ўсіх зацікаўленых бакоў;

д) пашырэнне партнёрскага ўзаемадзеяння і супрацы на ўсіх узроўнях;

е) правядзенне агляду і ацэнкі існых праграм адукацыі ў галіне правоў чалавека і аказанне ім падтрымкі з мэтаю выявіць перадавыя практыкі і стварыць стымулы для іх працягу і/або пашырэння, а таксама распрацоўкі новых праграм.

Грамадскія арганізацыі, якія ўключаць адукацыйную дзейнасць у план сваіх дзеянняў для прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў, змогуць выкарыстоўваць той факт, што дзяржава абавязаная прыкладаць намаганні для навучання ў сферы правоў чалавека прадстаўнікоў вашых мэтавых аўдыторый – асобаў, якія прымаюць рашэнні ў полі выбраных вамі праблем. Самі НДА таксама могуць ладзіць неабходныя адукацыйныя імпрэзы, калі гэта будзе весці іх да запланаванай мэты адвакацыі.

*Наступнае важнае пытанне: якую выбраць стратэгію адвакацыі – гэтага дынамічнага працэсу, накіраванага на сістэмныя змены?*

Ці будзеце вы ўзаемадзейнічаць з уладаю як партнёры, весці перамовы наконт праблемы або пойдзеце на канфрантацыю – усе дзеянні залежаць ад пастаўленай вамі мэты, ад рэальнага (дынамічнага) настрою ключавых аўдыторый у сітуацыі, у рамках якой працуе вашая арганізацыя.

Планаванне стратэгіі ды ажыццяўленне дзеянняў не магчымыя без грунтоўных ведаў пра ўзровень выканання правоў чалавека ў канкрэтнай краіне. Трэба таксама ведаць прычыны ўжо вядомых парушэнняў правоў чалавека. Да іх ліку адносяцца: недасканалы закон; памылковая інтэрпрэтацыя палажэнняў закона; несправядлівая, супрацьзаконная, але шырока прынятая практыка дзеянняў органаў улады. І толькі дакладна вызначыўшы, што падлягае перагляду (закон, падзаконны акт або практычная дзейнасць, напрыклад, адміністрацыйных органаў), і зразумеўшы, на якія дзяржаўныя органы трэба аказаць ціск, мы можам прыступіць да распрацоўвання стратэгіі ды выбраць адпаведныя формы ўздзеяння.

Часам мае сэнс падрыхтаваць канкрэтныя прапановы для рашэння гэтай праблемы. На пэўным этапе іх можна накіраваць у органы ўлады (напрыклад, праект закона або яго асноўных палажэнняў), каб давесці справу да канца. Экспертам, якія распрацоўваюць такія праекты, трэба перадаць як мага больш актуальную і вычарпальную інфармацыю пра стан рэчаў. Аднак нашмат часцей НДА ўздымаюць праблему, прыцягваюць да яе ўвагу грамадства, але ўласна шляхі рашэння праблемы пакідаюць на меркаванне саміх органаў улады. Пошук тэхнічных рашэнняў не ўваходзіць у кампетэнцыю няўрадавых арганізацый, а нярэдка і перавышае іх магчымасці. Праект рашэння мае адпавядаць прававой сістэме канкрэтнай дзяржавы ў цэлым, што нярэдка патрабуе перагляду

шэрагу законаў. Гэтак, напрыклад, няўрадавым арганізацыям бывае складана ацаніць выдаткі, звязаныя з правядзеннем тых або іншых рашэнняў, ды іх уплыў на бюджэт. Таму лепш абмежавацца ўказаннем на праблему, якая патрабуе разгляду, пакінуўшы распрацоўванне канкрэтных праектаў спецыялізаваным дзяржаўным органам.

Абарона грамадскіх інтарэсаў не магчымая без творчага і разам з тым рацыянальнага спалучэння розных відаў дзеянняў. Калі з грамадскімі, адукацыйнымі і палітычнымі дзеяннямі мы знаёмыя лепш, то прававыя дзеянні – падача скаргаў на неправамоцныя дзеянні службовых асобаў, падрыхтоўка позвавых заяваў у суд і вядзенне судовых цяжбаў – заўсёды лічыліся прэрагатываю праваабарончых арганізацый. Аднак пры планаванні адвакацыі мы мусім падумаць пра тое, што прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў патрабуе, каб кожная няўрадавая арганізацыя ў нейкі момант зрабілася «крыху праваабарончаю».

Уся сістэма прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў будуецца на канцэпцыі правоў чалавека. Гэта значыць, што ёсць «звычайныя» людзі, у якіх ёсць грамадзянскія, палітычныя і сацыяльна-эканамічныя правы, а ёсць «асаблівыя» людзі, надзеленыя ўладаю: чыноўнікі мясцовых, абласных і цэнтральных узроўняў. Іх «асаблівасць» – у строгім абавязку стварыць для ўсіх людзей дзейныя механізмы рэалізацыі правоў і свабод у межах сваіх паўнамоцтваў, вызначаных Канстытуцыяй, законамі і міжнароднымі нормамі (яны таксама робяцца часткаю нацыянальнага заканадаўства пасля ратыфікацыі іх парламентам).

Плануючы дзеянні для паляпшэння працы вышэйназваных механізмаў, якія абараняюць нашыя правы і свабоды, мы мусім думаць пра іх эфектыўнасць пры дасягненні мэты.

Прааналізаваць дзеянні нам дапаможа SWOT-аналіз, які праводзіцца не толькі для стратэгічнага планавання дзейнасці арганізацыі, але і для мэтаў адвакацыі. Кожнае дзеянне, якое мы задумалі, можна праверыць праз прызму нашых моцных і слабых бакоў, а таксама пагрозаў (як вонкавых, так і ўнутраных) і патэнцыйных магчымасцяў. Калі мы правядзем аналіз, будзе больш зразумела, ці зможам мы выканаць тыя або іншыя дзеянні без шкоды для сябе ды іншых.

## КРОК 6. КААЛІЦЫЯ

Для дасягнення мэты адвакацыі можа спатрэбіцца *кааліцыя.*

*Роля кааліцый шматгранная*[10]*:*

- гэта і форум для супольнага абдумвання ідэй,
- і магчымасць камбінацыі ўсіх відаў рэсурсаў,
- і аслабленне канкурэнцыі за крыніцы,
- і мабілізацыя інтарэсаў іншых,
- і прыцягненне ўвагі СМІ ды тых, хто прымае рашэнні,
- і ўмацаванне салідарнасці ды адзінства ў грамадскім сектары,
- і стварэнне іміджу ды нашага аўтарытэту ў вачах грамадскасці.

Аўтарытэтныя крыніцы раяць распрацаваць этыкет кааліцыі ды асноўныя правілы для дасягнення адзінства (на аснове разумення нормаў і спосабаў дзеянняў)[11].

Для дасягнення адзінства трэба прыняць этычныя нормы і ўсталяваць пэўныя правілы. Тады праца кааліцыі будзе спрыяць разгортванню працэсу адвакацыі ды дасягненню пастаўленай мэты ў прадстаўніцтве грамадскіх інтарэсаў. У адваротным выпадку існуе рызыка, што кааліцыя будзе патрабаваць адцягнення нашых сілаў і рэсурсаў на рашэнне яе ўнутраных праблем, у той час як вы стваралі яе з зусім іншаю мэтаю – для ўзмацнення вашай публічнай пазіцыі ў пэўнай праблеме.

Часам перамовы наконт грамадскай праблемы, бліскуча праведзеныя ў тэлефоннай размове з ключавой фігурай, вартыя большага, чым шматлюдныя акцыі, якія не маюць выразнай мэты, або агрэсіўны лідар, які безадказна заклікае да небяспечнага супрацьстаяння.

На практыцы можна канстатаваць у нашых краінах пэўную захопленасць стварэннем рознага кшталту кааліцый. Прыгледзеўшыся да гэтай з’явы, мы ўпэўнімся, што не ўсялякая мэта адвакацыі патрабуе стварэння кааліцый, не ўсялякая стратэгія дзеянняў для абароны грамадскіх інтарэсаў патрабуе шырокай уцягнутасці.

Цалкам можна дзейнічаць самастойна. Напрыклад, у прававых дзеяннях больш важны прафесійны ўзровень, а не колькасць людзей. Пры планаванні важна не забываць пра галасы тых, чые інтарэсы мы абараняем: ці даверылі б яны нам сказаць ці зрабіць менавіта тое, што мы робім, падтрымалі б у тым, як і з кім мы гаворым у іх абарону? Важную ролю граюць павага да чалавечай годнасці, тактоўнасць і этычныя нормы.

---

[10] Адвакацыя з грэцкай мовы: ad – «тут, цяпер»; voca – «клікаць, заклікаць» = «клікаць кагосьці сюды».

[11] «Хрестоматия для некоммерческих организаций». Душан Ондрушек и др. Open Society Foundation Bratislava, Partners for Democratic Change Slovakia. Братислава, 2003.

## КРОК 7. ПОШУК РЭСУРСАЎ

Галоўная задача на гэтым этапе – вызначыць патрэбы і прыцягнуць рэсурсы для правядзення адвакацыі (грашовыя сродкі, абсталяванне, добраахвотнікаў, офіснае забеспячэнне, памяшканні). Якім чынам вы можаце сабраць неабходныя рэсурсы для ажыццяўлення высілкаў, накіраваных на адвакацыю? Можна назваць розныя крыніцы: гранты, ахвяраванні карпарацый, ахвяраванні прыватных асобаў, грошы муніцыпалітэтаў або дзяржаўнага бюджэту. Што праўда, апошні варыянт (сродкі бюджэту і муніцыпалітэтаў) не такі добры ў выпадку адвакацыі, бо вы не мусіце залежаць ад крыніцы атрыманых сродкаў. Атрымаўшы грошы ад мясцовай улады, перад якой вы збіраецеся прадстаўляць інтарэсы вашай мэтавай групы ў працэсе адвакацыі, вы можаце аказацца ў двухсэнсоўным становішчы.

## КРОК 8. АЦЭНКА

Усе аўтары і практыкі рэкамендуюць праводзіць *назіранне за ходам адвакацыі ды яе ацэнку.*

Базавая ацэнка фактычна ўяўляе з сябе ацэнку здольнасці арганізацыі ўзяцца за рашэнне пэўнай праблемы тым або іншым спосабам у канкрэтнай сітуацыі, дамагчыся мэты адвакацыі такім шляхам, які акажацца даступным арганізацыі пры наяўных магчымасцях у канкрэтны момант часу.

*Непасрэдную ацэнку* працэсу адвакацыі праводзяць у ходзе самой працы. Яна пакліканая ўдакладніць план і метады яго рэалізацыі для павышэння эфектыўнасці ўздзеяння. Гэты від ацэнкі мае шмат агульнага з ацэнкай выканання звычайнага праекта, толькі з той розніцаю, што зрыў тэрмінаў нават адной задачы ў праекце, разлічаным на паўгода, можа паставіць яго пад удар. У адвакацыі можна мадыфікаваць і саму задачу, і тым больш часавыя рамкі, калі, напрыклад, высветліцца, што гэтага патрабуе з'яўленне або раптоўнае знікненне «акна магчымасцяў».

Правядзенне ацэнкі дапамагае пераканацца ў тым, што вы дасягаеце жаданых вынікаў, а таксама выступае крыніцай пазітыўнай інфармацыі, якая сілкуе вашую камунікацыйную стратэгію.

## ЗАМЕСТ ПАДСУМАВАННЯ

Агульнай рамкай для нашых дзеянняў выступаюць правы чалавека, мы выкарыстоўваем інструменты, даступныя ў дэмакратыі, прававой дзяржаве, строга прытрымліваючыся этычных нормаў сектара НДА. Стратэгія нашых дзеянняў можа спалучаць розныя інструменты, але нам трэба памятаць пра некалькі важных прынцыпаў:

- Адвакацыя – гэта ўзаемадзеянне паміж уладай і грамадзянамі. НДА – толькі прадстаўнік грамадскіх інтарэсаў.
- Мы, НДА, часта гаворым, што нашыя дзеянні скіраваныя на дабрабыт грамадства або асобных грамадскіх групаў. Гэта нясе за сабой вялікую адказнасць за правільную ідэнтыфікацыю іх праблем і патрэб. Ад нашага прафесіяналізму на раннім этапе планавання адвакацыі залежыць не толькі яе паспяховасць, але і імідж і давер да грамадскіх арганізацый з боку іх кліентаў і, у выніку, адносіны да іх з боку дзяржавы.
- Добры прынцып – заўсёды пачынаць кампанію з пазітыўнага кроку, ісці на «мірныя перамовы».
- Калі гэты крок не прынясе чаканай рэакцыі ці будзе праігнараваны, мы мусім быць гатовыя да канфрантацыі.
- Канфрантацыя не прынясе выніку, калі адначасова не будзе зразумела, што вы сур'ёзна падыходзіце да такога сцэнару і гатовыя давесці працэс да канца, незалежна ад таго, як будзе развівацца сітуацыя.
- На канфрантацыйны сцэнар заўсёды ёсць час. Трэба добра разумець, што, калі мы выкарыстоўваем канфрантацыю, вярнуцца да мірных перамоваў звычайна вельмі складана, калі ўвогуле магчыма.
- Мы не можам выкарыстоўваць падман, ісці на асабістыя перамовы ў цішыні кабінетаў, прасоўваць свае асабістыя інтарэсы пад відам грамадскіх або змаўкаць напаўдарозе. Гэта вядзе да страты даверу да саміх арганізацый і адвакацыі як паспяховага метаду прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў.
- Здараецца, мы робім гэтыя памылкі, бо нам здаецца, што гэта паскорыць працэс і дапаможа хутчэй дасягнуць нашай мэты. Якраз у адвакацыі поспех прыходзіць хутчэй дзякуючы празрыстасці і выкананню прававых ды этычных нормаў, а парушэнне гэтых прынцыпаў – «пачатак канца» адвакацыі.
- У прававой дэмакратычнай дзяржаве зусім не ўлада можа ўсё. Яна можа дзейнічаць толькі ў межах сваіх паўнамоцтваў. Мы ж, наадварот, можам усё, што не забаронена. У гэтым плане таксама вельмі карысны інавацыйны падыход НДА.
- Займацца адвакацыяй – не значыць рабіць неабходную працу замест кагосьці іншага. Сутнасць адвакацыі ў тым, каб прымусіць дзяржаўны апарат працаваць лепш і вырашаць праблемы грамадзян.

# Глава 2

# Кампаніі для прадстаўніцтва грамадскіх інтарэсаў

## *Раздзел 1. Агульнанацыянальныя кампаніі*

Ірына Віданава
Агнешка Камароўска

Назва кампаніі

# Кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі»



Час правядзення: Люты 2009 г. – дагэтуль

Месца: Беларусь

Ініцыятар: Праваабарончы цэнтр «Вясна», Беларускі Хельсінскі камітэт (БХК), «Amnesty International» («Міжнародная амністыя»)

Інструменты: Шырокая інфармацыйна-асветніцкая кампанія з удзелам знакамітасцяў і лідараў думак (разнастайная друкаваная і візуальная прадукцыя, публікацыі, відэаролікі, дакументальны фільм); пікеты, прэс-канферэнцыі, вулічныя акцыі, круглыя сталы, семінары, конкурсы, прэзентацыі, публічныя дыскусіі; петыцыі (у тым ліку электронныя); юрыдычна-прававыя дзеянні на нацыянальным (звароты, запыты, скаргі ў судовыя інстанцыі ды іншыя дзяржаўныя органы) і міжнародным узроўні (праца з Камітэтам правоў чалавека ААН).

Праблема: Рэспубліка Беларусь – апошняя краіна ў Еўропе і на постсавецкай прасторы, дзе захавалася смяротнае пакаранне. Для прывядзення прысуду ў выкананне выкарыстоўваецца стрэл у патыліцу. Інфармацыя і статыстыка адносна вынесеных і выкананых смяротных прысудаў засакрэчаная. Уся працэдура пакрытая завесаю таямніцы. Сваякі даведваюцца аб прывядзенні прысуду ў выкананне постфактум. Цела забітага ім не аддаюць, а месца пахавання не паведамляецца, што ў міжнародным праве трактуецца як бесчалавечнае стаўленне і парушэнне правоў сваякоў. У большасці выпадкаў прывядзенне смяротных прысудаў у выкананне здзяйсняецца насуперак узятым беларускімі ўладамі міжнародным абавязацельствам.

За апошнія 17 гадоў адбылося каля 400 расстрэлаў, і быў толькі адзін выпадак, калі прэзідэнт скарыстаўся сваім правам на памілаванне і замяніў смяротны прысуд на турэмнае заключэнне. Нежаданне ўводзіць мараторый на смяротнае пакаранне – гэта адзін з бар'ераў на шляху збліжэння Беларусі з Еўразвязам.

Само беларускае грамадства застаецца ў палоне стэрэатыпаў адносна эфектыўнасці смяротнага пакарання. Праваабаронцы мяркуюць: грамадства павінна валодаць інфармацыяй пра тое, што смяротнае пакаранне не вядзе да памяншэння колькасці асабліва цяжкіх злачынстваў. Людзі павінны ведаць, што ў краінах Еўропы не назіралася ўсплёску злачыннасці пасля ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне. Вынікі сацыялагічных апытанняў, праведзеных НІСЭПД у 2009 г., сведчаць пра блытаніну і супярэчнасці ў грамадскай думцы адносна смяротнага пакарання. Падтрымліваючы – хоць і нязначнаю большасцю (48,4%) – смяротнае пакаранне, беларусы адначасова ў суадносінах 58,6% да 32% былі згодныя з тым, што смяротнае пакаранне супярэчыць маральным і рэлігійным прынцыпам грамадства.

Мэта: Увядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі як першы крок на шляху да адмены смяротнага пакарання.

Арганізацыйная структура: Кампанія рэалізуецца дзвюма беларускімі грамадскімі арганізацыямі (ПЦ «Вясна» і Беларускі Хельсінскі камітэт) і міжнароднай арганізацыяй «Amnesty International». Кожная арганізацыя мае ў кампаніі свайго каардынатара. Да таго ж да кампаніі далучаюцца прадстаўнікі іншых грамадскіх арганізацый, незалежных прафсаюзаў, а таксама шараговыя грамадзяне, якіх хвалюе праблема смяротнага пакарання.

Апісанне дзейнасці: Улічваючы надзвычай складаную прыроду праблемы, кампанія вядзецца адразу ў трох кірунках:

1. прававы кірунак (на нацыянальным і міжнародным узроўнях);
2. праца са сваякамі расстраляных і асуджаных да смерці;
3. інфармацыйна-асветніцкі кірунак (праца з насельніцтвам і СМІ).

Прадстаўнікі кампаніі разгарнулі актыўную дзейнасць для прапрацоўвання прававога аспекту на шляху да ўвядзення мараторыя, а затым і поўнай адмены смяротнага пакарання. Напрыканцы 2009 г. у Палаце прадстаўнікоў была створаная адмысловая працоўная група для даследавання грамадскай думкі адносна ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі. Гэтая група пачала сваю працу на пачатку 2010 г. Парламенцкія слуханні наконт увядзення мараторыя на смяротнае пакаранне былі прызначаныя на восень 2010 г., аднак да сённяшняга дня так і не адбыліся. Тым не менш, 23 верасня 2010 г. прайшоў круглы стол з удзелам чальцоў парламенцкай групы ў пытанні адмены смяротнага пакарання і экспертаў Рады Еўропы. На сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі судовай сістэмы Беларусі і праваабарончых арганізацый. Адбылася дыскусія адносна магчымых крокаў, якія Беларусь магла б зрабіць для ўвядзення мараторыя і скасавання смяротнага пакарання. Гэтая сустрэча дала экспертам Рады Еўропы магчымасць падзяліцца з беларускімі ўладамі сваімі парадамі аб тым, як можна ліквідаваць юрыдычныя ды іншыя перашкоды на шляху да скасавання смяротнага пакарання, а таксама як папулярызаваць гэтую ідэю сярод шырокіх колаў грамадзян.

Дыялог Рады Еўропы з уладамі ў гэтым пытанні аднавіўся пасля таго, як у сакавіку 2010 г. насуперак міжнародным абавязацельствам былі расстраляныя Андрэй Жук і Васіль Юзэпчук, нягледзячы на тое, што Камітэт ААН неаднаразова пасылаў вербальную ноту беларускім уладам, каб прысуды не выконвалі да разгляду скаргі па сутнасці.

Прававы кірунак шчыльна звязаны з працай, якую праваабаронцы і актывісты кампаніі вядуць са сваякамі расстраляных і асуджаных да смерці. Разам з імі яны звяртаюцца ў дзяржаўныя органы з патрабаваннем і аргументацыяй змяніць заканадаўства і адмяніць пункт, які забараняе выдаваць цела і называць месца пахавання. Такія звароты ад імя сваякоў расстраляных, юрыстаў-праваабаронцаў і простых грамадзян накіроўваліся ў судовыя інстанцыі, Адміністрацыю прэзідэнта, Міністэрства замежных справаў ды іншыя ўстановы.

У той жа час праваабаронцы вядуць ліставанне з Камітэтам правоў чалавека ААН ад імя расстраляных Андрэя Жука і Васіля Юзэпчука. Плануецца падаць яшчэ адну скаргу ад імя маці расстралянага Андрэя Жука аб парушэнні права на атрыманне інфармацыі ды на доступ да правасуддзя. Нягледзячы на невыкананне Беларуссю сваіх міжнародных абавязацельстваў, праваабаронцы зноў падалі скаргі ў Камітэт правоў чалавека ААН ад імя асуджаных да смяротнага пакарання Алега Грышкаўцова і Андрэя Бурдыкі. Іх расстралялі ў ліпені 2011 г., не зважаючы на тое, што іхныя звароты былі на стадыі разгляду ў Камітэце ААН. Працягваецца працэсуальны ціск на дзяржаўныя структуры з мэтай пакрокавага вырашэння пытання мараторыя або зменаў у заканадаўстве.

Інфармацыя і статыстыка, датычная смяротнага пакарання, замоўчваюцца ўладамі, таму праваабаронцы ў межах кампаніі вырашылі дабіцца звестак пра колькасць выкананых і вынесеных смяротных прысудаў. Цягам сямі месяцаў праваабаронцы пасылалі звароты і вялі ліставанне з Дэпартаментам выканання

пакаранняў МУС, Міністэрствам юстыцыі, Вярхоўным судом і старшынём Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў у пытанні заканадаўства і судова-прававых пытаннях. Гэта дало частковыя вынікі: праваабаронцам паведамілі толькі пра вынесеныя прысуды. Паводле інфармацыі Міністэрства юстыцыі, з 1990 да 2009 г. быў вынесены 321 смяротны прысуд.

Інфармацыйна-асветніцкая праца – адзін з найважнейшых кампанентаў кампаніі ды мае два складнікі: 1) хуткае рэагаванне на важныя падзеі ды прыцягненне да іх увагі беларускай і міжнароднай грамадскасці; 2) сістэмная асветніцкая праца сярод насельніцтва, каб змяніць стаўленне да смяротнага пакарання.

Пасля таго як у сакавіку 2010 г. начальнік турмы паведаміў маці і адвакату Андрэя Жука пра выкананне прысуду, «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» склікалі экстранную прэс-канферэнцыю з удзелам Святланы Жук, маці расстралянага, якая нідзе не магла атрымаць інфармацыю, чаму прысуд быў выкананы ў парушэнне міжнародных абавязацельстваў. Разам з актывістамі кампаніі яна патрабавала хаця б выдаць ёй цела сына ці паказаць, дзе ён пахаваны. Без адказу засталася і яе просьба аб памілаванні, накіраваная да прэзідэнта. Падчас прэс-канферэнцыі ПЦ «Вясна» і БХК агучылі адкрыты зварот да ўладаў з заклікам неадкладна ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне і выдаць цела маці. У сваю чаргу Камітэт правоў чалавека ААН таксама выдаў адпаведную заяву. Асудзілі выкананне прысудаў і шматлікія іншыя міжнародныя арганізацыі.

Пасля прэс-канферэнцыі праваабаронцы зладзілі пікет. У адмысловых майках з імітацыяй крывавых плямаў, трымаючы расцяжку «Не – смяротнаму пакаранню!», яны выйшлі да Адміністрацыі прэзідэнта. Удзельнікаў затрымалі працаўнікі АМАПу і даставілі ў пастарунак для складання пратаколу. Да суда іх утрымлівалі ў турме. За ўдзел у пікеце праваабаронцы атрымалі штрафы.


В.Стэфановіч і А.Бяляцкі ў майках кампаіі

Удзельнікі кампаніі вядуць маніторынг і выступаюць з заявамі, калі выносяцца новыя смяротныя прысуды, а таксама сустракаюцца са сваякамі расстраляных. На запрашэнне каардынатараў кампаніі Беларусь наведала Тамара Чыкунова, старшыня арганізацыі «Маці супраць смяротнага пакарання і катаванняў» (10 гадоў таму яе адзінага сына расстралялі ва Узбекістане). Яна сустрэлася з бацькамі расстралянага Андрэя Жука. У лістападзе 2010 г. у Менску быў праведзены семінар для беларускіх СМІ на тэму асвятлення праблематыкі смяротнага пакарання ў Беларусі.

У працы з насельніцтвам у якасці асноўных аргументаў за адмену смяротнага пакарання ўвага акцэнтавалася на імавернасці судовай памылкі і, у выніку, прыцягнення да адказнасці невінаватага чалавека, а таксама магчымасці самаабвінавачання, выкліканага выкарыстаннем забароненых метадаў вядзення следства.

Ведаючы беларускую праваахоўную і судовую сістэму, шмат якія грамадзяне ўспрымаюць гэтыя аргументы як вельмі істотныя, а таму яны аказваюць найбольшы ўплыў на грамадскую думку. Гэтая аргументацыя даводзілася да насельніцтва праз стварэнне і дэманстрацыю відэароліка, выраб і распаўсюд рознай друкаванай прадукцыі (буклеты, улёткі, плакаты, календары) ды іншай візуальнай прадукцыі (майкі, асадкі). Пры гэтым прадукцыя распрацоўвалася з улікам спецыфікі розных мэтавых груп (моладзь, людзі старэйшага веку, вернікі і г.д.).







Актывісты кампаніі раздаюць інфармацыйныя ўлёткі ў цэнтры Менска



Вельмі важным момантам было прыцягненне да кампаніі вядомых і аўтарытэтных асобаў (як беларускіх, так і замежных), што публічна выказваліся супраць смяротнага пакарання. Выпрацаваная прадукцыя распаўсюджвалася праз актывістаў і валанцёраў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання» ў розных гарадах краіны падчас правядзення вулічных акцый і прэзентацыі фільма «Прычына смерці – прочырк». У інфармацыйнай працы каардынатары і актывісты кампаніі таксама актыўна выкарыстоўвалі новыя тэхналогіі. Ход кампаніі рэгулярна асвятляецца на сайце «Вясны», дзе быў створаны адмысловы раздзел. Відэаматэрыялы кампаніі даступныя на «YouTube». Інфармацыйныя банэры размяшчаліся на папулярных незалежных інтэрнэт-рэсурсах.



**Алесь Бяляцкі**

*старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна", віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH):*

— Тое, што ў Беларусі да гэтага часу прыводзяцца да выканання смяротныя прысуды — гэта абуральна. І вельмі выразна сведчыць аб жорсткасці беларускай рэпрэсіўнай сістэмы, уключаючы ў сябе суды, пракуратуру і месцы ўтрымання вязняў. Мне здаецца, што Беларусь працягвае чапляцца за савецкае мінулае, дзе смяротнае пакаранне выкарыстоўвалася вельмі часта. Дзякуючы таму, што беларускія праваабаронцы пачалі кампанію супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, сама праблема стала больш рэальнай, персаніфікаванай: мы ўбачылі канкрэтных людзей, якія стаяць за ёй — асуджаных да вышэйшай меры пакарання і расстраляных, іх сваякоў. Праблема стала больш зразумелай для грамадства. І роля дзяржавы ў гэтай сітуацыі стала відавочна нявыйграшнай. Дзяржава з суровага баронцы спакою і парадку пераўтвараецца ў помслівага ка́та з пісталетам у руках.



**Святлана Алексіевіч**

*беларуская пісьменніца, лаўрэат Нацыянальнай прэміі крытыкаў ЗША:*

— Смяротнае пакаранне — гэта старое, дапатопнае вырашэнне чалавечых праблемаў: забіць іншага, таму што ён з табой не згодны, таму што ён не такі, як ты, або ён здзейсніў штосьці страшнае. Я думаю, што наш свет так і застанецца светам людзей, якія забівалі да сябе падобных. Я, вядома, далучаюся да тых, хто хоча наблізіць іншы час, калі ў іншага чалавека нават не ўзнікне думкі, як сёння ў нас не ўзнікае думкі з'есці іншага чалавека, так як людажэрства знікла з чалавечага жыцця, так і не ўзнікне думкі забіць іншага чалавека.

## Далучым Беларусь да свету, вольнага ад смяротнага пакарання!

**Петыцыя:**

*"Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, лічым, што жыццё з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю, натуральным і неад'емным правам чалавека. Мы цвёрда перакананыя: нішто не можа апраўдаць наўмыснае і бязлітаснае пазбаўленне чалавека жыцця ад імя дзяржавы.*

*Смяротнае пакаранне мае незваротны характар. Пазбаўленне жыцця не выправіць здзейсненага злачынцам і не адновіць справядлівасць. Акрамя таго, нельга выключаць судовых памылак. У выпадку смяротнага пакарання выправіць судовую памылку і вярнуць жыццё чалавеку немагчыма.*

*Наяўнасць смяротнага пакарання не з'яўляецца дадатковай абаронай грамадскасці, паколькі не стрымлівае людзей шляхам застрашэння ад здзяйснення злачынстваў. У навуковых даследваннях адсутнічаюць пераканаўчыя доказы таго, што смяротнае пакаранне - больш эфектыўны сродак зніжэння злачыннасці, чым іншыя віды пакарання.*

*Не імкнучыся прынізіць пакуты ахвяраў і іх родных, мы звяртаем увагу на тое, што працэдура выканання смяротнага пакарання, якая існуе ў Беларусі — гэта бесчалавечнае абыходжанне са сваякамі асуджаных да смерці: яны пазбаўленыя апошняй магчымасці развітацца са сваімі блізкімі, ім не выдаюцца іх целы для пахавання, а месца пахавання трымаецца ў таямніцы.*

*Смяротнае пакаранне супярэчыць прынцыпам гуманізму, маралі і агульначалавечым каштоўнасцям, прынцыпам усіх рэлігій, якія вызнаюцца ў Беларусі".*

Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, дзе да гэтага часу выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды. Пасля адмены смяротнага пакарання Узбекістанам з 1 студзеня 2008 году наша краіна засталася апошняй з дзяржаваў на постсавецкай прасторы, якая прымяняе дадзены від пакарання.

**Далучыцца да петыцыі можна на сайце www.spring96.org**

Скажы:

# „НЕ – СМЯРОТНАМУ ПАКАРАННЮ"




***Кампанія***

*"Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі"*




www. belhelcom.org




www.spring96.org



...уклет кампаніі з выказваннямі вядомых асобаў супраць смяротнага пакарання



**Зінаіда Бандарэнка**

*Народная артыстка Беларусі, знакамітая і папулярная дыктарка Беларускага тэлебачання, якой цягам дзесяцігоддзяў захаплялася ўся краіна:*

—Я лічу, што на хрысціянскай Беларусі не павінны выносіцца смяротныя прысуды. З Божай ласкі чалавек павінен жыць. А колькі судовая практыка налічвае судовых памылак! І колькі памылкова людзей пазбаўлялі жыцця. Дагэтуль мы з жахам узгадваем сумнавядомую “Віцебскую справу”. Улічваючы, што беларускія судовыя законы не надта абараняюць правы чалавека, а судовыя справы разглядаюцца павярхоўна, ніхто з нас не застрахаваны ад турмы… Нам кожны дзень нагадваюць з экранаў Беларускага тэлебачання, што мы цывілізаваная дзяржава, а ў цывілізаванай дзяржаве не павінна быць смяротнага пакарання.



**Адам Глобус**

*знакавая фігура беларускай культурнай прасторы, пісьменнік, паэт, мастак і выдавец:*

—Я супраць смяротнага пакарання яшчэ і таму, што калі наша дзяржава, ці любая іншая дзяржава, асуджае чалавека на смерць і знішчае яго, замест аднаго забойцы ў нашым грамадстве застаюцца некалькі. Гэта пракурор, які патрабаваў смяротнага пакарання — забойца. Гэта суддзя, які вынес чалавеку смяротны прысуд — таксама забойца. Гэта кат, які здзейсніў забойства. Атрымліваецца, калі ў грамадстве, у дзяржаве, некага мы забіваем, мы замест аднаго забойцы атрымліваем трох. Мы плодзім забойцаў у дзяржаве, а гэта недапушчальная з’ява... І каб людзі не ператвараліся ў звяроў, а тым больш не ператваралася ў звера наша дзяржава, у звярыную такую зграю, мы павінны, абавязаны змагацца супраць смяротнага пакарання. Каб заставацца людзьмі.



Кампанія “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі” распачалася ў студзені 2009 года. Ініцыятарамі кампаніі выступілі Праваабарончы цэнтр “Вясна”, Беларускі Хельсінскі Камітэт і Міжнародная Амністыя.

**Мэта кампаніі — адмена смяротнага пакарання і далучэнне Беларусі да агульнаеўрапейскіх каштоўнасцяў.**



У Міжнародны дзень правоў чалавека 10 снежня 2009 году прадстаўнікі праваабарончай супольнасці ў межах кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі” перадалі ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь петыцыю з заклікам адмяніць гэты від пакарання, які расцэньваецца як парушэнне права на жыццё, гарантаванае Канстытуцыяй і міжнароднымі дамовамі ў галіне правоў чалавека.

Падпісалі петыцыю і далучыліся да кампаніі супраць смяротнага пакарання вядомыя культурныя і грамадскія дзеячы, праваабаронцы, юрысты і навукоўцы: Мечыслаў Грыб, Зінаіда Бандарэнка, Уладзмір Арлоў, Святлана Алексіевіч, Уладзімір Пугач, Ганна Хітрык, Міхаіл Пастухоў, Кацярына Пытлева, Лявон Вольскі, Тамара Лісіцкая, Зміцер Вайцюшкевіч, Жана Літвіна, Валеры Філіпаў і іншыя.



**Лявон Вольскі**

*легенда беларускага року, заснавальнік гуртоў “Мроя”, NRM і музычнага праекту “Крамбамбуля”, “Zet”:*

—Я абсалютна катэгарычна выступаю супраць смяротнага пакарання ў Беларусі і наогул у свеце. Гэта не цывілізавана. Папросту гэта ўжо не вандалізм, хутчэй, нейкія дагістарычныя часы… Нічога мы не зменім, калі заб’ем чалавека, які здзейсніў злачынства, нават вельмі і вельмі страшнае злачынства.



**Тамара Лісіцкая**

*журналіст, тэле- и радыёвядучая, праграмны дырэктар NETradio, пісьменніца і сцэнарыст:*

—Невінаватага чалавека вярнуць ужо нельга. І гэта жахлівая памылка, якую даравацъ проста немагчыма. Людзі не павінны забіваць людзей. І кропка! І мне б вельмі хацелася, каб такі закон быў прыняты паўсюль. І на зямлі і на нябёсах. Толькі Бог вырашае, толькі Бог судзіць. І кожны панясе тое пакаранне, якое ён мусіць панесці. І не нам гэта вырашаць.



**Алег Гулак**

*старшыня Беларускага Хельсінскага Камітэту:*

—Я лічу, што смяротнае пакаранне Беларусь абавязаная адмяніць. Гэта дзікунства — у XXI стагоддзі дазваляць, каб дзяржава забівала чалавека. Смяротнае пакаранне — гэта здзек над людзьмі. Гэта здзек над правам. Гэта здзек над сучаснасцю.

На пачатку кампаніі быў створаны 5-хвілінны інфармацыйны відэаролік, які быў размешчаны на «YouTube» і дэманстраваўся падчас правядзення летніх школаў па правах чалавека для моладзі. Шмат хто з удзельнікаў школаў далучыўся да кампаніі ў якасці валанцёраў і актыўна дапамагаў у распаўсюдзе інфармацыі. Быў падрыхтаваны рэпартаж з удзелам бацькоў расстраляных, неаднаразова паказаны на незалежным тэлеканале «Белсат»

Акрамя таго, было надрукавана і распаўсюджваецца 10 тыс. брашураў «Скажы НЕ смяротнаму пакаранню!» з інтэрв'ю дзвюх маці з розных краінаў, якія, аднак, спазналі адно гора (Святлана Жук з Беларусі і Тамара Чыкунова з Узбекістана). Для папулярызацыі тэмы адмены смяротнага пакарання былі надрукаваныя і распаўсюджаныя каля тысячы буклетаў «Я далучаюся да кампаніі супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» з выказваннямі вядомых людзей і заклікам падпісаць электронную петыцыю ды падтрымаць кампанію. На дадатак было распаўсюджана 25 тыс. інфармацыйных улётак і 10 тыс. каляндарыкаў.

На сайце праваабарончага цэнтру «Вясна» была размешчаная электронная петыцыя супраць смяротнага пакарання (на беларускай, рускай і англійскай мовах), якую могуць падпісаць усе ахвотныя. Першыя подпісы былі пастаўленыя ў ліпені 2010 г. Каля 200 чалавек дадалі свае подпісы адразу пасля прывядзення ў выкананне ў сакавіку 2012 г. смяротнага прысуду Дзмітрыю Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву, асуджаным у справе выбуху ў менскім метро. На сярэдзіну красавіка 2012 г. петыцыю падпісалі больш за 4,5 тыс. чалавек.




А.Гулак, Стынг, В. Стэфановіч




А.Палуда і айцец Аляксандр Надсан

Адным з інфармацыйных прарываў кампаніі стаўся відэазварот і падпісанне петыцыі сусветна вядомым музыкам Стынгам падчас яго канцэрта ў Менску ў верасні 2010 г. Стынг апрануў майку «Скажы НЕ смяротнаму пакаранню!», якую яму прэзентавалі праваабаронцы, і запісаў відэазварот «Час змяніць гэта», размешчаны на «YouTube». Петыцыю падпісалі іншыя вядомыя людзі, у тым ліку намеснік міністра замежных справаў Вялікай Брытаніі, амбасадар Вялікай Брытаніі ў Беларусі, айцец Аляксандр Надсан ды іншыя.

Вядомы беларускі дызайнер Уладзімір Цэслер таксама падтрымаў кампанію і спецыяльна для яе стварыў лагатып «Скажы НЕ смяротнаму пакаранню». З выкарыстаннем гэтага лагатыпа было надрукавана каля тысячы плакатаў розных памераў з аўтографам мастака. Удалы дызайн малюнка быў перанесены на чорную майку, якая зрабілася своеасаблівай візіткай кампаніі. Вырабілі тысячу такіх маек.










Выстава постэраў на тэму смяротнага пакарання (Менск)

9 кастрычніка 2010 г., напярэдадні Сусветнага дня барацьбы са смяротным пакараннем, у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася тэматычная выстава, арганізаваная Радай Еўропы, на якую спецыяльная камісія адабрала 100 найлепшых постэраў. Актывісты кампаніі інфармавалі жыхароў і гасцей Менска пра гэтую выставу, а падчас яе правядзення раздавалі мінакам інфармацыйныя матэрыялы.

Непасрэдна ў Сусветны дзень барацьбы са смяротным пакараннем, 10 кастрычніка 2010 г., у розных гарадах Беларусі прайшлі шматлікія інфармацыйныя акцыі. Актывісты і валанцёры кампаніі, апранутыя ў чорныя майкі, раздавалі мінакам буклеты і ўлёткі.









Рэгіянальныя акцыі ў Сусветны дзень барацьбы са смяротным пакараннем

Акцыі адбыліся таксама ў Вільні, Варшаве, Жытоміры ды іншых гарадах краінаў-суседак. Напрыклад, у Вільні прайшоў рок-канцэрт з удзелам беларускага гурта «RAHIS» і літоўскага гурта «Zala & Driukas». У Нацыянальнай бібліятэцы ў Менску працавала тэматычная кніжная выстава «Пакаранне смерцю: цана жыцця і межы права».

30 лістапада 2010 г. адбылася яшчэ адна акцыя ў Менску пад назвай «Гарады за жыццё». Усе гэтыя яркія акцыі шырока асвятляліся ў беларускіх і замежных СМІ. На радыё «Рацыя» выходзіць штотыднёвая праграма з аглядам ходу кампаніі.

Цягам 2011 г. праваабаронцы працавалі над стварэннем дакументальнага фільма, прысвечанага праблеме смяротнага пакарання. У гэтым фільме эмацыйны акцэнт быў зроблены на працэдуры выканання смяротнага прысуду, на тым, што ўсё адбываецца ва ўмовах поўнай сакрэтнасці, целы расстраляных не выдаюцца і месца пахавання не называецца, а гэта ўжо дэманстрацыя бес-



Акцыя ў Менску

чалавечнага стаўлення да сваякоў пакараных. У фільме былі выкарыстаныя архіўныя відэа сям'і Андрэя Жука. Назва фільма «Прычына смерці – прочырк» – сімвалічная, бо ў пасведчанні аб смерці, якое выдаецца сям'і расстраляных, у графе «Прычына смерці» сапраўды стаіць прочырк. Здымкі скончыліся ў траўні, праз некалькі тыдняў пасля выбуху ў менскім метро, расследаванне якога, судовы працэс, прысуд ды яго паспешнае выкананне выклікалі недавер і сумневы ў вялікай колькасці беларускіх грама-дзян. Таму невыпадкова фільм заканчваецца словамі: «Пры існай у Рэспубліцы Беларусь судовай сістэме, прочыркам можа стаць кожны...».

Асноўнай мэтай фільма было шляхам дакументальнага кіно данесці да насельніцтва такую інфармацыю, якой ніколі не пакажуць на дзяржаўным тэлебачанні, прэзентаваць альтэрнатыўны пункт гледжання на гэтае пытанне з пазіцыі агульначалавечых каштоўнасцяў. Фільм быў пададзены на конкурс дакументальнага кіно на праваабарончую тэматыку «Адзіны свет», які праводзіць вядомая чэшская праваабарончая арганізацыя «Чалавек у нядолі», а таксама на Кіеўскі фестываль праваабарончага кіно. Паводле каардынатара кампаніі Андрэя Палуды, гэта рабілася не столькі дзеля таго, каб была ацэненая мастацкая каштоўнасць фільма, колькі дзеля таго, каб распавесці еўрапейскай публіцы аб праблеме смяротнага пакарання ў Беларусі, звярнуўшы ўвагу на тое, што гэта адбываецца зусім побач, у цэнтры Еўропы. Спампаваць фільм можна тут.

Прэзентацыя фільма «Прычына смерці – прочырк» адбылася ў Менску 29 чэрвеня 2011 г. і выклікала вялікую цікавасць як з боку прадстаўнікоў прэсы, так і з боку простых грамадзян. Інфармацыя пра гэтую падзею з'явілася ў вядучых незалежных выданнях. Яшчэ чатыры прэзентацыі адбыліся ў Доме правоў чалавека ў Вільні, куды прыйшло шмат беларускіх студэнтаў і жыхароў літоўскай сталіцы.

Каб зрабіць кампанію больш інтэрактыўнай, у ліпені 2011 г. праваабаронцы абвясцілі адкрыты конкурс на стварэнне лагатыпаў кампаніі Агулам да ўдзелу ў конкурсе былі адабраныя 15 лагатыпаў, з якіх журы вызначыла трох пераможцаў. Найбольшую колькасць галасоў атрымала праца дызайнера і фатографа Соф'і Андраюк (гл.справа). Прэзентацыя вынікаў і цырымонія ўзнагароджання адбылася 29 верасня 2011 г.



У снежні 2011 г. прадстаўнікі «Вясны», БХК і «Міжнароднай амністыі» перадалі ў Адміністрацыю прэзідэнта больш за 165 тыс. подпісаў пад петыцыямі з 30 краінаў свету, у якіх патрабуецца ўвесці ў Беларусі мараторый на смяротнае пакаранне. Гэта была спроба перадухіліць прывядзенне ў выкананне смяротнага прысуду, вынесенага напярэдадні Дзмітрыю Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву.














AMNESTY INTERNATIONAL

Amnesty International petition against the death penalty in Belarus

Dear President Lukashenka

The death penalty is the ultimate denial of human rights. In Belarus, it is compounded by a flawed criminal justice system that violates international standards in its use of the death penalty.

Prisoners are reportedly tortured in order to extract "confessions" and denied access to an effective appeal. They are told they will be executed only moments before the sentence is carried out.

Amnesty International, Human Rights Centre Viasna and the Belarusian Helsinki Committee oppose the death penalty in all cases without exception.

We call on you to immediately establish a moratorium on executions and commute the sentences of all those on death row as a first step towards abolishing the death penalty.

Signed

Tom Stoppard

Tom Stoppard, playwright, as the 100,000th signatory to this petition





Беларускія праваабаронцы і прадстаўніца «Міжнароднай амністыі» перадаюць петыцыі ў Адміністрацыю прэзідэнта

Дасягненні: За два гады працы кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» здолела стварыць дастаткова моцную і вялікую платформу прыхільнікаў адмены смяротнага пакарання, да якой акрамя праваабарончых арганізацый далучыліся моладзевыя аб'яднанні, незалежныя прафсаюзы, валанцёры і г. д.

Дзякуючы візуалізацыі кампаніі з дапамогай улётак, буклетаў, маек, плакатаў, відэаролікаў і вулічных акцый, а таксама інфармацыйнай плыні ў СМІ ды інтэрнэце, тэма адмены смяротнага пакарання пачала гучаць у публічнай прасторы і актыўна абмяркоўвацца ў грамадстве. Дыскусіі ды выказванні на гэтую тэму можна пачуць як на дзяржаўным узроўні, так і ў грамадскім транспарце, на форумах інтэрнэт-сайтаў.

Пры актыўнай падтрымцы праваабаронцаў маці Андрэя Жука дамаглася выдачы ёй пасведчання аб смерці сына (праз два месяцы пасля таго, як ён быў расстраляны), а таксама часткі яго рэчаў. Яна працягвае змагацца за сваё права ведаць, дзе пахаваны яе сын. Святлана Жук падае заяву ў суд на парушэнне артыкула 7 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, бо нявыдача цела ды інфармацыі пра месца пахавання трактуецца як парушэнне правоў чалавека і расцэньваецца як бесчалавечнае стаўленне ды катаванне сваякоў. Справа будзе даведзеная да Камітэта правоў чалавека ААН.

І хаця да дасягнення мэтаў кампаніі яшчэ далёка, ужо назіраюцца змены ў стаўленні беларускага грамадства да смяротнага пакарання. У ходзе прэзідэнцкіх выбараў 2011 г. праводзілася апытанне, падчас якога амаль усе кандыдаты выказаліся супраць такой жорсткай меры пакарання. Нягледзячы на неаб'ектыўнае асвятленне судовага працэсу ў дзяржаўных СМІ ды актыўную прапаганду на карысць смяротнага прысуду ў дачыненні абвінавачаных у арганізацыі выбуху ў менскім метро, значная частка беларускіх грамадзян выказала сумневы як у справядлівасці ўсяго працэсу, так і ў абгрунтаванасці смяротнага прысуду. Гэта выявілася ў выказваннях супраць смяротнага пакарання на шматлікіх інтэрнэт-форумах і ў публікацыях, а таксама ў тым, што больш за 60 тыс. чалавек паставілі свае подпісы пад электроннай петыцыяй супраць смяротнага прысуду Канавалаву і Кавалёву. Прывядзенне гэтага прысуду ў выкананне (праз два дні пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка адмовіў асуджаным у памілаванні) выклікала новую хвалю подпісаў пад агульнаю петыцыяй кампаніі за адмену смяротнага пакарання. Насуперак актыўнай дзяржаўнай прапагандзе, значная частка беларускіх грамадзян настроеная супраць смяротнага пакарання. Паводле вынікаў сацыялагічнага апытання, праведзенага ў лютым 2012 г., 23% рэспандэнтаў выказаліся ў падтрымку смяротнага пакарання, 29% хутчэй за, чым супраць, у той час як 16% выказаліся рэзка супраць, а яшчэ 23% схіляюцца да адмены такой меры пакарання (9% рэспандэнтаў не ведалі, як адказаць на гэтае пытанне).

Ацэнка эфектыўнасці: У кампаніі існуе сістэма колькасных і якасных індыкатараў, якія дазваляюць ацэньваць яе паспяховасць і эфектыўнасць на розных этапах, а таксама карэктаваць ход усёй кампаніі. Асаблівая ўвага надаецца адсочванню, збору і аналізу рэакцыі, якую выклікалі тыя ці іншыя акцыі кампаніі ў грамадстве – як сярод простых грамадзян, так і сярод чыноўнікаў. Актывісты кампаніі праводзяць рэгулярны маніторынг дзяржаўных і незалежных СМІ, інтэрнэт-форумаў і сацыяльных сетак. Згодна з сістэмай індыкатараў, глабальных памылак на першых этапах рэалізацыі кампаніі не было, і кампанія мае пазітыўныя прамежкавыя вынікі. Тым не менш, на шляху да дасягнення галоўнай мэты – адмены смяротнага пакарання – праваабаронцаў чакае яшчэ шмат працы.

Планы на будучыню:

- У хуткім часе каардынатары кампаніі плануюць правесці сацыялагічнае даследаванне грамадскай думкі ў пытаннях, звязаных са смяротным пакараннем, каб лепш сфармуляваць задачы для наступных этапаў кампаніі;
- Працяг тэмы смяротнага пакарання ў дакументальным кіно, выпуск тэматычнай песні і відэаролiка, скіраваных у большай ступені на моладзевую аўдыторыю;
- Папулярызацыя ідэі адмены смяротнага пакарання ў Беларусі шляхам шырокай інфармацыйнай кампаніі;
- «Стратэгічная цяжба», скіраваная на змену заканадаўства ў пытанні смяротнага пакарання;
- Працяг працы са сваякамі расстраляных.

Андрэй Палуда, праваабаронца з цэнтру «Вясна», адзін з каардынатараў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання»:

*«Мы верым у тое, што нашыя намаганні, салідарнасць і дапамога нашых аднадумцаў у вельмі кароткай перспектыве сапраўды прынясуць плён, і мы спынім гэты канвеер смерці!»*

Назва кампаніі

# Грамадзянская кампанія «За альтэрнатыўную грамадзянскую службу ў Беларусі (АГС)»



Час правядзення: Лета 2009 г. – дагэтуль

Месца: Беларусь

Ініцыятар: Алена Танкачова, Міхась Пашкевіч

Інструменты: Юрыдычная дапамога прызыўнікам і служачым, інфармацыйнае суправаджэнне стратэгічных справаў прызыўнікоў, падрыхтоўка аналітычных аглядаў пра стан з прызывам, выкрыванне праблем у арміі, падрыхтоўка прапановаў у законапраект аб АГС, лабіраванне яго прыняцця, распаўсюд інфармацыі пра АГС і асветніцкая праца сярод прызыўнікоў ды іхных сваякоў, у тым ліку шляхам правядзення інтэрнэт-кампаній.

Праблема: У Беларусі няма закона, які б рэгуляваў магчымасць прайсці службу, альтэрнатыўную ваеннай. Нягледзячы на тое, што арт. 57 Канстытуцыі РБ замацоўвае права на альтэрнатыўную грамадзянскую службу (АГС), на практыцы скарыстацца гэтым артыкулам немагчыма. У лютым 2010 г. Аляксандр Лукашэнка даручыў распрацаваць нарматыўны акт адносна інстытута альтэрнатыўнай службы ў Беларусі. Дзеля гэтага была створаная адмысловая дзяржаўная міжведамасная працоўная група, аднак працэс распрацоўкі зацягнуўся, а тэкст законапраекта не публікаваўся. У той жа час працягваўся пераслед прызыўнікоў, якія спрабавалі адстаяць сваё права на альтэрнатыўную службу.

Мэта: Стварэнне ўмоваў для таго, каб грамадзяне маглі рэалізаваць сваё права праходзіць альтэрнатыўную грамадзянскую службу, у першую чаргу шляхам падрыхтоўкі і прыняцця адпаведнага закона.

Арганізацыйная структура: Кіраўнік кампаніі, два юрысты, дызайнер, журналіст і валанцёры – агулам восем чалавек.

Апісанне дзейнасці: Спачатку праца кампаніі была сканцэнтраваная на лабіраванні распрацоўкі і прыняцця закона аб АГС. Падчас праведзенага ў 2009 г. сацыялагічнага апытання больш за 70 % рэспандэнтаў заявілі, што хацелі б скарыстацца правам на АГС.

Дзеля папулярызацыі ідэі АГС у кастрычніку 2009 г. быў створаны адмысловы сайт, на якім асвятляўся ход кампаніі, размяшчаліся навіны па тэме АГС і матэрыялы ў дапамогу прызыўнікам. Адмыслова быў распрацаваны яркі дызайн, каб прыцягнуць увагу маладых інтэрнэт-карыстальнікаў. Акрамя таго, паспяхова працуюць групы кампаніі АГС у Facebook і «Вконтакте». Да 70% кліентаў даведваюцца пра кампанію праз сацыяльныя сеткі. Агулам у 2011 г. па дапамогу звярнуліся каля 960 чалавек.

Акрамя вывучэння грамадскай думкі ў Беларусі, ініцыятары кампаніі прааналізавалі досвед замежных краін і падрыхтавалі навукова-практычны дапаможнік «АГС. Стандарты і падыходы да рэфармавання». Выданне было прэзентаванае на міжнароднай канферэнцыі «Грамадзянская служба ў краінах Еўропы і рэгіёне СНД: гісторыя, мадэлі, стандарты. Перспектывы развіцця грамадзянскай службы ў Беларусі», якая адбылася ў Менску 25 траўня 2010 г. У канферэнцыі, арганізаванай Цэнтрам прававой трансфармацыі пры падтрымцы Лонданскай школы эканомікі і палітычных навук (Брытанія), узялі ўдзел вядучыя эксперты ў пытанні альтэрнатыўнай грамадзянскай службы краін Еўропы і СНД, а таксама прадстаўнікі дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь (Палаты прадстаўнікоў, Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, Міністэрства аховы здароўя, Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў, кіраўнікі сацыяльных установаў і ўстановаў аховы здароўя, чальцы прызыўных

камісій) і прадстаўнікі рэлігійных арганізацый ды грамадскасці. Відэарэпартаж з канферэнцыі можна паглядзець тут.

На канферэнцыі была сфармаваная працоўная група, якая сфармулявала свае рэкамендацыі для падрыхтоўкі законапраекта і ўнесла іх на разгляд міжведамаснай працоўнай групы (была створаная Саветам Міністраў у сакавіку 2010 г. для распрацоўкі законапраекта аб АГС). У грамадскую працоўную групу ўвайшлі: праваабарончыя арганізацыі АУ «Цэнтр прававой трансфармацыі» і БРПГА «Беларускі Хельсінскі камітэт», моладзевыя арганізацыі «Рух будучыні», «Маладыя дэмакраты», «Грамадзянскі форум», «Малады фронт», актывісты кампаніі «За АГС у Беларусі».








Міжнародная канферэнцыя «Грамадзянская служба ў краінах Еўропы і рэгіёне СНД» (Менск)

У верасні і кастрычніку 2010 г. актывісты кампаніі накіравалі запыты ад імя Цэнтра прававой трансфармацыі ў сто сацыяльных установ (цэнтры сацыяльнай абароны насельніцтва, шпіталі, хоспісы і г.д.) з пытаннем, ці патрэбныя ім альтэрнатыўныя служачыя. Атрыманыя адказы сведчылі, што ў такіх установах заўжды ёсць патрэба ў працоўных руках і што альтэрнатыўныя служачыя маглі б дапамагчы вырашыць гэтую праблему.

У жніўні 2010 г. з ініцыятывы кампаніі «За АГС у Беларусі» і на запрашэнне Цэнтра грамадзянскай службы Рэспублікі Малдовы адбылася паездка прадстаўнікоў міжведамаснай працоўнай групы і прадстаўніка кампаніі ў Малдову дзеля абмену досведам і атрымання практычных рэкамендацый наконт увядзення АГС у Беларусі.

У той жа час вялася актыўная асветніцкая праца сярод насельніцтва. Для школьнікаў і студэнтаў праводзіліся лекцыі, прысвечаныя АГС. У сакавіку 2010 г. адбыліся чатыры лекцыі ў Медычным універсітэце, а таксама пяць сустрэчаў са школьнікамі Ленінскага раёну Менску ў рамках урокаў па дапрызыўной падрыхтоўцы. Па выніках лекцый-дыскусій у моладзі з'явілася першаснае ўяўленне пра АГС. 15 траўня 2010 г., у Міжнародны дзень адмоўніка ад службы, актывісты кампаніі павіншавалі з гэтым днём студэнтаў менскіх універсітэтаў і раздалі ім флаеры з інфармацыяй пра АГС. Акрамя таго, каардынатары кампаніі ўзялі ўдзел у шэрагу тэматычных круглых сталоў, радыё- і тэлепраграмах.

Таксама прыярытэтнымі кірункамі кампаніі былі маніторынг і юрыдычнае суправаджэнне шэрагу стратэгічных судовых справаў прызыўнікоў, якія патрабавалі рэалізацыі свайго права на альтэрнатыўную службу. Іх гісторыі і хроніка супрацьстаяння з дзяржаўнымі органамі асвятляліся на сайце кампаніі.

У жніўні 2011 г. кампанія пашырыла сваю дзейнасць: цяпер яна дапамагае ўсім прызыўнікам, чые правы парушаюцца, незалежна ад таго, адстойваюць яны права на АГС ці іншыя правы. Актывісты кампаніі наведваюць ваенкаматы падчас прызыўных кампаній і распавядаюць прызыўнікам пра іх правы. Юрысты кампаніі аказваюць юрыдычную дапамогу прызыўнікам, якія сутыкнуліся з парушэннем сваіх правоў з боку Міністэрства абароны. Дзеля павышэння эфектыўнасці прававой дапамогі з восені 2011 г. у аўторкі працуе тэлефонная кансультацыя для прызыўнікоў. На аснове сабранай інфармацыі ды маніторынгу рыхтуюцца справаздачы па выніках кожнай прызыўной кампаніі. Юрысты кампаніі фіксуюць правапарушэнні і адпраўляюць звароты ў дзяржаўныя органы, каб перадухіліць падобныя правапарушэнні ў будучыні. У выніку працы кампаніі ў 2011 г. пачаў функцыянаваць Цэнтр правоў прызыўніка.

У лютым 2012 г. актывісты кампаніі правялі інфармацыйную інтэрнэт-акцыю. 23 і 24 лютага карыстальнікі сацыяльных сетак атрымалі ад кампаніі «За АГС» электронныя позвы ў ваенкамат. Тым, хто яе атрымаў, загадвалася з'явіцца ў ваенкамат і сцвярджалася, што для гэтага цяпер дастаткова атрымаць электронную позву. Націснуўшы на спасылку, пазначаную ў позве, карыстальнікі пераходзілі на адмысловую старонку, дзе ім у зразумелай форме тлумачылася,

што позва можа лічыцца сапраўднаю толькі ў тым выпадку, калі прызыўнік асабіста атрымаў яе ў рукі і паставіў свой подпіс. Такім чынам, актывісты кампаніі нагадалі прызыўнікам пра адно з іхных асноўных правоў, пра якое шмат хто не ведае і якое вельмі часта парушаецца, калі ваенкаматы адпраўляюць паштоўкі ці выклікаюць прызыўнікоў праз тэлефон. У выніку акцыі на старонку кампаніі прыйшлі больш за тысячу чалавек, паступіла 24 тэлефанаванні з пытаннямі, а таксама некалькі зваротаў на пошту і праз сацыяльныя сеткі.

Дасягненні: Галоўным вынікам першага этапу кампаніі, калі ўвага яе ініцыятараў была сканцэнтраваная на праблеме альтэрнатыўнай службы, быў той факт, што пасля шматгадовага перапынку ўлады вярнуліся да распрацоўкі закона аб АГС, а грамадскі сектар здолеў данесці да дзяржаўных органаў сваё бачанне рэалізацыі права на АГС і абгрунтаваць сваю пазіцыю ў гэтай праблеме. І хаця падрыхтоўка закона зацягнулася, законапраект усё ж быў распрацаваны і накіраваны ў Савет Міністраў, адкуль яго павінны адправіць у Палату прадстаўнікоў.







Акцыя ў Міжнародны дзень адмоўніка ад службы

Яшчэ адно не менш важнае дасягненне першага этапу заключаецца ў тым, што прызыўнікі, якія патрабавалі АГС, цяпер не служаць у арміі, бо дзякуючы кампаніі здолелі камісавацца ці атрымаць адтэрмінаванне. Яны чакаюць прыняцця новага закона і магчымасці праходзіць альтэрнатыўную службу. У стратэгічных судовых справах Івана Міхайлава і Змітра Смыка ўдалося перамагчы: раней асуджаныя за ўхіленне прызыўнікі былі цалкам апраўданыя.

За час правядзення кампаніі да яе юрыстаў звярнуліся больш за 800 чалавек. Больш за 100 прызыўнікоў і служачых атрымалі прававую дапамогу і здолелі пазбегчы незаконнага прызыву. Дзякуючы інфармацыйна-асветніцкай дзейнасці павысілася пазнавальнасць АГС сярод асобаў прызыўнога ўзросту і шырокай грамадскасці.

Асноўным дасягненнем другога этапу кампаніі ёсць пераход да сістэмнага маніторынгу сітуацыі з прызыўнікамі і арміяй. Упершыню паслядоўна пачала збірацца статыстыка няшчасных выпадкаў, пачалі фіксавацца парушэнні як з боку прызыўнікоў, так і ваенкаматаў, медкамісій, прызыўных камісій.

Памылкі: Па выніках першых двух гадоў кампаніі яе каардынатары прыйшлі да высновы, што яны павінны працаваць больш сістэмна, каб актывісты і юрысты маглі абгрунтавана адказаць на любое пытанне, з якім да іх звяртаюцца служачыя і прызыўнікі, растлумачыўшы сутнасць праблемы і шляхі яе вырашэння.

Планы на будучыню: Ініцыятары і актывісты кампаніі плануюць стварыць паўнавартасную структуру, якая будзе весці комплексную працу ў сферы абароны правоў прызыўнікоў (ад правоў дапрызыўнікоў да рэзервістаў-запаснікаў), а таксама займацца распрацоўваннем заканадаўчых ініцыятываў у сферы АГС, грамадскага кантролю, скарачэння тэрмінаў прызыву і г. д. На сённяшні момант на сайце кампаніі вядзецца праца для стварэння адмысловага субдамену Цэнтра правоў прызыўніка: www.center.ags.by.

Назва кампаніі

## Стоп 193.1




Час правядзення: Красавік 2009 г. – дагэтуль

Месца: Беларусь

Інструменты: Перформансы, звароты ў дзяржаўныя органы, друкаваныя інфармацыйныя матэрыялы (буклеты), відэаролікі, анімацыйныя ролікі, супраца з міжнароднымі арганізацыямі, сацыяла-гічнае даследаванне (фокус-група і заглыбленыя інтэрв'ю), он-лайн-петыцыя, прэс-рэлізы, інфармацыйная праца ў сацыяльных сетках, сустрэчы з прадстаўнікамі мэтавых групаў, круглыя сталы.

Ініцыятар: Асамблея НДА, культурна-асветніцкая ўстанова Цэнтр «Новае Грамадства»

Праблема: Артыкул 193.1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь прадугледжвае адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі або фонду. Пакаранне за парушэнне артыкула – арышт на тэрмін да шасці месяцаў або пазбаўленне волі на тэрмін да трох гадоў турмы. Ініцыятарам і распрацоўшчыкам артыкула 193.1 ды іншых паправак у Крымінальны кодэкс напярэдадні чарговых прэзідэнцкіх выбараў 2006 г. выступіў Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Нягледзячы на шырокі грамадскі рэзананс у Беларусі і за мяжой, законапраект быў разгледжаны і зацверджаны абедзвюма палатамі Нацыянальнага сходу за рэкордна кароткія тэрміны. Законапраект быў унесены ў парламент ад імя прэзідэнта з паметкай «тэрмінова» 23 лістапада 2005 г., а ўжо 2 снежня 2005 г. быў зацверджаны Палатай прадстаўнікоў. Савет Рэспублікі адзінагалосна прагаласаваў за папраўкі ў Крымінальны кодэкс. 2 студзеня 2006 г. закон быў падпісаны прэзідэнтам і ўступіў у сілу.

Праваабаронцы выступілі супраць увядзення палітычных артыкулаў у крымінальнае заканадаўства. Большасць экспертаў сцвярджала, што асноўнай мэтай паправак было запужванне незалежнай часткі грамадства напярэдадні старту выбарчай кампаніі ды спыненне дзейнасці няўрадавых і палітычных арганізацый праз крымінальны пераслед актывістаў. Ужо ў сакавіку 2006 г. абвінавачванне паводле артыкула 193.1 выставілі чатыром прадстаўнікам незарэгістраванай арганізацыі для назірання за выбарамі «Партнёрства». Агулам паводле гэтага артыкула за перыяд з 2006 да 2009 г. асудзілі 17 чалавек. У 2010–2011 гг. папярэджанні за парушэнне артыкула 193.1 вынеслі шэрагу прадстаўнікоў грамадскіх і рэлігійных арганізацый (паводле наяўных звестак, такія папярэджанні атрымалі прынамсі дзевяць чалавек), якім улады неаднаразова адмаўлялі ў рэгістрацыі.

Наяўнасць артыкула 193.1 замінае свабоднаму развіццю грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, асабліва ўлічваючы надзвычай складаную працэдуру рэгістрацыі грамадскіх аб'яднянняў ды існую практыку беспадстаўных адмоваў у рэгістрацыі. Артыкул 193.1 парушае артыкул 36 Канстытуцыі Беларусі, які гарантуе права на свабоду аб'яднанняў, а таксама супярэчыць Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах ды іншым міжнародным прававым абавязкам, якія ўзяла на сябе Беларусь.

Мэта: *Доўгатэрміновая мэта* – скасаванне артыкула 193.1 Крымінальнага кодэкса Беларусі праз аказанне ціску на ўлады і ўплыў на міжнародныя інстытуцыі шляхам правядзення грамадскімі арганізацыямі супольных дзеянняў ды інфармавання насельніцтва аб праблеме. *Кароткатэрміновая мэта* – прыцягненне грамадскіх актывістаў і прадстаўнікоў хрысціянскіх супольнасцяў да працэсу адвакацыі ды стымуляванне хвалі ціску на ўлады.

Арганізацыйная структура: Кароткатэрміновая мэта дасягалася праз дзейнасць у рамках спецыяльнай кампаніі «Права на веру», арганізаваную цэнтрам

«Новае Грамадства» ў супрацы з Выканаўчым бюро Асамблеі НДА Беларусі. Каардынатарам кампаніі «Права на веру» быў заснавальнік цэнтра «Новае Грамадства». У рэалізацыі кампаніі актыўна ўдзельнічалі юрыдычны кансультант ды інфармацыйны менеджар.

Апісанне дзейнасці:

*Першы этап (2009–2010)*

Напрыканцы красавіка 2009 г. з ініцыятывы Асамблеі НДА быў абвешчаны пачатак кампаніі «Стоп 193.1». Да яе далучыліся больш як 250 грамадскіх аб’яднанняў. Асноўнымі задачамі на першым этапе кампаніі было:

- інфармаванне шырокай грамадскасці пра наяўнасць артыкула 193.1 і негатыўныя наступствы, якія ён мае для развіцця грамадзянскай супольнасці;
- аказанне ціску на ўлады Беларусі, каб дабіцца скасавання ганебнага артыкула і спынення пераследу грамадскіх актывістаў на яго падставе;
- прыцягненне ўвагі міжнароднай грамадскасці ды ўключэнне пытання пра неабходнасць неадкладна адмяніць артыкул 193.1 у палітычны парадак дня, у тым ліку на міжнародным узроўні.

Для інфармавання насельніцтва і прыцягнення ўвагі да праблемы быў створаны інфармацыйна-адукацыйны ролік пра артыкул 193.1, а таксама серыя з пяці сатырычных мульцікаў, закліканых паказаць абсурднасць гэтага артыкула. Гэтыя відэаматэрыялы былі размешчаныя на сэрвісе «YouTube» і адмысловым сайце кампаніі, а таксама дэманстраваліся падчас прэзентацый і акцый, якія праводзіліся ў межах кампаніі. Прадстаўнікі шэрагу незарэгістраваных грамадскіх арганізацый (праваабарончага цэнтра «Вясна», «Маладога Фронту» і «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі») запісалі відэазвароты, дзе адкрыта заявілі, што будуць працягваць сваю дзейнасць на карысць грамадства, нягледзячы на адсутнасць дзяржаўнай рэгістрацыі ды пагрозы выкарыстання супраць іх артыкула 193.1.







Кадры з відэаролікаў кампаніі

Адным з самых яскравых, запамінальных і неардынарных кампанентаў першага этапу кампаніі былі вулічныя перформансы з удзелам вядомых грамадскіх дзеячаў. Першая акцыя адбылася 15 кастрычніка 2009 г.: 15 праваабаронцаў, пераапрануўшыся ў касцюмы Дзядоў Марозаў і Снягурак, прыйшлі да Генеральнай пракуратуры і перадалі афіцыйны зварот, у якім адзначалася, што яны маюць дачыненне да незарэгістраванай арганізацыі Дзядоў Марозаў. «Цягам многіх гадоў мы ажыццяўляем наступную дзейнасць: арганізоўваем святкаванне Новага года ў розных населеных пунктах Беларусі, распаўсюджваем падарункі (у тым ліку сярод няпоўнагадовых), выступаем на сходах, а таксама ў сродках масавай інфармацыі з віншаваннямі», – адзначалася ў дакуменце. У сувязі з тым, што ў Беларусі дзейнічае артыкул 193.1, удзельнікі акцыі звярнуліся да генпракурора з просьбай даць прававую ацэнку іх дзеянняў. У паходзе да Генпракуратуры актывістаў суправаджала вялікая колькасць журналістаў. Нестандартны фармат, фактар нечаканасці (акцыя рыхтавалася з выкананнем крокаў засцярогі) і прысутнасць прадстаўнікоў СМІ вымусілі працаўнікоў пракуратуры прыняць зварот да разгляду. Удзельнікаў акцыі не затрымалі. Праз месяц, 13 лістапада, праваабарончы цэнтр «Вясна» атрымаў з Генпракуратуры афіцыйны адказ, у якім сцвярджалася, што «ў выпадку высвятлення інфармацыі пра сістэмны ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі, група Дзядоў Марозаў будзе прыцягнутая да адказнасці». Сам перформанс, як і рэакцыя Генпракуратуры, прыцягнулі ўвагу вядучых незалежных медыяў і выклікалі вялікі грамадскі рэзананс.







Перформанс 15 кастрычніка 2009 г.

У снежні 2009 г. група «снягурак» і «зайцоў» паспрабавала аднесці ў парламент заяву з патрабаваннем скасаваць артыкул 193.1. Аднак на падыходзе да будынка ўдзельнікаў гэпэнінгу спыніла група невядомых у цывільным. У выніку ў парламент удалося прарвацца адной «снягурцы» (прадстаўніцы Асамблеі НДА) і двум праваабаронцам. Працаўнікі парламенту адмовіліся зарэгістраваць заяву згодна з прадугледжаным законам парадкам, таму яе давялося апусціць у паштовую скрыню. Імправізаваная прэс-канферэнцыя адбылася проста на праспекце Незалежнасці, на ёй удзельнікі акцыі яшчэ раз агучылі сваё патрабаванне адмяніць артыкул 193.1 ды іншыя заканадаўчыя акты, якія забараняюць ці абмяжоўваюць дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў.









Акцыя каля ўваходу ў парламент (снежань 2009 г.)

Яшчэ адзін падобны перформанс адбыўся ў верасні 2010 г. Гэтым разам грамадскія актывісты ў касцюмах персанажаў мультфільма «Шрэк» прыйшлі да будынка Міністэрства замежных справаў, каб нагадаць дыпламатам, што «абяляць аўтарытарны рэжым на міжнароднай арэне – гэта марная і няўдзячная справа». Сатырычная акцыя была адказам на шматлікія заявы чыноўнікаў Міністэрства юстыцыі і дэпутатаў парламенту пра намер адмяніць крымінальную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, зробленыя цягам выбарчага 2010 г., якія, аднак, так і не ператварыліся ў жыццё. Нагодаю для правядзення перформансу выступіў дакумент, адпраўлены беларускім Міністэрствам замежных справаў у ААН 15 верасня 2010 г. У ім сцвярджалася, што Беларусь не прымае рэкамендацыі адносна скасавання артыкула 193.1, бо ён скіраваны на спыненне дзейнасці ў краіне экстрэмісцкіх групаў і арганізацый.

Паралельна з правядзеннем публічных акцый арганізатары кампаніі заклікалі неабыякавых грамадзян падпісваць і адсылаць звароты ў Палату прадстаўнікоў з патрабаваннем выключыць з Крымінальнага кодэксу артыкул 193.1 і скасаваць забарону на дзейнасць незарэгістраваных грамадскіх аб'яднанняў ва ўсіх актах заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Цягам усёй кампаніі праводзіўся маніторынг практыкі прымянення артыкула 193.1. Фіксаваліся, дакументаваліся і аналізаваліся ўсе вядомыя выпадкі выкарыстання гэтай нормы. Рэспубліканскае праваабарончае грамадскае аб'яднанне «Беларускі Хельсінскі камітэт» правяло юрыдычную экспертызу і падрыхтавала экспертнае заключэнне аб неадпаведнасці артыкула 193.1 Канстытуцыі ды міжнародным актам.

Важным кірункам кампаніі было прыцягненне ўвагі міжнароднай супольнасці, што было надзвычай актуальна ў перыяд так званай лібералізацыі, калі адбывалася даволі шмат кантактаў паміж афіцыйнымі асобамі з Еўразвяза і кіраўніцтвам Беларусі. Дзякуючы актыўнай працы ініцыятараў кампаніі «Стоп 193.1», да яе далучыўся шэраг замежных арганізацый, якія высылалі звароты ў дзяржаўныя органы Беларусі, а таксама звярталіся да ўрадаў сваіх краінаў, каб праінфармаваць іх пра існаванне ў беларускім заканадаўстве дыскрымінацыйнага закона ў дачыненні грамадзянскай супольнасці, і заклікалі выкарыстаць магчымыя дыпламатычныя захады дзеля ўплыву на беларускае кіраўніцтва. Кампанію падтрымалі вядучыя еўрапейскія праваабарончыя арганізацыі, у тым ліку «Östgruppen» (Швецыя), «FrontLine Defenders» (Ірландыя), «Civil Belarus» (Чэхія) і «Human Rights House Network». Інфармацыя пра артыкул 193.1 і практыку яго прымянення для падаўлення грамадзянскай актыўнасці агучвалася на міжнародных канферэнцыях (у тым ліку штогадовай Канферэнцыі ў пытанні чалавечага вымярэння АБСЕ) і парламенцкіх слуханнях у Еўразвязе, а таксама ўключалася ў міжнародныя маніторынгі сітуацыі ў Беларусі. У выніку пытанне аб адмене артыкула 193.1 неаднаразова ўздымалася на афіцыйных перамовах як адна з умоваў далейшага дыялогу паміж ЕЗ і беларускімі ўладамі.

*Другі этап (2011 – студзень 2012 г.)*

Аналіз эфектыўнасці першага этапу кампаніі, значнае пагаршэнне грамадска-палітычнай сітуацыі пасля выбараў 2010 г. і змены ў міжнародным становішчы вымусілі арганізатараў кампаніі «Стоп 193.1» перагледзець тактыку яе далейшага правядзення. Было вырашана перамясціць акцэнт з арганізацыі яркіх публічных акцый, накіраваных на прыцягненне ўвагі грамадскасці, на правядзенне больш метадычнай і паслядоўнай працы для аказання ціску на органы ўлады пры адначасовай дэманстрацыі шырокай грамадскай падтрымкі патрабавання адмяніць артыкул 193.1.

Адной з асноўных задачаў, сфармуляваных для гэтага этапу, было атрыманне яснага адказу ад уладаў наконт перспектыў вырашэння гэтай праблемы і/ці механізму прыняцця рашэння для яе пераадолення. Было таксама вырашана

прыцягнуць да працэсу адвакацыі новую зацікаўленую групу – прадстаўнікоў хрысціянскіх супольнасцяў. Такое рашэнне было звязанае з тым, што цягам 2010 г. артыкул 193.1 часта выкарыстоўваўся для запужвання і пераследу вернікаў. Такім чынам, патрабаванне адмяніць артыкул 193.1 зрабілася часткай больш шырокай кампаніі за свабоду веравызнання ў Беларусі.

У межах кампаніі правялі сацыялагічнае даследаванне прадстаўнікоў хрысціянскіх супольнасцяў (фокус-група і заглыбленыя інтэрв’ю), каб высветліць узровень матывацыі гэтай групы адносна свабоды асацыяцый, ступень падрыхтаванасці да дзеяння і актуальныя арганізацыйныя магчымасці для правядзення кампаніі сярод вернікаў. У фокус-групе ўзялі ўдзел 12 чалавек (5 жанчын і 7 мужчын) ва ўзросце ад 18 да 65 гадоў з усіх рэгіёнаў Беларусі. Былі прадстаўленыя праваслаўная, пратэстанцкая, каталіцкая і грэка-каталіцкая канфесіі. Прадметам даследавання было стаўленне актыўных удзельнікаў рэлігійных арганізацый да артыкула 193.1. За мэту ставілася вывучэнне іх зацікаўленасці ў адмене гэтай нормы, а таксама высвятленне, ці сутыкаюцца яны з прававымі праблемамі. Вынікі даследавання выкарыстоўваліся пры планаванні і карэктаванні інфармацыйнага кампаненту кампаніі. Акрамя таго, былі праведзеныя заглыбленыя інтэрв’ю (кожнае інтэрв’ю складалася з 19 пытанняў) з пяццю прадстаўнікамі беларускіх хрысціянскіх супольнасцяў. Даследаванне выявіла, што актыўныя ўдзельнікі рэлігійных арганізацый мала ведаюць пра магчымыя наступствы дзеяння ад імя незарэгістраваных аб’яднанняў і слаба арыентуюцца ў агульным прававым кантэксце, які рэгулюе дзейнасць іх арганізацый.

У той жа час працягвалася праца для высвятлення пазіцыі дзяржаўных органаў адносна перспектыў адмены артыкула 193.1. Актывісты кампаніі накіравалі лісты-звароты наступным адрасатам:

1. кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі;
2. Прэм’ер-міністр;
3. Камітэт дзяржаўнай бяспекі;
4. Пастаянная камісія па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь;
5. Пастаянная камісія па заканадаўстве і судова-прававых пытаннях Палаты прадстаўнікоў;
6. Пастаянная камісія па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў;
7. Пастаянная камісія па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве Савета Рэспублікі;
8. аддзел працы з грамадскімі аб’яднаннямі Адміністрацыі прэзідэнта;
9. Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта;
10. Міністэрства юстыцыі;
11. Генеральная пракуратура;
12. Канстытуцыйны суд;
13. Вярхоўны суд.

Адказы на зварот прыйшлі з усіх дзяржаўных устаноў, акрамя КДБ, Адміністрацыі прэзідэнта, Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра і аддзела працы з грамадскімі аб'яднаннямі Адміністрацыі прэзідэнта. Юрысты кампаніі правялі прававы аналіз адказаў. Шэраг дзяржаўных органаў (Генеральная пракуратура, Вярхоўны суд, Канстытуцыйны суд і Міністэрства юстыцыі) у сваіх адказах пазначылі, што не валодаюць паўнамоцтвамі для ўнясенні законапраектаў на разгляд, бо не ёсць суб'ектамі права заканадаўчай ініцыятывы. Аднак актывісты кампаніі звярталіся да іх як да суб'ектаў нарматворчай ініцыятывы, што валодаюць адпаведнай кампетэнцыяй у распрацоўванні заканадаўчых актаў і ўнясенні прапаноў для іх змены (згодна з артыкулам 44 Закона РБ «Аб нарматыўных актах Рэспублікі Беларусь»). У лістах з Камісіі па нацыянальнай бяспецы і Камісіі па правах чалавека сцвярджалася, што артыкул 193.1 скіраваны на ўмацаванне грамадскага парадку і нацыянальнай бяспекі, абарону правоў і свабод чалавека. Найбольш змястоўны адказ паступіў ад Камісіі па заканадаўстве і судова-прававых пытаннях. З улікам выкладзеных у гэтым лісце аргументаў юрысты кампаніі прыйшлі да высновы, што мэтазгодна падрыхтаваць яшчэ адзін зварот і накіраваць яго ў Генеральную пракуратуру, Вярхоўны суд, Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў ды Пастаянную камісію па заканадаўстве Палаты прадстаўнікоў. Другі зварот заклікаў дзяржаўныя органы яшчэ раз звярнуць увагу на неабходнасць дэкрыміналізацыі дзеянняў, прадугледжаных дыспазіцыяй артыкула 193.1 з улікам пазіцыі, выкладзенай у заключэнні Венецыянскай камісіі.

Для аказання грамадскага ціску на ўлады, каардынатары кампаніі стварылі онлайн-петыцыю «За свабоду грамадскіх аб'яднанняў! За свабоду веравызнання!», у якой падпісанты патрабуюць «выключыць з Крымінальнага кодэксу артыкул 193.1, адмяніць забарону на дзейнасць незарэгістраваных рэлігійных і грамадскіх аб'яднанняў ва ўсіх заканадаўчых актах Беларусі», а таксама заклікаюць беларускія ўлады «захоўваць гарантаваныя правы на свабодны распаўсюд веры, перакананняў і свабоду аб'яднання».

Каб шырока распаўсюдзіць інфармацыю пра кампанію збору подпісаў пад онлайн-петыцыяй, былі выдадзеныя друкаваныя матэрыялы і закладкі для кніг агульным накладам 8 тысяч асобнікаў. Іх распаўсюдзілі сярод прадстаўнікоў хрысціянскіх супольнасцяў і грамадскіх актывістаў у 21 горадзе ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Акрамя таго, былі размешчаныя платныя рэкламныя абвесткі ў Facebook (дзякуючы гэтай абвестцы з тэкстам петыцыі азнаёміліся больш за 3000 чалавек) і банэры на папулярных сярод хрысціянскіх актывістаў інтэрнэт-рэсурсах (www.wwjd.ru і www.news.invictory.org), а таксама вядучых інфармацыйных сайтах (www.belaruspartisan.org і www.gazetaby.com). Таксама былі створаныя адмысловыя старонкі кампаніі ў сацыяльных сетках Twitter і Facebook, дзе размяшчаліся навіны кампаніі ды каментары. Такім чынам забяспечвалася зваротная сувязь паміж каардынатарамі кампаніі ды мэтавымі групамі.

Права на свабоду веравызнання – неад'емнае права. Яно называецца неад'емным, таму што, як і права на жыццё, даецца чалавеку не дзяржавай і не бацькамі, а Самім Богам. Гэтае права ніхто не ўправе адняць ці абмяжаваць.

У той жа час мы бачым, што хрысціяне ў Беларусі сутыкаюцца з тым, што іх права на свабоднае абвяшчэнне сваёй веры, на свабоду евангелізацыі сур'ёзна абмяжоўваецца.




У краіне дзейнічае "Закон аб свабодзе сумлення", а таксама ***артыкул 193.1 Крымінальнага Кодэксу***, якія перашкаджаюць распаўсюду веры.

Мала таго, арт. 193.1 прадугледжвае адказнасць за дзейнасць незарэгістраванай царквы, місіі, служэння, сацыяльнай ці грамадскай арганізацыі - ***да 2-х гадоў турмы***.



Па гэтым артыкуле да крымінальнай адказнасці было прыцягнута не менш за 18 чалавек, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, якія не маглі артымаць рэгістрацыю. ***Тэндэнцыяй апошняга часу з'яўляецца тое, што папярэджанні аб недапушчальнасці дзейнасці без дзяржаўнай рэгістрацыі выносяцца прадстаўнікам хрысціянскіх цэркваў (як гэта было ў Магілёўскай і Гомельскай абласцях).***

У час, калі Беларусь знаходзіцца ў глыбокім духоўным і дэмаграфічным крызісе (за апошнія 16 год насельніцтва краіны скарацілася на 850 тыс. чалавек; мы займаем адно з першых месцаў у свеце па колькасці самагубстваў, зняволеных у турмах, спажыванню алкаголя і абортах), існаванне гэтага артыкула значна перашкаджае працы Хрысціянскай царквы дзеля духоўнага адраджэння народа.

Сёння ў Беларусі існуюць сотні хрысціянскіх абшчын, служэнняў і рэабілітацыйных цэнтраў, якія па розных прычынах не маюць рэгістрацыі, і гэтым самым падпадаюць пад карную норму арт. 193.1.




У сувязі з гэтым мы патрабуем выключыць з Крымінальнага кодэкса артыкул 193.1, адмяніць забарону на дзейнасць незарэгістраваных рэлігійных і грамадскіх аб'яднанняў ва ўсіх заканадаўчых актах Беларусі. Мы заклікаем да захавання гарантаваных правоў на свабоднае распаўсюджванне веры, перакананняў, а таксама на свабоду аб'яднанняў у Беларусі.



## *Падтрымай права на свабоду веры за 30 секунд*

*Падпішы он-лайн петыцыю*

1. Зайдзі па спасылцы **goo.gl/JeisB**

2. Запоўні гэтую форму

SIGN THIS PETITION

Імя → First Name
Прозвішча (Фамилия) → Last Name
e-mail → Email
Адрас → Address
Горад → City
Краіна → Country Select Inside U.S.
Індэкс → Post Code
Why are you signing? Add a reason (optional)
Падпісацца → SIGN
Display my signature publicly
By signing, you accept Change.org's terms of service

3. Раскажы пра збор подпісаў братам і сёстрам, сябрам і знаёмым. Распаўсюдзь гэтую інфармацыю ў сваіх профілях у ВКонтакте, Facebook альбо Twitter

***Кантакты кампаніі***

e-mail: pravanaveru@gmail.com
сайт - www.svabodavery.org
Twitter - twitter.com/#!/Stop193_1.
Facebook - facebook.com/Stop193.1

На просьбы людзей, якія не належаць да актыўных карыстальнікаў інтэрнэту, але выказалі жаданне падпісацца пад петыцыяй (як правіла, людзі старэйшага пакалення), было прынятае рашэнне правесці збор подпісаў і праз звычайныя падпісныя аркушы.

Вялікая ўвага надавалася працы са сродкамі масавай інфармацыі. Цягам другога этапу кампаніі падрыхтавалі і распаўсюдзілі 14 прэс-рэлізаў ды інфармацыйных паведамленняў. Іх публікацыя дастасоўвалася да асноўных дзеянняў кампаніі, у тым ліку: перапіскі з уладамі, збору подпісаў пад онлайн-петыцыяй, сустрэчаў з актывістамі, правядзення круглага стала і г. д. У выніку каля 25 публікацый, прысвечаных праблеме і кампаніі для адмены артыкула 193.1, з'явіліся ў вядучых беларускіх СМІ, у тым ліку ў газеце «Народная Воля», на парталах Naviny.by, Belaruspartizan.org, на радыё «Свабода», сайце «Хартыя'97», Telegraf.by і старонцы «Еўрапейскага радыё для Беларусі», а таксама ў шэрагу іншых беларускіх, расійскіх і ўкраінскіх інтэрнэт-выданняў.

Для данясення інфармацыі пра кампанію да прадстаўнікоў мэтавых групаў быў арганізаваны шэраг сустрэчаў у рэгіёнах, сустрэча ў Менску з рэгіянальнымі прадстаўнікамі, а таксама сустрэчы з прадстаўнікамі розных рэлігійных супольнасцяў сталіцы. Усяго адбылося 17 такіх сходаў (у тым ліку пяць у рэгіёнах), у якіх узялі ўдзел больш за 300 чалавек.

30 студзеня 2012 г. у Менску адбыўся круглы стол «Праблемы веравызнання і свабоды аб'яднанняў у свядомасці сучасных хрысціян», у якім узялі ўдзел прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці і хрысціянскіх арганізацый ды эксперты. Удзельнікі круглага стала правялі аналіз практыкі прымянення артыкула 193.1 у дачыненні рэлігійных і грамадскіх арганізацый, ацанілі патэнцыял хрысціянскага сегмента грамадства ў адвакацыі гэтай праблемы і выказалі свае меркаванні наконт магчымых шляхоў далейшай актывізацыі хрысціянскіх супольнасцяў у адстойванні грамадзянскіх правоў.

Дасягненні: Галоўным дасягненнем першага этапу кампаніі (2009–2010) былі інфармаванне і прыцягненне ўвагі да праблемы шырокіх колаў грамадскасці як у Беларусі, так і за мяжой. Дзякуючы яркім перформансам і актыўнай міжнароднай працы, пытанне аб адмене артыкула 193.1 з'явілася ў палітычным парадку дня на самым высокім узроўні. Скасаванне артыкула зрабілася адной з умоваў далейшага дыялогу паміж ЕС і ўладамі Беларусі. На жаль, разгон дэманстрацыі 19 снежня 2010 г. і далейшае ўзмацненне рэпрэсій перапынілі станоўчую дынаміку ў працы для дэкрыміналізацыі артыкула 193.1.

Дасягненнямі другога этапу кампаніі былі прыцягненне і актывізацыя новай мэтавай групы (хрысціянскія супольнасці) ды арганізацыя планавай кампаніі адвакацыі шляхам зваротаў і рэгулярнай камунікацыі з адпаведнымі дзяржаўнымі органамі. Дзякуючы ўпершыню праведзеным якасным даследаваннем новай мэтавай групы (праз фокус-групы і заглыбленыя інтэрв'ю), удалося сфармуляваць пасыл, адэкватны запатрабаванням вялікай колькасці

прадстаўнікоў хрысціянскіх супольнасцяў. У выніку пад онлайн-петыцыяй за скасаванне артыкула 193.1 падпісаліся 680 чалавек (на сярэдзіну траўня 2012 г.). Яшчэ 260 чалавек паставілі свае подпісы пад аналагічнай петыцыяй на звычайных падпісных аркушах. Актывісты кампаніі накіравалі афіцыйныя звароты ў 13 дзяржаўных устаноў, большасць з якіх адказала на гэтыя запыты. Спалучэнне грамадска-інфармацыйнай кампаніі, асвятлення кампаніі ў медыях і зваротаў у дзяржаўныя структуры прымусіла апошнія сур'ёзна паставіцца да патрабаванняў актывістаў і ўступіць з імі ў камунікацыю.

Памылкі: Трэба адзначыць, што ў рамках кампаніі «Права на веру» не ўдалося сабраць планаваную колькасць подпісаў пад петыцыяй «За свабоду грамадскіх арганізацыяў! За свабоду веравызнання!» (за мэту браліся 1500 подпісаў). Прычына заключаецца перадусім у непадрыхтаванасці прадстаўнікоў мэтавай групы (чальцоў хрысціянскіх супольнасцяў) да ўдзелу ў такой форме грамадскай актыўнасці, як падпісанне петыцыяў. Для іх гэтая форма часта была новай і ўспрымалася як праява «апазіцыйнай», «палітычнай» дзейнасці. Пры гэтым вернікі пагаджаліся з тэзай пра тое, што артыкул 193.1 парушае іх правы.

Планы на будучыню: Арганізатары плануюць працягнуць кампанію інфармавання тых групаў насельніцтва (перадусім прадстаўнікоў хрысціянскіх супольнасцяў), якіх датычыць артыкул 193.1. Інфармаванне плануецца ажыццяўляць праз друк інфармацыйных матэрыялаў, задзейнічанне магчымасцяў інтэрнэту (асабліва сацыяльных сетак), а таксама праз правядзенне крэатыўных акцый і стварэнне мультымедыя-прадукцыі.

Відавочна, што гэтыя групы патрабуюць умацавання правасвядомасці і ўмення актыўна адстойваць свае правы, для чаго плануецца праводзіць спецыяльныя сустрэчы і семінары.

У планах арганізатараў кампаніі працягнуць ліставанне з прадстаўнікамі некаторых дзяржаўных органаў, а таксама накіраваць адпаведныя петыцыі, каб аказаць грамадскі ціск на дзяржаўныя структуры і дамагчыся скасавання артыкула 193.1.

Назва кампаніі

# Прасоўванне інтарэсаў НКА пры распрацоўванні праекта закона «Аб некамерцыйных арганізацыях»



Час правядзення: Сакавік 2011г. - студзень 2012 г.

Месца: Беларусь

Ініцыятар: Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый (Асамблея НДА) і Цэнтр прававой трансфармацыі

Інструменты: Распрацоўванне прапаноў да законапраектаў, калектыўныя звароты, «пасланцы», перамовы з прадстаўнікамі дзяржаўных органаў, сустрэчы з прадстаўнікамі міжнародных арганізацый, удзел у канферэнцыях, маніторынг, прэзентацыі, аналітычныя запіскі, прэс-канферэнцыі, прэс-рэлізы і публічныя заявы, удзел у ток-шоу, інфармацыйная кампанія ў сацыяльных сетках, спецыялізаваны сайт.

Праблема: У 2010 г. з ініцыятывы выканаўчай улады пачалося распрацоўванне праекта закона «Аб некамерцыйных арганізацыях». Гэты новы нарматыўна-прававы акт закранае інтарэсы ўсіх грамадскіх аб'яднанняў, устаноў, палітычных партый, прафесійных саюзаў, рэлігійных арганізацый ды іншых некамерцыйных арганізацый (НКА). Цягам 2010–2011 гг. шэраг суб'ектаў грамадзянскай супольнасці спрабаваў паўплываць на змест будучага законапраекта. Агульным для ўсіх гэтых спробаў было тое, што зацікаўленыя арганізацыі цягам амаль усяго 2010 г. не мелі доступу да канцэпцыі законапраекта. У далейшым пачатковы тэкст законапраекта не ўнеслі ў парламент і накіравалі дапрацоўваць. З ускосных сведчанняў зрабілася відавочна, што гэтая дапрацоўка працягнецца прынамсі да студзеня 2012 г. Аднак праца над законапраектам ажыццяўлялася без прыцягнення шырокага кола грамадскіх аб'яднанняў і НКА іншых формаў. Тэкст канцэпцыі законапраекта па-ранейшаму заставаўся не даступным грамадскасці.

Праблема ўзмацнялася праз тое, што нягледзячы на важнасць законапраекта для ўсіх формаў НКА (грамадскія аб'яднанні, прафсаюзы, рэлігійныя арганізацыі, установы і асацыяцыі) толькі нешматлікія арганізацыі ўсведамлялі значэнне законапраекта і яго наступстваў. Большасць беларускіх НКА не выказвала актыўнай зацікаўленасці ў працы над законапраектам і займала пасіўную пазіцыю. Некаторыя НКА меркавалі, што найлепшым шляхам для данясення свайго бачання да распрацоўшчыкаў законапраекта будзе «калідорнае» лабіраванне – непублічныя перамовы з органамі ўлады і парламентарыямі.

Асамблея НДА, Цэнтр прававой трансфармацыі ды шэраг іншых арганізацый бачылі ў працы над законам справу агульнай важнасці, у якой мае ўдзельнічаць мноства НКА, аб'яднаных агульнай мэтай. Гэтая пазіцыя знайшла падтрымку сярод больш як 110 арганізацый (якія разам маюць больш за 270 тысяч сябраў), што вясною 2011 г. падпісалі калектыўны зварот ва ўрад і парламент з нагоды законапраекта. Летам 2011 г., калі ў працэсе распрацоўвання закона ўзнікла паўза, было прынятае рашэнне правесці грамадскую кампанію з мэтаю паўплываць на змест законапраекта ды іншых заканадаўчых актаў у сферы рэгулявання НКА ў ходзе гэтай паўзы і пасля ўнясення законапраектаў у парламент.

Мэта: Паўплываць на змест праекта закона «Аб некамерцыйных арганізацыях» на стадыі яго распрацоўвання ў інтарэсах арганізацый грамадзянскай супольнасці ды стварыць умовы для аказання такога ўплыву на наступных этапах праходжання законапраекта.

Задачы:

- адлюстраваць у змесце праекта закона «Аб некамерцыйных арганізацыях» інтарэсы тых арганізацый, на якія будзе распаўсюджвацца яго дзеянне;
- зрабіць абмеркаванне будучага закона адкрытым і даступным шырокай грамадскасці.

Арганізацыйная структура:

- Выканаўчае бюро Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый – планаванне і агульная каардынацыя кампаніі.
- Цэнтр прававой трансфармацыі – каардынацыя, юрыдычная экспертыза і прававое суправаджэнне кампаніі.
- Пасланцы (дзве асобы) – аўтарытэтныя прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці, якім дэлегавалі права весці перамовы з дзяржаўнымі органамі ад імя кампаніі.
- Праваабарончыя арганізацыі – рух «За свабоду», праваабарончы цэнтр «Вясна» і Беларускі Хельсінскі камітэт – далучыліся да кампаніі ў кастрычніку 2011 г.

Да разнастайных дзеянняў у межах другога кампанента праекта (падпісанне петыцый, агучванне пазіцыі ў прэсе, распаўсюджанне супольнай пазіцыі, накіраванне прапановы аб супрацы ў Міністэрства юстыцыі, сустрэчы з дэпутатамі парламента) далучыліся 112 няўрадавых арганізацый розных відаў і кірункаў дзейнасці.

Апісанне дзейнасці: Абапіраючыся на праведзеныя даследаванні практыкі працы грамадскіх радаў у Беларусі, у верасні 2011 г. каардынатары і юрысты кампаніі распрацавалі канцэпцыю для стварэння механізма ўзгаднення інтарэсаў грамадскасці ў працэсе заканатворчай дзейнасці. Канцэпцыя грунтуецца на ідэі стварэння сталай грамадскай рады пры парламенце для абмеркавання заканадаўчых зменаў, якія закранаюць інтарэсы НКА. Гэтую канцэпцыю ў снежні 2011 г. перадалі ў Міністэрства юстыцыі і дэпутатам парламента.

29 верасня 2011 г. кіраўнікі кампаніі правялі прэзентацыю, прысвечаную ўнясенню зменаў у беларускае заканадаўства аб НКА, на Нарадзе АБСЕ ў пытанні чалавечага вымярэння[1], якая адбылася ў Варшаве. Яны пазнаёмілі аўдыторыю з дакладам пра рэгістрацыю грамадскіх аб’яднанняў у Рэспубліцы Беларусь, у тым ліку са статыстыкаю і аналізам юрыдычнай практыкі. Дакладчыкі таксама расказалі пра досвед супрацы разнастайных беларускіх НКА з мэтай абароны сваіх інтарэсаў, звязаных з магчымым прыняццем новага закона аб некамерцыйных арганізацыях. Апроч таго, былі прэзентаваныя прапановы для магчымага паляпшэння прававых умоваў стварэння і функцыянавання НКА, уключаючы патэнцыйную адмену артыкула $193^1$ Крымінальнага кодэкса[2] (прадугледжвае пакаранне за дзейнасць незарэгістраваных грамадскіх аб’яднанняў, рэлігійных арганізацый, фондаў). У прэзентацыі ўдзельнічалі 20 асобаў, у тым ліку прадстаўнікі НКА краін АБСЕ, прадстаўнікі амерыканскай і беларускай афіцыйных дэлегацый, журналісты.

[1] Гэты штогадовы двухтыднёвы форум збірае афіцыйныя дэлегацыі ды прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці краін – чальцоў Арганізацыі бяспекі і супрацы ў Еўропе для абмеркавання найважнейшых аспектаў забеспячэння фундаментальных правоў і свабод чалавека. Падчас пленарных паседжанняў і паралельных падзеяў дзяржаўныя чыноўнікі і грамадскія дзеячы атрымліваюць роўныя магчымасці выказаць пазіцыю і абмяняцца меркаваннямі.
[2] Ужываецца таксама напісанне «артыкул 193.1» (гл., напрыклад, раздзел, прысвечаны кампаніі «Стоп 193.1»).

У той жа час вялася праца для стварэння сайта «Права НДА ў дзеянні», прысвечанага найбольш актуальным пытанням рэфармавання права НКА. Сайт мусіў зрабіцца платформаю, дзе грамадзянскія актывісты, прадстаўнікі СМІ ды іншыя зацікаўленыя асобы змогуць лёгка знайсці інфармацыю і тлумачэнні наконт кампаній адвакацыі, што закранаюць інтарэсы НКА ў галіне заканадаўства, у тым ліку як ужо завершаных, так і тых, што ажыццяўляюцца ў гэты момант (напрыклад, кампанія супраць паспешнага прыняцця закона аб НКА, супраць артыкула 193[1] Крымінальнага кодэкса, у справе заканадаўства аб дабрачыннасці, супраць зменаў у закон аб КДБ ды інш.). Пры гэтым у дачыненні кожнай кампаніі будуць падавацца інфармацыя пра змест планаваных зменаў у заканадаўстве, экспертныя высновы і пазіцыя НКА, інфармацыя пра супольныя дзеянні і магчымасць далучыцца да іх (у тым ліку ў выглядзе петыцый). Такі фармат сайта, на думку кіраўніцтва кампаніі для прасоўвання інтарэсаў НКА, дазволіць яму з часам зрабіцца асноўным рэсурсам, які акумулюе прававыя кампаненты разнастайных кампаній адвакацыі.

*Нечаканы паварот: хроніка адной кампаніі*

12 кастрычніка 2011 г. а 20:00 актывісты кампаніі атрымалі інфармацыю пра тое, што Палата прадстаўнікоў без якога-небудзь публічнага абмеркавання прыняла шэраг законаў, якія істотна абмяжоўваюць магчымасці для грамадскай дзейнасці ў Беларусі. Звесткі пра палажэнні новых законаў (пазней іх назавуць «антырэвалюцыйным пакетам») не маглі не выклікаць трывогі пра лёс грамадзянскай супольнасці і патрабавалі неадкладнага дзеяння.

У першую чаргу высілкі былі скіраваныя на інфармаванне шырокай грамадскасці пра тое, што адбываецца. Паведамленні аб прынятых законах ды іх магчымых наступствах былі неадкладна распаўсюджаныя ў сацыяльных сетках – як на старонках Асамблеі НДА і Цэнтра прававой трансфармацыі, так і ў прыватных блогах актывістаў кампаніі. Вечарам таго ж дня інфармацыя пра новыя законапраекты з каментарамі пасланцоў і юрыстаў кампаніі праз «Skype» была накіраваная ў незалежныя інтэрнэт-выданні (радыё «Свабода», «Наша Ніва», «Беларускі Партызан», «Еўрапейскае радыё для Беларусі») і атрымала максімальна шырокі розгалас. Гэтая навіна цягам тыдня была ў спісе самых папулярных артыкулаў на сайце газеты «Наша Ніва» (самы папулярны беларускамоўны рэсурс у Байнэце), а таксама была ў топе на шматлікіх іншых інфармацыйных сайтах і парталах.

У той жа час вялася праца для экстранай мабілізацыі структур грамадзянскай супольнасці дзеля абароны ўласных інтарэсаў. У ноч з 12 на 13 кастрычніка сярод НДА праз электронную рассылку Цэнтра прававой трансфармацыі распаўсюдзілі інфармацыю пра новыя законапраекты (было атрымана больш за 100 адказаў). На падставе праведзенай прававой экспертызы і аналізу атрыманых каментарыяў была распрацаваная супольная заява лідараў аўтарытэтных НКА, якую накіравалі ў парламент, Савет Міністраў і Канстытуцыйны суд. Заяву падпісалі прадстаўнікі дзесяці вядучых грамадскіх арганізацый краіны.

13 кастрычніка ў Менску адбылася прэс-канферэнцыя лідараў НДА, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі Беларускага Хельсінскага камітэта, праваабарончага цэнтра «Вясна», Асамблеі НДА і Цэнтра прававой трансфармацыі. На гэтай прэс-канферэнцыі была агучаная заява пра пагрозу значнага абмежавання правоў чалавека на ўзроўні заканадаўства. Прысутнічалі ключавыя незалежныя СМІ: «БелаПАН», «Белсат», радыё «Свабода» ды інш. (агулам каля 15 медыяў).

У той жа дзень прадстаўнікі Асамблеі НДА і ПЦ «Вясна» наведалі амбасады краін Еўрасаюза і ЗША, дзе паведамілі пра ўвядзенне новых рэпрэсіўных законаў. Прадстаўнікі Еўрасаюза прапанавалі агучыць пазіцыю НКА ў гэтым пытанні на адмысловай сустрэчы ўсіх кіраўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў краін ЕС у Беларусі, якая адбылася праз тыдзень.

Увечары 13 кастрычніка прайшла сустрэча юрыстаў НДА для планавання наступнай супольнай рэакцыі на рэпрэсіўныя законапраекты. У выніку быў прыняты план дзеянняў для стварэння аналітычнай запіскі і падрыхтоўкі калектыўнага звароту ў Канстытуцыйны суд. Ужо праз два дні аналітычную запіску падрыхтавалі і апублікавалі ў інтэрнэце. Тэксты законапраектаў і аналітычнай запіскі пераклалі на англійскую мову і разаслалі замежным партнёрам для арганізацыі міжнароднай кампаніі салідарнасці.

Аднак асноўныя высілкі былі скіраваныя на актывізацыю структур грамадзянскай супольнасці для аказання ціску на ўлады Беларусі. Каардынатары і юрысты кампаніі падрыхтавалі заяву ў Савет Рэспублікі з заклікам адхіліць законапраект. Цягам некалькіх дзён нацыянальныя і рэгіянальныя каардынатары кампаніі сустракаліся са сваімі калегамі з грамадскіх арганізацый, каб тыя змаглі асабіста паставіць свае подпісы пад заявай. У выніку гэтай беспрэцэдэнтнай у сваёй інтэнсіўнасці акцыі, праведзенай за надзвычай сціслы час, пад заяваю падпісаліся больш як 30 арганізацый. 18 кастрычніка яе перадалі ў Савет Рэспублікі.

Совет Республики
Национального Собрания Республики Беларусь
220016, г. Минск, ул. Красноармейская, 4

**Коллективное обращение**

Мы, представители некоммерческих организаций, граждане Республики Беларусь, призываем Совет Республики отклонить принятые Палатой представителей:

1. Проект Закона Республики Беларусь «О внесении изменений и дополнений в Закон Республики Беларусь «О массовых мероприятиях в Республике Беларусь».

2. Проект Закона Республики Беларусь «О внесении дополнений и изменений в некоторые законы Республики Беларусь, внесенные Постановлением Президиума Совета Республики Национального Собрания Республики Беларусь «О внесении дополнений в повестку дня седьмой сессии Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь четвертого созыва» в повестку дня седьмой сессии Совета Республики.

Мы считаем, что данные законопроекты противоречат Конституции Республики Беларусь (статьи 25, 33, 35, 36), а также Всеобщей декларации прав человека и международным обязательствам Республики Беларусь, в частности, Международному пакту о гражданских и политических правах, Руководящим принципам ОБСЕ по свободе мирных собраний, направлены на чрезмерное ограничение прав и свобод граждан, препятствуют нормальному общественному диалогу в Беларуси.

При принятии решения об одобрении или отклонении текстов законопроектов предлагаем вам руководствоваться также мнением общественности по данному поводу. В связи с этим прилагаем к настоящему обращению Анализ изменений и дополнений, предлагаемых к внесению в законодательство Республики Беларусь, подготовленным правозащитными организациями Республики Беларусь.

Просим вас информировать членов Совета Республики о настоящем обращении и о содержании Анализа изменений и дополнений, предлагаемых к внесению в законодательство Республики Беларусь, подготовленного правозащитными организациями Республики Беларусь, на заседании сессии Совета Республики при рассмотрении данных законопроектов.

Просим вас дать обоснованный ответ по существу данного коллективного обращения на адрес Просветительского учреждения «Центр правовой трансформации», ул. Нововиленская, 38-10, г. Минск, 220053.

**Приложение:**

1. Анализ изменений и дополнений, предлагаемых к внесению в законодательство Республики Беларусь, подготовленный правозащитными организациями Республики Беларусь 17 октября 2011 года на 13 листах.

**Подписи и печати:**

Тэкст калектыўнага звароту ў Савет Рэспублікі

Апроч гэтага, быў падрыхтаваны яшчэ адзін дакумент – калектыўны зварот у Канстытуцыйны суд. У ім заяўнікі заклікалі Канстытуцыйны суд на этапе папярэдняга канстытуцыйнага разгляду, які ажыццяўляецца гэтым органам пасля прыняцця законаў Палатай прадстаўнікоў ды іх зацвярджэння Саветам Рэспублікі і перад перадачай на подпіс прэзідэнту, скарыстацца сваімі паўнамоцтвамі і не дапусціць значнага парушэння канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян. У звароце прыводзіліся канкрэтныя прыклады супярэчання новых законаў нормам АБСЕ і палажэнням Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. У заяве ўтрымліваецца выснова, зробленая на падставе падрабязнага аналізу, пра тое, што неабходна прызнаць не адпаведнымі Канстытуцыі Закон «Аб унясенні зменаў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб масавых мерапрыемствах у РБ"» і Закон «Аб унясенні дапаўненняў і зменаў у некаторыя законы РБ». Заяву падпісалі прадстаўнікі 26 грамадскіх арганізацый, і яе перадалі ў Канстытуцыйны суд 24 кастрычніка.

27 кастрычніка адбылася яшчэ адна прэс-канферэнцыя, прысвечаная ўзгадненню праваабаронцамі і палітыкамі пазіцыі адносна рэпрэсіўных папраўак у заканадаўства.

Нягледзячы на шырокі грамадскі рэзананс і жорсткую крытыку з боку міжнароднай супольнасці, 28 кастрычніка 2011 г. Канстытуцыйны суд пастанавіў прызнаць новыя законы адпаведнымі Канстытуцыі РБ. Праз два тыдні Аляксандр Лукашэнка падпісаў папраўкі да закона аб масавых мерапрыемствах ды іншых законаў, якія закранаюць дзейнасць палітычных партый і грамадскіх арганізацый. 14 лістапада 2011 г. яны ўступілі ў сілу.

*Закон «Аб некамерцыйных арганізацыях»: кампанія працягваецца*

Нягледзячы на тое, што ў сілу надзвычайных абставін усе рэсурсы кампаніі цягам некалькіх тыдняў былі кінутыя на супрацьстаянне прыняццю новых рэпрэсіўных законаў, ужо напрыканцы кастрычніка яе каардынатары працягнулі працу для прыцягнення грамадскасці да абмеркавання і падрыхтоўкі новага закона «Аб некамерцыйных арганізацыях». 24–25 кастрычніка 2011 г. прадстаўнікі кампаніі агучылі сваю пазіцыю ў пытанні законапраекта на Беларускім сацыяльным форуме «Улада – бізнес – грамадства: разам паляпшаем якасць жыцця» ў Гомелі. Ад прадстаўнікоў сацыяльных арганізацый і органаў улады была атрыманая інфармацыя пра тое, што праект закона аб НКА па-ранейшаму дапрацоўваецца і хутчэй за ўсё будзе зноў вынесены на разгляд парламента ў 2012 г.

У снежні каардынатары кампаніі разам з міжнародным сацыяльна-эканамічным фондам «Ідэя» выступілі з ініцыятывай увесці ў беларускае заканадаўства норму аб адлічэнні 1% падаткаў на карысць НКА. Мэта – абмеркаванне зменаў у заканадаўстве аб дабрачыннасці і дабрачынных арганізацыях. 6 снежня юрыстка і каардынатарка кампаніі Вольга Смалянка ўзяла ўдзел у прысвечанай гэтай праблеме праграме ў эфіры найбуйнейшага ў Беларусі інтэрнэт-каналу «TUT.BY-ТВ».

15 снежня 2011 г. прадстаўнік кампаніі Юрый Чавусаў выступіў на канферэнцыі «Узаемадзеянне грамадскага і дзяржаўнага сектараў у сферы жыллёвага кіравання: мадэль дыялога», на якой з дэпутатамі абмяркоўвалася заканатворчая дзейнасць.

На пачатку студзеня 2012 г. некалькі вядучых НДА краіны падалі новаму міністру юстыцыі Алегу Сліжэўскаму зварот, у якім прапаноўваліся канкрэтныя дзеянні, накіраваныя на прывядзенне нарматворчага працэсу ў адпаведнасць з патрэбамі НКА. Гэты зварот і прапановы новаму міністру сустрэцца з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці для яго абмеркавання былі таксама агучаныя на адмыслова арганізаванай прэс-канферэнцыі.

14 студзеня 2012 г. Вольга Смалянка ўзяла ўдзел у ток-шоу Агульнанацыянальнага тэлебачання (АНТ), прысвечаным пытанням дабрачыннасці (эфір адбыўся 16 студзеня). У гэтым жа месяцы яна сустрэлася з прадстаўніком Цэнтра законапраектавай дзейнасці, каб абмеркаваць змест паправак, якія ўносяцца ў закон «Аб грамадскіх аб’яднаннях».

У студзені быў складзены і выдадзены зборнік маніторынгавых і аглядных матэрыялаў аб прававым становішчы НКА і свабодзе асацыяцый у Беларусі ў 2011 г. Яго прэзентацыя адбылася 23 студзеня 2012 г. Зборнік распаўсюджваецца сярод некамерцыйных арганізацый і грамадзянскіх ініцыятыў.

Цягам усёй кампаніі яе каардынатары надавалі вялікую ўвагу інфармацыйнай працы. Рыхтаваліся прэс-рэлізы пра ўсе ключавыя дзеянні: падачу петы-цый і зваротаў, атрыманне адказаў на іх з дзяржаўных інстанцый, заявы і рэакцыю грамадскіх лідараў на прыняцце паправак у законы і г. д. Рэгулярна праводзіліся прэс-канферэнцыі ды прэзентацыі. Актывісты таксама давалі шматлікія каментары прэсе, што падтрымлівала грамадскую цікавасць да праблемаў, якія яны падымалі. Апроч гэтага, аналітычныя артыкулы Юрыя Чавусава («Антырэвалюцыйны пакет» і «Флёр законнасці»), якія тлумачылі палажэнні новых законаў і прапаноў да змянення заканадаўства аб дабрачыннасці і грамадскіх аб’яднаннях, былі апублікаваныя ў нумарах часопіса «Асамблея» за лістапад і снежань 2011 г.

На дадатак да гэтага актывісты кампаніі выкарыстоўвалі патэнцыял сацыяльных сетак, асабліва на этапе барацьбы з унясеннем рэпрэсіўных паправак у шэраг законаў у кастрычніку 2011 г. Інфармацыя пра ўсе крокі і гарачыя навіны кампаніі аператыўна распаўсюджваліся праз профіль Асамблеі НДА на «Facebook» (459 беларуска- і рускамоўных карыстальнікаў і 124 англамоўныя карыстальнікі), профілі пасланцоў і кіраўнікоў кампаніі ў гэтай жа сетцы (з агульным ахопам больш як 1900 карыстальнікаў). Інфармацыйныя матэрыялы кампаніі таксама размяшчаліся на сайце Цэнтра прававой трансфармацыі ды распаўсюджваліся праз электронную рассылку Нацыянальнай платформы Форума грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства (яе атрымліваюць больш за 90 грамадскіх дзеячаў Беларусі).

У студзені 2012 г. пачаў працу сайт, прысвечаны маніторынгу прававога становішча НДА і свабоды асацыяцый, а таксама досведу правядзення кампаній для прасоўвання інтарэсаў НДА ў галіне заканадаўства http://www.ngobylaw.org.

Дасягненні: Апроч традыцыйных метадаў правядзення кампаніі адвакацыі была знойдзеная новая форма прадстаўніцтва інтарэсаў грамадскага сектара – пасланцы, якія атрымалі паўнамоцтвы прадстаўляць кампанію і весці перамовы ад яе імя. Гэта дазволіла не толькі персаніфікаваць кампанію, захаваўшы пры гэтым шырокае прадстаўніцтва ўсяго сектара, але дзейнічаць хутка і эфектыўна, калі гэтага патрабавалі абставіны, не губляючы часу на бюракратычную цяганіну.

Каардынатары і актывісты кампаніі праявілі гнуткасць і падрыхтаванасць, адаптаваўшы ініцыятыву да экстранай сітуацыі, звязанай з нечаканым для грамадскасці ўнясеннем неспрыяльных паправак у шэраг законаў. Нягледзячы на тое, што актывісты кампаніі не здолелі спыніць або адмяніць прынятце гэтых паправак, яны змаглі за кароткі час мабілізаваць дзясяткі няўрадавых арганізацый на абарону агульных інтарэсаў і адпрацаваць усе наяўныя легальныя механізмы для данясення і адстойвання сваёй пазіцыі, прычым не толькі ў Беларусі, але і на міжнародным узроўні.

Застаючыся сфакусаванымі на працэсе падрыхтоўкі і прыняцця закона «Аб некамерцыйных арганізацыях», каардынатары кампаніі выкарыстоўвалі любыя магчымасці для прыцягнення ўвагі да гэтай тэмы, выступаючы з новымі ініцыятывамі і закранаючы сумежныя тэмы, такія як палажэнне аб грамадскіх радах або закон аб дабрачыннасці. Усё гэта дапамагло вывесці пытанне аб рэфармаванні заканадаўства, што датычыць грамадскіх арганізацый, у публічную сферу, хаця дамагчыся выканання стратэгічнай мэты кампаніі не ўдалося, бо сама працэдура распрацоўвання рамачнага заканадаўства аб НКА па-ранейшаму застаецца непублічнаю.

Актыўныя дзеянні ў межах кампаніі, а таксама яе інтэнсіўны інфармацыйны складнік прыцягнулі ўвагу нават дзяржаўных СМІ. У выніку каардынатарку кампаніі запрасілі ў эфір аднаго з нацыянальных тэлеканалаў, і яна скарысталася з гэтай магчымасці, каб данесці ідэі кампаніі да шырокай аўдыторыі.

Па выніках працы ў 2011 г. кампанію для прасоўвання інтарэсаў НКА пры распрацоўванні закона «Аб некамерцыйных арганізацыях» узнагародзілі званнем «Кампанія года» ў межах штогадовай цырымоніі ўручэння прэміі «Чэмпіён грамадзянскай супольнасці».




В. Смалянка (трэцяя злева) і Ю. Чавусаў (першы справа) разам з іншымі «Чэмпіёнамі грамадзянскай супольнасці 2011 г.»

Памылкі: Планы на доўгачасовую мабілізацыя грамадскіх актывістаў праз каналы віртуальнай камунікацыі ў сацыяльных сетках аказаліся нерэалістычнымі: гэты канал мае значэнне для аператыўнага распаўсюду інфармацыі ды кароткачасовай «выбуховай» актыўнасці. Для стварэння больш устойлівых працоўных сувязяў у межах кампаніі неабходныя формы інстытуцыяналізацыі сувязяў, напрацаваных у сацыяльных сетках.

Планы на будучыню: На сённяшні момант кампанія скончылася, бо законапраект адкладзены і прымацца бліжэйшым часам не будзе. Досвед кампаніі (у тым ліку адносна аператыўнага рэагавання і збору за кароткі тэрмін максімальнай колькасці афіцыйных подпісаў ад уплывовых НДА) будзе выкарыстоўвацца ў выпадку ініцыявання новых грамадска-прававых дзеянняў. Мяркуецца, што гэтыя дзеянні могуць быць больш пазітыўныя – ад рэакцыі на прапанаваныя змены НКА разлічваюць перайсці да прасоўвання выгодных для сябе заканадаўчых нормаў.

Назва кампаніі

# У Беларусь і Еўропу – БЕЗ ВІЗЫ!




Час правядзення: Студзень 2011 г. – дагэтуль

Месца: Беларусь, Літва

Ініцыятар: Грамадская арганізацыя «Belarus Watch», скарочана – «ByWatch» (Літва)

Інструменты: Шырокая кааліцыя грамадскіх арганізацый, інфармацыйная кампанія, публічныя імпрэзы ды акцыі, конкурс эсэ, відэадзённікі, онлайн-маніфест, звароты, праца з валанцёрамі.

Праблема: Беларусь адмежаваная ад Еўропы «шэнгенскім плотам», што спрыяе далейшай ізаляцыі краіны і кансервацыі палітычнага рэжыму. Размовы пра развіццё супрацы паміж Беларуссю і краінамі Еўрасаюза ў галіне бізнесу, культуры, адукацыі, міжчалавечых кантактаў і грамадзянскай супольнасці застануцца толькі дэкларацыямі, пакуль паездка ў суседнія еўрапейскія дзяржавы будзе патрабаваць праходжання складанай і доўгай працэдуры, а візы будуць такія дарагія (60 еўра). Згодна з вынікамі незалежнага сацыялагічнага апытання, праведзенага ў снежні 2008 г., 67% грамадзян Беларусі ніколі не былі ў краінах ЕЗ. 51% рэспандэнтаў адказаў, што ніколі не камунікаваў з замежнікамі. Толькі 8,3% апытаных спрабавалі звярнуцца па шэнгенскую візу ў той год; з іх 81% назваў працэс атрымання візы складаным ці вельмі складаным. Пры гэтым большасць (57%) мяркуе, што вінаватыя ў такой сітуацыі беларускія ўлады; 22% вінавацяць урады краін Еўрасаюза, і 21,6% лічаць адказнымі амбасады краін ЕС.

У 2009 г. падчас так званай лібералізацыі і пацяплення ў адносінах паміж афіцыйнымі ўладамі Беларусі і ЕЗ пачалі адбывацца пазітыўныя зрухі ў дыскусіях адносна магчымага спрашчэння візавага рэжыму. Грамадскія арганізацыі, у першую чаргу «Офіс за дэмакратычную Беларусь» і рух «За свабоду», распачалі кампанію за таннейшыя візы для беларускіх грамадзян. Аднак жорсткі разгон дэманстрацыі 19 снежня 2010 г. і далейшая хваля рэпрэсій прыпынілі гэтыя працэсы. Беларускі рэжым вярнуўся да палітыкі самаізаляцыі, у той час як Еўрасаюз спрабуе з аднаго боку аказваць ціск на беларускія ўлады ў выглядзе кропкавых санкцыяў дзеля дэмакратызацыі ды паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, а з другога – стымуляваць больш актыўныя кантакты паміж простымі людзьмі па абодва бакі шэнгенскай мяжы. У 2011 г. Латвія і Польшча адмянілі візавы збор за нацыянальныя візы для грамадзян Беларусі. Міністр замежных справаў Літвы Аўдронюс Ажубаліс заявіў, што спрашчэнне візавага рэжыму было б «найлепшай падтрымкай грамадзянскай супольнасці ў Беларусі».

У лютым 2011 г. Рада ЕЗ дала Еўракамісіі зялёнае святло на пачатак перамоваў з афіцыйным Менскам наконт працэдуры спрашчэння візавага рэжыму. Беларускія ўлады, аднак, апасаюцца гэтага працэсу, бо разумеюць, што людзі, якія выступаюць за збліжэнне Беларусі і Еўропы, хочуць бачыць сваю краіну адкрытай і дэмакратычнай. Спрашчэнне візавага рэжыму – важнае палітычнае пытанне, якое можа быць выкарыстанае для мабілізацыі ды актывізацыі грамадзян. Свабода перамяшчэння – гэта адно з фундаментальных правоў, замацаваных у Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека і Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах, падпісаных Беларуссю.

Мэта:
*Доўгатэрміновая:* Адмена візавага рэжыму паміж ЕЗ і Беларуссю (для абодвух бакоў).
*Сярэднетэрміновая:* Спрашчэнне візавага рэжыму; зніжэнне ці адмена візавага збору; паляпшэнне якасці абслугоўвання людзей, якія звяртаюцца па візы.
*Кароткатэрміновая:* Прыцягненне ўвагі да візавай праблемы, павышэнне ўзроўню інфармаванасці, прыцягненне новых прыхільнікаў у шэрагі грамадзянскай супольнасці.

Арганізацыйная структура: Гэтую міжнародную кампанію ажыццяўляе шырокая кааліцыя грамадскіх арганізацый ды ініцыятыў з Беларусі і краін ЕЗ. Удзельнікаў кааліцыі можна падзяліць на сябраў і партнёраў.

*Сябры кааліцыі (members)* – гэта рэальныя арганізацыі ды ініцыятывы грамадзянскай супольнасці, якія ажыццяўляюць профільную дзейнасць у Беларусі. Толькі сябры маюць права вырашальнага голасу пры прыняцці рашэнняў.

*Партнёры кааліцыі (stakeholders)* – гэта арганізацыі, якія падзяляюць мэты і задачы кааліцыі ды спрыяюць іх папулярызацыі. Партнёры могуць прысутнічаць на сустрэчах і абмеркаваннях на правах дарадчага голасу.

Грамадскае аб’яднанне «Belarus Watch» выступае ініцыятарам, сябрам і каардынатарам кампаніі.

Апісанне дзейнасці:
*Пабудова кааліцыі*

У сакавіку 2011 г. з ініцыятывы «ByWatch» у Літве адбылася працоўная сустрэча грамадскіх арганізацый з Беларусі і краін ЕС, якія выказалі зацікаўленасць у супрацы ў межах кампаніі. У сустрэчы ўзялі ўдзел 23 асобы, якія прадстаўлялі 16 арганізацый з Беларусі, Чэхіі, Польшчы і Эстоніі. Сябры кааліцыі падзяліліся сваім бачаннем і планамі адносна ўдзелу сваіх арганізацый у кампаніі. На сустрэчы зацвердзілі назву, мэты і задачы кампаніі, а таксама яе мэтавыя групы.

Другая працоўная сустрэча адбылася ў чэрвені 2011 г. ужо ў Менску. У ёй удзельнічалі прадстаўнікі сямі вядучых НДА. На гэтай сустрэчы каманда абмеркавала супольныя дзеянні і праблемы, з якімі сутыкнулася кампанія. Асноўная ўвага надавалася ўмацаванню кааліцыі беларускіх НДА, якія выказалі жаданне папулярызаваць ідэі візавай лібералізацыі. У выніку сябры кааліцыі выпрацавалі правілы працы кааліцыі ды сяброўства ў ёй, стратэгічныя мэты і магчымыя шляхі супрацы. На сустрэчы таксама дасягнулі дамоўленасцяў пра канкрэтныя супольныя акцыі і дзеянні, у тым ліку аб працы сайта «Еўропа без візавых межаў».

Увосень 2011 г. кампанія «БЕЗ ВІЗЫ!» пачала ладзіць трэнінгі для валанцёраў, якія жадалі далучыцца да яе дзейнасці. Абвестку размясцілі на сайце кааліцыі. Запоўніць і падаць заяўку на ўдзел мог любы ахвотны.

*Інфармацыйны кірунак*

Інфармацыйнай працай у кампаніі займаецца спецыяльны каардынатар, які адказвае за сувязі са СМІ, падрыхтоўку і распаўсюд прэс-рэлізаў, размяшчэнне іншых інфармацыйных матэрыялаў, а таксама рэгулярна праводзіць маніторынг публікацый па візавай тэматыцы ў беларускіх выданнях.

*Медыя-стратэгія кампаніі падзяляецца на два асноўныя кірункі:*

- Распаўсюд інфармацыі пра кампанію ў СМІ шляхам рассылкі прэс-рэлізаў у вядучыя інфармацыйныя агенцтвы («БелаПАН» і «REGNUM-Беларусь») і на партал TUT.BY пра асноўныя падзеі ў межах кампаніі. Тэмы прэс-рэлізаў уключалі: афіцыйны пачатак кампаніі (у тым ліку прэс-канферэнцыю ў Вільні), выступ гурта «Ляпіс Трубяцкой» у Вільні ў падтрымку кампаніі, асноўныя этапы фотаакцыі «БЕЗ ВІЗЫ!» і конкурсу эсэ.
- Тэматычныя артыкулы: асабістыя гісторыі ды аналітыка. Аналітычныя матэрыялы прысвячаліся палітычным аспектам візавай праблемы; магчымым сцэнарам развіцця падзей у адносінах паміж Беларуссю і ЕЗ у кірунку спрашчэння візавага рэжыму; зменам, што адбыліся ў жыцці беларусаў пасля далучэння краін-суседак да Шэнгенскай зоны і да т. п. Такія матэрыялы ўтрымлівалі меркаванне як незалежных экспертаў, так і прадстаўнікоў афіцыйных уладаў па абодва бакі шэнгенскай мяжы. Жыццёвыя гісторыі публікаваліся ў форме эсэ, напісаных звычайнымі людзьмі, і артыкулаў, падрыхтаваных прафесійнымі журналістамі. Гэта былі расповеды пра тое, як візавыя абмежаванні сталі на шляху тых беларусаў, што хацелі б вучыцца, працаваць ці атрымліваць медычную дапамогу ў Еўропе.

У красавіку 2011 г. быў абвешчаны конкурс на найлепшае эсэ «Мая візавая гісторыя», арганізаваны супольна з TUT.BY. На конкурс паступіла больш за 80 эсэ. У траўні журы з прафесійных рэдактараў і журналістаў абрала шэсць найлепшых гісторый, якія апублікавалі на TUT.BY. Усе фіналісты атрымалі цішоткі кампаніі «БЕЗ ВІЗЫ!», а пераможца конкурсу – Алег Бабец – атрымаў галоўны прыз у выглядзе гадавой шматразовай шэнгенскай візы. З-за бюракратычнай цяганіны працэс адкрыцця візы зацягнуўся на чатыры месяцы, аднак пераможца яе ўсё ж атрымаў, і каардынатары кампаніі запрасілі яго наведаць Літву.

Інфармацыйныя матэрыялы, апублікаваныя на TUT.BY, прачыталі больш як 30 тысяч чалавек. Не менш за 5 тысяч чалавек азнаёміліся з прэс-рэлізамі кампаніі, распаўсюджанымі праз агенцтва «БелаПАН» і размешчанымі на сайце Naviny.by. Гэтыя артыкулы былі апублікаваныя як мінімум у 11 іншых СМІ ды перадрукаваныя больш як 50 інфармацыйнымі рэсурсамі. Агульная інтэрнэт-аўдыторыя, ахопленая інфармацыйнымі матэрыяламі кампаніі, налічвае больш за 140 тысяч чалавек.

7 траўня 2011 г. у Вільні стартавала фотаакцыя «БЕЗ ВІЗЫ!» за адмену візавага рэжыму паміж Беларуссю і Еўропай. Ідэя акцыі – сабраць як мага больш фотаздымкаў людзей, здольных выказаць сваю пазіцыю наконт цяперашняга візавага рэжыму паміж ЕЗ і Беларуссю, і з іх дапамогай пазнаёміць Еўропу з праблемай візавых бар'ераў праз выставачныя залы, цэнтры сучаснага мастацтва ды іншыя грамадскія месцы. Гэтая акцыя мела на мэце прыцягнуць увагу еўрапейскай грамадскасці да візавай праблемы і паказаць беларусам іх права на публічнае выражэнне сваіх меркаванняў. Было зроблена каля 400 фота маладых людзей, якія трымаюць у руках антывізавыя плакаты. Персанальны падыход і форма падачы інфармацыі ў выглядзе фота зрабілі акцыю вельмі папулярнай сярод карыстальнікаў сацыяльных сетак. Яна ператварылася ў своеасаблівы віртуальны флэш-моб і дапамагла значна павысіць пазнавальнасць кампаніі сярод моладзевай аўдыторыі.



Каб максімальна шырока ахапіць мэтавую групу, асабліва тую яе частку, якая не карыстаецца інтэрнэтам, «ByWatch» разам з кампаніяй «Наш Дом» падрыхтавалі спецыяльны выпуск газеты «Наш Дом», цалкам прысвечаны візавай праблематыцы (на рускай мове накладам 140 тысяч асобнікаў). Акрамя тэматычных артыкулаў, у выданні быў апублікаваны зварот з патрабаваннем зрабіць канкрэтныя крокі для забеспячэння права грамадзян на свабоду перасоўвання. Кожны чытач мог выразаць тэкст звароту, падпісаць яго і адправіць поштай у Савет Міністраў Беларусі і Адміністрацыю прэзідэнта.



ВЛАСТЯМ НЕ НУЖЕН БЕЗВИЗОВЫЙ РЕЖИМ? СТР. 2
БАРЬЕР 60 ЕВРО – КОГДА ПОДЕШЕВЕЕТ «ШЕНГЕН»? СТР. 2
ФОТОКОНКУРС «БЕЗ ВИЗЫ!» СТР. 4

НАШ ДОМ инфо
у справедливости есть имя
ИЗДАТЕЛЬ – ГРАЖДАНСКАЯ КАМПАНИЯ «НАШ ДОМ» НАШИ КОНТАКТЫ: 210016, ВИТЕБСК, А/Я 15, ТЕЛЕФОН: +375-212-277-677

## «НАШ ДОМ» – В КОАЛИЦИИ «БЕЗ ВИЗЫ!»

**Гражданская кампания «Наш Дом» вместе с единомышленниками по всей Беларуси и за рубежом решила активно включиться в продвижение идеи безвизового режима между нашей страной и Европейским Союзом.**

«Мы, как и многие другие граждане Беларуси, устали от того, что не можем, как нормальные европейцы, путешествовать по своему континенту. Очереди в посольствах, необъяснимо сложная и дорогая процедура подачи документов, необоснованные отказы в выдаче виз – вся эта система негуманна и нелогична, особенно в наше время, когда барьеры между государствами стираются и люди нуждаются в качественно новом уровне общения, не отягощенном бюрократическими проволочками», – утверждает лидер кампании «Наш Дом» Ольга Карач.

Совместно с другими гражданскими инициативами и организациями Беларуси «Наш Дом» создал общественную коалицию «В Беларусь и Европу – БЕЗ ВИЗЫ!», которая будет добиваться от властей Евросоюза и Беларуси более активных действий по устранению искуственных барьеров, разделяющих нас, людей. Методы действия – сборы подписей, публичные заявления, мероприятия по привлечению внимания к проблеме и предоставлению непредвзятой информации о визовом режиме. Хотите присоединиться и помочь кампании?

Пишите: Info@nash-dom.Info.

Игорь Самосейка




## ИРЛАНДИЯ И ИЗРАИЛЬ – БЛИЖЕ

**О политике «открытости» в отношении граждан Беларуси заявляют многие страны Европы. Но немногие пошли на конкретные шаги.**

Страны Шенгенского соглашения – а это почти все страны Европейского Союза плюс Швейцария, Норвегия и Исландия – пока наиболее неповоротливы в упрощении визовых процедур. Единицы из них – например, Польша, Литва, Латвия – хотя бы отменили сбор за национальные долгосрочные визы. Да и то, это чисто символическая мера, не отражающаяся на получении обычных краткосрочных виз. В Западной Европе

## БЕЗВИЗОВЫЙ РЕЖИМ – ЭТО РЕАЛЬ

**Задумывались ли вы когда-нибудь, как было бы удобно Беларуси безвизовый режим со странами Евросоюза? Захотелось, и в любой день, без изл суеты и предварительного мытарства по агентствам/ посольствам / консул садишься в автомобиль, автобус или на поезд и по хоть в Вильнюс, хоть в Берлин, хоть в Париж. Был бы п**

Многие согласятся, что оформление визы – это не самое приятное занятие, хотя бы потому, что на него уходит немало денег, времени, а порой – и нервов.

Часто белорусы думают, что безвизовый режим с Евросоюзом – недостижимая мечта романтиков. Однако это не так. Знаете ли вы, что технически Беларусь почти полностью готова к переходу к безвизовому режиму со странами Шенгенской зоны? И единственное, что необходимо – политическая воля и желание договориться с Брюсселем. Такая возможность черным по белому прописана в документах «Восточного партнерства» – программе Евросоюза, в которую входит и Беларусь.

Визы – это бюрократический пережиток XX в., который рано или поздно канет в лету. Визовый режим мешает контактам между людьми, легальному бизнесу, путешествиям, торговле, а вот как средство борьбы с контрабандой, миграцией и преступностью виза себя не оправдала.

Чего стоят только одни очереди у посольств и бесконечные процедуры и документы, телефонные номера, по которым часто никто не отвечает, правила, которые все время меняются. В них порой тяжело разобраться даже самим сотрудникам консульских отделов. А что делать простому человеку из провинции или со слабым здоровьем, который всего лишь хочет навестить близких, живущих по ту сторону границы? А что если и родственники не могут приехать из-за нехватки времени на простаив у белорусского посольства? Та человеческие контакты, а ино кому это нужно, никто не може

Этот номер «Нашего дом священ проблеме визовой из ляции Беларуси от стран Ев «визовым занавесом», как п визового режима, чтобы бе в Европе и там «людзьмі з может сделать каждый гр ны – мы попытаемся отве вместно с общественной и Европу – БЕЗ ВИЗЫ!».



### Відэадзённікі «Візавыя гісторыі» і фільм «Памежжа»

У сакавіку-красавіку 2011 г. у рамках кампаніі быў распрацаваны сцэнар відэароліка, які мусіў адлюстраваць усю складанасць візавай праблемы на прыкладзе сямейнай гісторыі. Здымкі адбываліся ў Менску і Вільні. Мантаж роліка пад назвай «Разбітая сям'я» скончыўся ў траўні. Паралельна вяліся здымкі другога фільма, які расказвае пра маладога мастака і студэнтаў з Беларусі, у якіх праз адсутнасць візаў узнікаюць праблемы ў камунікацыі з літоўскімі калегамі. Відэа закліканае паказаць, што візы робяць маладых таленавітых беларусаў своеасаблівымі закладнікамі рэжыму, і яны вымушаныя шукаць магчымасцяў для самарэалізацыі ў Расіі, а не ў Еўропе. Здымаўся ролік у траўні ў Полацку. Мантаж скончыўся ў чэрвені. Трэці фільм складаецца з інтэрв'ю з вядомымі беларускімі журналістамі, даследнікамі, фатографамі і г. д. Яго здымкі прайшлі ў Менску ў ліпені 2011 г. Гэты ролік мусіў даць старт шырокай прамацыйнай кампаніі «БЕЗ ВІЗЫ!» і натхніць звычайных людзей на тое, каб здымаць свае кароткія візавыя відэагісторыі. Праца над усімі трыма ролікамі завяршылася да канца жніўня 2011 г. Іх размясцілі ў інтэрнэце на старонцы «ByWatch» на Vimeo.com. Апроч гэтага, адбыліся паказы відэа ў Літве (у Доме правоў чалавека ў Вільні, на фестывалі «Sea Festival» у Клайпедзе), Польшчы (у галерэі сучаснага мастацтва «Zachęta») і Беларусі (у Менску і Горадні).

Акрамя таго, супольна з тэлеканалам «Белсат» быў зняты кароткі дакументальны фільм «Памежжа». Ён дэманструе абсурднасць жыцця ў непасрэднай блізкасці ад дзяржаўнай мяжы, якая раптам паўстала там, дзе яе ніколі не было. Акурат гэта здарылася з жыхарамі беларуска-літоўскага памежжа пасля пашырэння ЕЗ і далучэння Літвы да Шэнгенскай зоны. Візавыя абмежаванні і нежаданне чыноўнікаў дапамагчы не даюць людзям нармальна з'ездзіць у суседнюю вёску да сям'і, бо яна ляжыць па іншы бок мяжы. Гэты фільм – спроба паказаць праблемы, што ўзнікаюць праз штучныя перашкоды і неэфектыўную палітыку Еўрасаюза, якая толькі цэментуе сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі.

### Імпрэзы ды акцыі

Адразу пасля першай працоўнай сустрэчы адбылася публічная прэзентацыя кааліцыі. 28 сакавіка 2011 г. кампанія зладзіла публічную дыскусію ў Еўрапейскім інфармацыйным цэнтры пры парламенце Літвы. Яе вядоўцамі выступілі вядомыя літоўскія палітыкі Пятрас Аўштравічус (Petras Auštrevičius) і Віцяніс Андрукайціс (Vytenis Andriukaitis). У дыскусіі ўзялі ўдзел каля 50 чалавек, пераважна палітыкі, прадстаўнікі беларускіх і літоўскіх НДА, бізнесасацыяцый, амбасад і СМІ. Абмяркоўвалася пытанне спрашчэння візавага рэжыму для беларусаў, бюракратычныя праблемы ў кантактах і партнёрскіх стасунках паміж афіцыйнымі структурамі Беларусі і ЕС, прычыны ізаляцыі беларускага рэжыму, каму выгодны статус-кво, як пераадолець гэтыя праблемы і г.д. Удзельнікі дыскусіі вельмі станоўча паставіліся да ініцыятывы распачаць шырокую грамадскую кампанію для візавай лібералізацыі, хаця шмат хто

казаў пра тое, што дагэтуль мала рабілася для вырашэння гэтай праблемы, а таму гучалі даволі песімістычныя ацэнкі магчымасці дасягнуць пазітыўных вынікаў. Дыскусія прыцягнула ўвагу і шырока асвятлялася ў беларускіх СМІ.

14 траўня 2011 г. разам з Еўрапейскім гуманітарным універсітэтам у Вільні быў арганізаваны канцэрт гурта «Ляпіс Трубяцкой» у падтрымку кампаніі «БЕЗ ВІЗЫ!». Уваход і хол клуба, дзе адбываўся канцэрт, былі ўпрыгожаныя постэрамі кампаніі. Больш за 600 чалавек наведалі канцэрт, сярод іх распаўсюдзілі каля 300 цішотак з лагатыпам кампаніі, больш за 200 фотаздымкаў з канцэрта выклалі ў інтэрнэт.

5 чэрвеня 2011 г. у Менску адбыўся супольны круглы стол, майстар-класы і канцэрт беларускіх ды літоўскіх музыкаў, арганізаваныя «ByWatch» і беларускім канцэртным агенцтвам «BoPromo». Падчас дыскусіі музыкі выказалі сваё стаўленне да візавых абмежаванняў, а таксама абмеркавалі магчымыя шляхі іх пераадолення. Адбылася таксама прэзентацыя кампаніі «БЕЗ ВІЗЫ!». Музыкі адзначалі, што адной з найбольш непрыемных праблем у справе культурных абменаў ёсць падрыхтоўка запрашэнняў для замежных удзельнікаў супольных праектаў. Шмат якія арганізацыі, што займаюцца супольнымі культурнымі праектамі, не маюць рэгістрацыі, а таму не могуць афіцыйна запрасіць, напрыклад, літоўскіх або польскіх партнёраў у Беларусь. Часта гэтая працэдура спалучаецца з дадатковымі бюракратычнымі і фінансавымі перашкодамі. Сярод удзельнікаў абмену былі вядомыя літоўскія, брытанскія і ўкраінскія дзіджэі Mark Splinter, Vaiper і Younnat, а таксама беларускія музыкі: i/dex, East Soul Person і Deech. Канцэрт наведалі каля 300 чалавек.

12 траўня 2012 г. у Вільні каля чыгуначнага вакзала прайшла акцыя за адмену візавага рэжыму, якую правялі актывісты недзяржаўных арганізацый «ByWatch» і «StudAlliance». Акцыя была прымеркаваная да адкрыцця інсталяцыі «Стагоддзямі разам, а цяпер…», якая сімвалізуе бар’еры паміж Беларуссю і Літвой. Валанцёры кампаніі «БЕЗ ВІЗЫ!» правялі гульню, удзельнікі якой праходзілі своеасаблівы «памежны пункт на беларуска-літоўскай мяжы», спецыяльна збудаваны на плошчы перад вакзалам. Ім прапаноўвалі прайсці ўсе працэдуры, з якімі







«Памежны пераход» падчас акцыі каля чыгуначнага вакзала (Вільня)

сутыкаюцца беларусы і літоўцы, што жадаюць трапіць на тэрыторыю суседняй дзяржавы. За гадзіну правядзення акцыі ў ёй узялі ўдзел больш за 50 чалавек, якім пасля «перасячэння мяжы» прапанавалі падзяліцца сваімі ўражаннямі ад працэсу. Падчас акцыі таксама ішоў збор подпісаў пад «Антывізавым маніфестам». Апроч гэтага, мінакі маглі падпісаць паштоўкі, на якіх выказвалі сваё стаўленне да візавых бар'ераў. Пазней гэтыя паштоўкі адправяць у дзяржаўныя органы Літвы і Беларусі. Увечары таго ж дня ў віленскім клубе «Tamsta» (Subačiaus g. 11A) прайшоў канцэрт літоўскага музыкі беларускага паходжання Марка Палубенкі.



Афіша канцэрта Марка Палубенкі (Вільня)

## Звароты і маніфесты

У сакавіку 2012 г. ад імя грамадскай кампаніі «БЕЗ ВІЗЫ!» быў падрыхтаваны і пададзены калектыўны зварот да міністра замежных справаў Літвы Аўдронюса Ажубаліса. У звароце няўрадавыя арганізацыі ды ініцыятывы з Беларусі, Літвы ды іншых краін прапаноўваюць шэраг практычных крокаў для далейшага прасоўвання міжчалавечых зносінаў і спрашчэння кантактаў паміж Літвой і Беларуссю. Зварот падпісалі больш за 40 арганізацый.

На сайце «ByWatch» размешчаны электронны «Антывізавы маніфест», які можа падпісаць любы наведнік старонкі. На пачатак траўня 2012 г. маніфест сабраў больш за 840 подпісаў ад грамадзян Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны, Швецыі ды іншых краін.

## Прамацыйныя матэрыялы

За час правядзення кампаніі было выраблена і распаўсюджана ў Беларусі больш за 500 брэндаваных цішотак і больш за 3000 разнастайных прамацыйных матэрыялаў (налепкі, асадкі, балонікі, улёткі і г. д.).

## Дасягненні:

- Утварылася шырокая кааліцыя грамадскіх арганізацый Беларусі, Літвы ды іншых краін ЕС для дасягнення мэтаў, пастаўленых кампаніяй «БЕЗ ВІЗЫ!».
- Кампанія дасягнула высокага ўзроўню пазнавальнасці і прысутнасці ў публічнай прасторы дзякуючы ўдаламу лагатыпу (распрацаваны і абраны ў выніку абвешчанага кампаніяй конкурсу), актыўнай інфармацыйнай працы (у тым ліку прадуманай медыя-стратэгіі), яркім акцыям онлайн і офлайн, а таксама прома-прадукцыі.

- Візавая тэматыка рэгулярна асвятлялася ў СМІ Беларусі і краін ЕС (пераважна Літвы і Польшчы).
- Супольныя звароты ад імя кампаніі «БЕЗ ВІЗЫ!» у амбасады, міністэрствы замежных справаў ды іншыя дзяржаўныя ўстановы прыцягнулі ўвагу чыноўнікаў і палітыкаў, што пацягнула за сабой іх заявы аб перспектывах спрашчэння/адмены візавага рэжыму.
- У кампанію ўцягнуліся валанцёры, якія раней не ўдзельнічалі ў грамадскай дзейнасці. Валанцёры арганізавалі некалькі імпрэзаў у межах кампаніі ў розных гарадах Беларусі (Менск, Горадня, Брэст, Віцебск, Магілёў).
- Наладзіліся сувязі і абмен досведам вядзення працы, скіраванай на спрашчэнне/адмену візавага рэжыму з арганізацыямі Украіны і балканскіх краін.
- Ажыццяўляўся пастаянны ціск на палітыкаў і чыноўнікаў. Візавае пытанне захоўвалася ў актуальным палітычным парадку дня.
- Дзякуючы супольным намаганням сябраў кааліцыі развіваўся сайт http://bel.novisa.by/.

Памылкі: На сённяшнім этапе кампаніі цяжка аналізаваць і ацэньваць памылкі, аднак можна казаць пра цяжкасці. Каардынатары адзначаюць, што ўзнікалі складанасці на этапе пабудовы кааліцыі. Часам было няпроста знайсці ўзаемапаразуменне адносна мэтаў і формаў супольных дзеянняў. У ходзе рэалізацыі кампаніі таксама выявілася, што не ўсе ўдзельнікі кааліцыі гатовыя да актыўнай працы. Шмат хто не праяўляе ўласнай ініцыятывы, а чакае на прапановы ад каардынатараў.

Планы на будучыню: На наступным этапе кампаніі арганізатары плануюць працягнуць і зрабіць больш інтэнсіўнай працу з валанцёрамі (адукацыя, пошук і прыцягненне новых валанцёраў, заахвочванне іх да актыўнай грамадскай працы і г.д.). Працягнецца мэтанакіраванае і рэгулярнае асвятленне візавай тэматыкі ў СМІ. Увосень 2012 г. ініцыятары кампаніі спадзяюцца дасягнуць пастаўленай задачы і сабраць 50 тысяч подпісаў пад зваротамі грамадзянаў да дзяржаўных органаў з патрабаваннем спрасціць візавы рэжым.

Назва кампаніі

# Бяспека дарожнага руху



Час правядзення: 2008 г.

Месца: г. Барысаў (Менская вобласць)

Ініцыятар: Грамадская ініцыятыва «За чысты Барысаў!»

Інструменты: Інфармацыйныя ўлёткі, збор подпісаў, індывідуальныя звароты грамадзян у гарадскую адміністрацыю.

Праблема: Барысаў і Барысаўскі раён – адзін з самых аварыйных участкаў на аўтадарогах Менскай вобласці. Найбольш небяспечнай у Барысаве лічыцца транзітная вуліца Гагарына, якая ідзе праз увесь горад, найбольш густанаселеныя жылыя мікраараёны, праходзіць ушчыльную ад рэчавага і прадуктовага рынкаў, гарадскога футбольнага стадыёна, буйных універсамаў, кінатэатра «Кастрычнік», Барысаўскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа і шэрагу іншых прафесійна-тэхнічных устаноў. Менавіта тут жыве да 5 % насельніцтва горада. У журналісцкім асяроддзі гэтую вуліцу ахрысцілі «вуліцаю смерці». Закрыццё шэрагу наземных пешаходных пераходаў і ўсталяванне штучных няроўнасцяў на вуліцы Гагарына прывялі з аднаго боку да скарачэння колькасці ДТЗ з удзелам пешаходаў, але з другога боку сталіся прычынай пагаршэння экалагічнай сітуацыі ў раёне з-за шматлікіх аўтамабільных коркаў і выліліся ў шматразовае павелічэнне інтэнсіўнасці руху на іншых наземных пераходах (інтэнсіўнасць руху пешаходаў на скрыжаванні вуліц Гагарына і Галіцкага ў раёне рынка «Стадыён» складае 2944 чалавекі за гадзіну, а раніцаю, вечарам і ў выхадныя дні павялічваецца да 5570 чалавек за гадзіну).

Мэта: Гарантаваць бяспеку ўдзельнікаў дарожнага руху і дамагчыся пабудовы пяці падземных пешаходных пераходаў на вуліцы Гагарына.

Арганізацыйная структура: Кампанію ажыццяўлялі актывісты грамадскай ініцыятывы «За чысты Барысаў!». Ход кампаніі асвятляўся на незалежным сайце горада Barysau.by.



Грамадская ініцыятыва «За чысты Барысаў!» выступае за пабудову пяці падземных пешаходных пераходаў на вул. Гагарына

Апісанне дзейнасці: Перад распачынаннем грамадскай кампаніі актывісты ініцыятывы «За чысты Барысаў!» грунтоўна вывучылі сутнасць праблемы. Найперш яны адрэагавалі на агульную незадаволенасць пешаходаў, якімі выступалі і самі, а таксама на тыя трагічныя выпадкі, якія перыядычна здараліся з удзельнікамі дарожнага руху на вуліцы Гагарына. Затым ініцыятары кампаніі заняліся вывучэннем дасяжнай для іх горадабудаўнічай дакументацыі, якой няма ў агульным доступе. Барысаўскі райвыканкам абмяжоўваўся пералічэннем толькі некаторых асноўных пунктаў генплана. Атрыманая інфармацыя сведчыла пра тое, што генеральны план развіцця Барысава не прадугледжваў будаўніцтва падземных пешаходных пераходаў па вуліцы Гагарына. Пацверджаннем таму былі адказы на індывідуальныя скаргі і запыты грамадзян у Барысаўскі райвыканкам, з якіх вынікала, што падземных

пешаходных пераходаў будаваць не будуць, а замест гэтага плануюць усталяваць рэгуляваныя пешаходамі святлафоры. У райвыканкам паступіла некалькі скаргаў і запытаў з боку грамадзян, прычым яны не былі звязаныя паміж сабой.

Вывучаючы праблему бяспекі дарожнага руху ў Барысаве, актывісты вызначылі цэлы шэраг зацікаўленых бакоў з рознай ступенню матывацыі. Сярод іх Барысаўскі райвыканкам, Барысаўскі раённы Савет дэпутатаў, аддзел архітэктуры і будаўніцтва Барысаўскага райвыканкама, УДАІ Барысаўскага РУУС, фінансавы аддзел Барысаўскага райвыканкама, аддзел адукацыі Барысаўскага райвыканкама, УП «Жыллё», Барысаўскі гарадскі стадыён, МАКУП «Інстытут "Барысаўпраект"» (дырэктар Віктар Феактыстаў); рэгіянальныя СМІ (газеты «Барысаўскія навіны» і «Адзінства», тэлеканал СКІФ, інтэрнэт-выданні); ДУП «Аўтобусны парк №3»; грамадскія арганізацыі, ГІ «За чысты Барысаў!»; жыхары прылеглых да вуліцы Гагарына мікраралёнаў; аўтааматары і аўтаперавозчыкі. Метадам ананімнага журналісцкага расследавання ініцыятары кампаніі здолелі высветліць меркаванне часткі з пералічаных зацікаўленых бакоў. У цэлым, усе яны пацвердзілі сам факт існавання праблемы.

Да пачатку кампаніі актывісты грамадскай ініцыятывы «За чысты Барысаў!» накіравалі ў гарадскую адміністрацыю тры індывідуальныя звароты з мэтаю высветліць, што мясцовыя ўлады плануюць рабіць для павышэння бяспекі ўдзельнікаў дарожнага руху.



Улётка, якая распаўсюджвалася актывістамі напярэдадні збору подпісаў

На аснове аналізу сабранай інфармацыі актывісты кампаніі прыйшлі да высновы, што адзіны дзейсны спосаб вырашыць праблему – надаць ёй шырокі рэзананс праз правядзенне грамадскай кампаніі.

Першым этапам быў распаўсюд інфармацыйнай улёткі аб праблеме, падрыхтаванай ініцыятывай «За чысты Барысаў!». Першая хваля ўлётак распаўсюджвалася ў прылеглых да гарадскога стадыёна дамах (па вуліцах Гагарына, Горкага і Ватуціна). Матэрыялы выдалі накладам каля 1200 асобнікаў і распаўсюдзілі выключна па паштовых скрынях. Улёткі акрэслівалі сутнасць праблемы, а таксама папярэджвалі, што праз некалькі дзён пачнецца пакватэрны збор подпісаў. Акрамя таго, яны ўтрымлівалі нумары актывістаў, на якія запрашалі тэлефанаваць асобаў, што хочуць паставіць свой подпіс. Актывісты атрымалі каля 30 тэлефанаванняў, і толькі адно з іх было негатыўнае.

Падрыхтоўчая інфармацыйная кампанія дала свой плён: у лютым 2008 г. актывісты ініцыятывы «За чысты Барысаў!» за дзве гадзіны сабралі больш за 600 подпісаў, якія пасля накіравалі ў гарадскую адміністрацыю. Подпісы збіраліся

Улётка, якая распаўсюджвалася актывістамі пасля збору подпісаў


НАШЫ ДЗЕЯННІ НА БЛІЖЭЙШЫ МЕСЯЦ:

НАША ПАТРАБАВАННЕ АБАВЯЗАНЫ ВЫКАНАЦЬ!

НАШЫ КАНТАКТЫ:
8 (029) 620 19 97 (VELCOM)
8 (029) 506 09 17 (МТС)
Каардынатар кампаніі СЯРГЕЙ САЛАШ
http://barysau.belarda.org

За чысты Барысаў!

Барысаўскія «дэпутаты» і начальнікі з выканкама супраць падземнага пешаходнага перахода каля гарадскога стадыёна.

Іх адказ можна сфармуляваць у некалькіх словах:

ГЭТА ВАШЫ ПРАБЛЕМЫ — ХАДЗІЦЕ КРУГАМІ!

Вытрымка з адказу Барысаўскага райсавета:
«В настоящее время принято решение ликвидировать пешеходный переход по улице Гагарина напротив городского стадиона с устройством ограждения...»

шляхам кампаніі «ад дзвярэй да дзвярэй», а таксама дзякуючы тэлефанаванням грамадзян, зацікаўленых пасля інфармацыйнай хвалі.

На такі грамадскі рэзананс гарадскія ўлады ўжо не маглі не звярнуць увагі. 29 студзеня 2009 г. адбылося чарговае паседжанне камісіі Барысаўскага райвыканкама па бяспецы дарожнага руху, на якім разглядалася ў тым ліку пытанне пра будаўніцтва перахода ў раёне рынка «Стадыён». У выніку камісія прыняла рашэнне вывучыць грамадскую думку ў гэтым пытанні.

Актывісты кампаніі працягнулі ліставанне з гарадскімі ўладамі. Пасля правядзення збору подпісаў і адсылання запытаў на іх аснове ініцыятыва адправіла яшчэ два ўдакладняльныя індывідуальныя звароты. Яны былі заснаваныя на новых фактах, якія спрыялі станоўчаму рашэнню праблемы.

Акрамя таго, пасля збору подпісаў быў выдадзены інфармацыйны бюлетэнь, у якім жыхарам паведамлялася, колькі подпісаў было сабрана, а таксама прапаноўвалася і надалей самастойна дасылаць запыты. Наклад быў значна большы, чым ва ўлётак (прыкладна 15 тысяч), бо актывісты хацелі пашырыць інфармацыю і на іншыя часткі горада, якія прылягалі да вуліцы Гагарына.

Адбылася таксама інфармацыйная кампанія «Гэта вашы праблемы – хадзіце кругамі», якая паведамляла жыхарам прылеглых да магістралі мікраёнаў пра тое, што раённая ўлада адмовілася задаволіць патрабаванні падпісантаў, выказаўшыся супраць падземных пешаходных пераходаў у адказе на калектыўны зварот. Наклад гэтай улёткі таксама склаў 15 тысяч асобнікаў.



Паток пешаходаў праз вул. Гагарына на наземным пераходзе, які быў ліквідаваны

Яшчэ адзін інфармацыйны ліст з такім самым накладам быў распаўсюджаны ўвесну 2009 г. У ім паведамлялася пра змены ў сітуацыі дзякуючы заявам міністра ўнутраных справаў, заўвагам намесніка генеральнага пракурора, адказам на індывідуальныя запыты і г.д. Усе інфармацыйныя матэрыялы распаўсюджваліся выключна па паштовых скрынях.

Апроч таго, на ход кампаніі часам уплывалі знешнія фактары, напрыклад, візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Барысаў у лістападзе 2010 г. Пасля гэтага візіту мясцовая адміністрацыя запланавала рэканструкцыю вуліцы Гагарына і яе пашырэнне да шасці палос. У сваю чаргу незалежныя эксперты пачалі распрацоўваць альтэрнатыўную канцэпцыю транспартнай разгрузкі галоўнай дарожнай артэрыі горада. Праца над альтэрнатыўнаю канцэпцыяй амаль скончылася.

Дасягненні:

- Кампанія выклікала шырокі грамадскі рэзананс і вывела праблему бяспекі дарожнага руху па вуліцы Гагарына ў публічную сферу. Гэта вымусіла гарадскія ўлады больш сур'ёзна паставіцца да праблемы, пагадзіцца на адкрытае абмеркаванне і ўключыць вырашэнне праблемы ў палітычны парадак дня.
- У выніку масавага збору подпісаў, шматлікіх зваротаў грамадзян, а таксама стыхійных акцый пратэсту гарадская адміністрацыя пагадзілася на вывучэнне грамадскай думкі. На афіцыйным сайце Барысаўскага райвыканкама правялі інтэрнэт-апытанне на тэму «Ці лічыце Вы неабходным будаўніцтва падземнага перахода па вул. Гагарына?». 91% наведнікаў сайта выказаўся за будаўніцтва падземнага пешаходнага перахода (паводле стану на 08.07.2011). Актывістам кампаніі дакладна вядома, што ў генеральны план горада пачалі ўносіць змены – у яго заклалі будаванне падземнага пешаходнага перахода ў раёне гарадскога стадыёна.
- Грамадская кампанія, комплекснасць праблемы і рашэнне ўладаў павялічыць палоснасць галоўнай вуліцы горада падштурхнулі незалежных экспертаў распрацаваць альтэрнатыўную канцэпцыю транспартнай разгрузкі вуліцы Гагарына.

Памылкі: Да сваіх асноўных памылак арганізатары кампаніі адносяць недастатковую паслядоўнасць у арганізацыі грамадскага ціску. На іхнюю думку, варта было часцей асвятляць, у тым ліку, дарожную сітуацыю на вуліцы Гагарына, напрыклад, выдаваць адмысловы бюлетэнь з перыядычнасцю раз на квартал.

Акрамя таго, трэба было больш настойліва дамагацца грамадскага абмеркавання з удзелам усіх бакоў, якое так і не адбылося, хаця яго правядзенне нават пры больш інтэнсіўным ціску застаецца пад пытаннем.

Слаба былі задзейнічаныя магчымасці інтэрнэту. Адмысловая старонка, прысвечаная праблеме, дазволіла б найбольш актыўным жыхарам Барысава штодня трымаць руку на пульсе падзей.

Планы на будучыню: Актывісты грамадскай ініцыятывы «За чысты Барысаў!» прааналізавалі эфектыўнасць ліставання з гарадскімі ўладамі пасля паспяхова праведзенага збору подпісаў і прыйшлі да высновы, што найбольш дзейсны метад для змагання з такімі праблемамі пры цяперашняй палітычнай сістэме – гэта працяг грамадскай кампаніі з прыцягненнем яшчэ большай колькасці жыхароў горада, а таксама канкрэтных мэтавых груп (напрыклад, кіроўцаў маршрутных аўтобусаў, бацькоў школьнікаў, якія навучаюцца ў прылеглых да вуліцы Гагарына школах і г.д.)

Напрыканцы красавіка 2012 г. альтэрнатыўную канцэпцыю транспартнай разгрузкі планавалася прэзентаваць на разгляд дэпутатам Барысаўскага раённага Савета дэпутатаў. Канцэпцыю таксама апублікуюць і распаўсюдзяць сярод жыхароў горада. Лідары грамадскай думкі рыхтуюцца да правядзення чарговай кампаніі за будаўніцтва падземных пешаходных пераходаў.

Сяргей Салаш, каардынатар грамадскай ініцыятывы «За чысты Барысаў!»:

*«Кампаніі збору подпісаў – гэта, бадай, самы паспяховы спосаб прасоўвання інтарэсаў мясцовых супольнасцяў. За час існавання нашай ініцыятывы такія кампаніі не раз прыводзілі да канкрэтных вынікаў. Пасля масавых збораў подпісаў, падмацаваных інфармацыйнымі кампаніямі і абыходам кватэр, нам разам з жыхарамі асобных гарадскіх мікрараёнаў удалося дамагчыся капітальнага аднаўлення дарог у мікрараёне "Прыборы" і ямачнага рамонту на бульвары Грэчкі, а таксама запусціць працэс пераводу на баланс Барысава камунальнай гаспадаркі былога вайсковага гарадка Печы, што суправаджаецца сёння рамонтам пячанскіх шматпавярховых дамоў (няхай і збольшага касметычным).*

*Вядома, галоўны крытэр паспяховасці – гэта поўнае вырашэнне ўзнятай праблемы, што, на жаль, атрымліваецца не заўсёды. У выпадку з барацьбой за будаўніцтва падземных пешаходных пераходаў на вуліцы Гагарына мы маем прамежкавыя крытэры – раённыя ўлады ад замоўчвання праблемы перайшлі да яе абмеркавання. Але ў любым выпадку кожная такая кампанія дадае вагі грамадскім ініцыятывам у вачах жыхароў горада.*

*Індывідуальныя звароты ў адрозненне ад калектыўных маюць менш шанцаў на поспех. Без далучэння шырокіх колаў грамадскасці – без подпісаў, без шырокага інфармавання праз улёткі, газеты, а сёння і праз інтэрнэт, без асабістага кантакту з як мага большаю колькасцю зацікаўленых бакоў – звароты найчасцей заканчваюцца фармальнымі адпіскамі з боку ўладных установаў. Сілаў і запалу аднаго чалавека часта папросту не стае для барацьбы з бюракратычнымі мурамі. Да таго ж чыноўнікі не любяць празмернага рэзанансу вакол праблемаў, а яго забяспечваюць менавіта калектыўныя звароты».*

Назва кампаніі

## Стоп АЭС



Час правядзення: 2008 г.

Месца: Горацкі, Дрыбінскі і Мсціслаўскі раёны (Магілёўская вобласць)

Ініцыятар: Пётр Маланачкін (1960–2010), пастар пратэстанцкай царквы ў г. Горкі. З яго ініцыятывы ўтварылася «Антыядзерная група». Да яе дзейнасці далучыліся жыхары горада і ўжо існыя грамадскія арганізацыі.

Інструменты: Шырокая кааліцыя інфармацыйная кампанія, збор подпісаў.

Праблема: Напрыканцы 2007 г. урад Беларусі заявіў пра неабходнасць пабудаваць у краіне атамную электрастанцыю. Адною з магчымых пляцовак для размяшчэння АЭС называлі вёску Кукшынава за 15 км ад Горак. Пасля з’яўлення гэтай інфармацыі да Горацкай грамадзянскай кааліцыі пачалі звяртацца мясцовыя жыхары з пытаннем, ці плануюць мясцовыя НДА нешта рабіць з гэтай нагоды. Таксама да кааліцыі звярнуліся мясцовыя актыўныя людзі, аб’яднаныя ў пратэстанцкую суполку. Іхні лідар Пётр Маланачкін некалі працаваў на будоўлі АЭС у Ігналіне. Гэтая група звярнула ўвагу на тое, што пытанне пабудовы АЭС за 15 км ад горада, які лічыцца цэнтрам аграрнай навукі, дзе ёсць вопытныя палі ды эксперыментальныя фермы вырошчвання жывёлы, вырашаецца без грамадскага абмеркавання. З’яўленне АЭС можа цалкам змяніць эканамічны профіль раёна і нанесці непапраўную шкоду экалогіі.

Мэта: Праінфармаваць насельніцтва пра плюсы і мінусы будаўніцтва АЭС у рэгіёне, а таксама ўцягнуць людзей у працэс абмеркавання і прыняцця рашэнняў у гэтым пытанні.

Арганізацыйная структура: Кампанію рэалізоўвала шырокая грамадзянская кааліцыя, заснаваная ў Горках у 2006 г. Склад кааліцыі:

- Дрыбінскі інфармацыйны цэнтр (больш не існуе);
- Горацкі інфармацыйны цэнтр (больш не існуе);
- жаночая ініцыятыва «Агата» (раней называлася «Любава»);
- мясцовыя актывісты ГА «Беларускае таварыства інвалідаў» (афіцыйны саюз інвалідаў);
- ініцыятыва настаўнікаў і школьнікаў старэйшых класаў «Дзеці будучыні»;
- Задзіночанне беларускіх студэнтаў (больш не існуе);
- «Антыядзерная група» (далучылася да кааліцыі ў 2008 г., спыніла сваю дзейнасць на пачатку 2009 г.);
- мясцовыя незалежныя журналісты і палітычна заангажаваныя актывісты з руху«За свабоду», Партыі БНФ і БХД.

Інфармацыйна кампанію падтрымлівалі бюлетэні «Горацкі выбар», «Дрыбінскі выбар» і «УзГорак». Ход кампаніі асвятляўся на сайце кааліцыі Horki.info.

Апісанне дзейнасці: Кампанія была эмацыйным адказам грамадскасці на абвешчаны ўладамі намер пабудаваць АЭС пад Горкамі, а таму спачатку яе планаванне адбывалася несістэмна. Формы і метады выпрацоўваліся пры рэалізацыі кампаніі.

У межах інфармацыйнага кірунку на старонках мясцовых незалежных бюлетэняў «Горацкі выбар», «Дрыбінскі выбар» і «УзГорак» разгарнулася шырокая дыскусія, якая ішла цягам усёй кампаніі. За год было надрукавана

каля ста разнастайных матэрыялаў на тэму будавання АЭС, у тым ліку меркаванні навукоўцаў. Агульны наклад друкаваных публікацый за ўвесь час кампаніі склаў каля 20 тысяч асобнікаў.

Акрамя таго, на сайце Horki.info быў створаны спецыяльны раздзел, прысвечаны праблеме. На старонцы размяшчаліся артыкулы мясцовых актывістаў і журналістаў, а таксама передрукоўваліся матэрыялы з іншых рэсурсаў на тэму бяспекі АЭС. Арганізатары кампаніі імкнуліся падаваць як мага больш інфармацыі і пра магчымасці, што адкрываюцца перад Беларуссю ў выпадку з'яўлення ўласнай станцыі, і пра імаверныя пагрозы, звязаныя з будаўніцтвам АЭС. Акрамя гэтага, на вуліцах Горак правялі відэаапытанне, каб высветліць стаўленне грамадзян да атамнай энергетыкі і далучыць іх да абмеркавання гэтага пытання.

У той жа час быў арганізаваны збор подпісаў пад спецыяльна падрыхтаванай петыцыяй. У Законе «Аб зваротах грамадзян» прапісаныя фармальныя патрабаванні да калектыўных зваротаў. Трэба падаць цалкам прозвішча, імя, імя па бацьку, адрас рэгістрацыі ды подпіс кожнага чалавека. У лісце дакладна і ясна павінна быць сфармуляваная праблема, з якой людзі звяртаюцца ў пэўны орган улады. У петыцыі таксама павінна пазначацца, на які адрас і на чыё імя мусіць быць дасланы адказ на калектыўны зварот. Арганізатары кампаніі не ведалі, ці існуе працэдура праверкі подпісаў і ці правяраў іх нехта на сапраўднасць, аднак надавалі ўвагу таму, каб усе фармуляры запаўняліся ў адпаведнасці з патрабаваннямі, акрэсленымі законам.

Актывісты кампаніі хадзілі ад дзвярэй да дзвярэй з адмыслова падрыхтаванымі бланкамі, дзе людзі маглі паставіць свой подпіс супраць будаўніцтва АЭС. У зборы подпісаў удзельнічалі болей за 40 чалавек, аднак мэтай была не агітацыя супраць станцыі, а спроба ўцягнуць грамадзян у працэс прыняцця рашэнняў, даць ім магчымасць падыскутаваць з актывістамі кампаніі, задумацца над тым, якім чынам у нашай краіне вырашаюцца такія важныя пытанні. З канца 2007 да сярэдзіны 2008 г. у Горацкім, Дрыбінскім і Мсціслаўскім раёнах было сабрана 3000 подпісаў супраць пабудовы АЭС у Кукшынава. Каб сабраць такую колькасць подпісаў, актывісты абышлі каля 4000 дамоў і кватэр. У некаторых выпадках людзі катэгарычна адмаўляліся ставіць подпісы, а ў іншых – падпісваліся цэлымі сем'ямі. Актывісты перадалі подпісы дэпутатцы парламенту Таццяне Асмалоўскай падчас яе сустрэчы з выбаршчыкамі 1 сакавіка 2008 г. і адаслалі іх віцэ-прэм'еру беларускага ўрада Уладзіміру Сямашку. У абодвух выпадках былі атрыманыя афіцыйныя адказы, у якіх падпісантаў петыцыі запэўнівалі ў неабходнасці пабудовы АЭС і яе бяспецы. Гэтыя адказы былі апублікаваныя ў бюлетэнях і на сайце.

Калі ўвосень 2008 г. стала вядома, што канчатковай пляцоўкай для АЭС выбралі не Кукшынава, а Астравецкі раён, кампанія змяніла фармат. Разам з іншымі арганізацыямі Магілёўскай вобласці горацкія актывісты распачалі збор подпісаў па ўсёй Магілёўшчыне, а таксама распаўсюдзілі па вобласці вялікую колькасць друкаваных інфармацыйных матэрыялаў. Мэты новага этапу кампаніі засталіся ранейшымі: даць грамадзянам рознабаковую інфармацыю




Актывісты кампаніі збіраюць подпісы супраць пабудовы АЭС

аб праблеме АЭС у Беларусі, а таксама ўцягнуць людзей у абмеркаванне гэтага складанага пытання і працэс прыняцця рашэнняў. У ходзе гэтага этапу былі сабраныя яшчэ 3000 подпісаў супраць АЭС. Гэтым разам актывісты збіралі подпісы ў Дрыбіне і Мсціславе, а таксама Шклове, Чавусах, Крычаве і Магілёве. Акрамя выкарыстання метаду «ад дзвярэй да дзвярэй», абыходзілі таксама пасажыраў у цягніках. Гэтыя подпісы былі дасланыя заказнымі лістамі ў Адміністрацыю прэзідэнта, а таксама ў Палату прадстаўнікоў, а іх копіі – Сяргею Кіраенкаву, кіраўніку карпарацыі «Росатом» (партнёру па будаўніцтве АЭС у Беларусі).

Дасягненні:

- У ходзе двух этапаў кампаніі было сабрана 6000 подпісаў супраць будаўніцтва АЭС. Кампанія стымулявала шырокую грамадскую дыскусію, якая асвятлялася ў СМІ і мела розгалас па ўсёй краіне. Шмат матэрыялаў было апублікавана ў інтэрнэце. Інфармацыйнае агенцтва «БелаПАН» зняло сюжэт з удзелам актывістаў кампаніі. Нават дзяржаўныя СМІ вымушаныя былі рэагаваць. 2 лютага 2009 г. мясцовая афіцыйная газета «Ленінскі шлях» апублікавала «План Юркова» (аднаго з лідараў мясцовага дэмакратычнага руху), які ўтрымліваў патрабаванне адмяніць рашэнне пра будаўніцтва АЭС.
- Кампанія ўмацавала грамадзянскую кааліцыю ў Горках, а таксама паспрыяла прафесіяналізацыі мясцовых інфармацыйных ініцыятыў. На аснове бюлетэня «УзГорак» паўстала незалежная абласная газета, якую Міністэрства інфармацыі зарэгістравала ў красавіку 2009 г.
- Быў выпушчаны шэраг інфармацыйна-адукацыйных буклетаў і брашураў, прысвечаных праблеме АЭС, якія выкарыстоўваліся актывістамі ў іншых рэгіёнах Беларусі:
  - «Знаёмцеся – радыяцыя»
  - «Защити себя и окружающую среду»
  - «Как сберечь воду, тепло, электричество и сэкономить деньги»
  - «Еўрапейскі саюз: абарона наваколля і ўзнаўляльныя крыніцы энергіі»
  - «Міфалогія мірнага атаму»





Бланкі з подпісамі пад зваротам супраць пабудовы АЭС

Памылкі: На думку ініцыятараў кампаніі, адною з памылак быў недахоп матэрыялаў, скіраваных на розныя мэтавыя групы (асабліва моладзь) і адаптаваных да іх патрэбаў. Інфармацыйныя матэрыялы насілі абагульнены характар, а таму не заўжды маглі «зачапіць» увагу ўсіх сегментаў мясцовай супольнасці. У выніку ў кампаніі былі мала задзейнічаныя студэнты Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, дзе толькі на дзённым аддзяленні навучаюцца каля 5 тысяч чалавек.

Ілля Заранок, адзін з каардынатараў кампаніі, рэдактар сайта Horki.info:

*«Праведзеная кампанія вельмі аб’яднала мясцовых актывістаў. А мясцовыя жыхары на ўласныя вочы ўбачылі вынік таго, што ставілі подпісы, бо пляцоўку з-пад Горак перанеслі ў Астравец. Гэта ўсё дапамагло павысіць павагу грамадзян да нашай працы, а таксама дало мясцоваму насельніцтву адчуць, што яны маюць магчымасць удзельнічаць у прыняцці рашэнняў наконт важных дзяржаўных пытанняў».*

Назва кампаніі

# Народны дэпутат



Час правядзення: 2008 г.

Месца: г. Горкі (Магілёўская вобласць)

Ініцыятар: Горацкая грамадзянская кааліцыя

Інструменты: Збор подпісаў і арганізацыя публічнай справаздачы дэпутата перад выбаршчыкамі на аснове закона «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў».

Праблема: У траўні 2007 г. дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прагаласавалі за адмену льготаў (адзіны голас супраць належаў Вользе Абрамавай). Гэтае рашэнне выклікала незадаволенасць студэнтаў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі ды мясцовага насельніцтва. У 2008 г. урад заявіў пра намер пабудаваць уласную АЭС. Сярод магчымых пляцовак называлася вёска Кукшынава за 15 км ад Горак, аднак дэпутатка ад Горацкай, Дрыбінскай і Мсціслаўскай выбарчай акругі Таццяна Асмалоўская ніякім чынам не артыкулявала свайго стаўлення да гэтай праблемы. Напярэдадні чарговых парламенцкіх выбараў, якія мелі адбыцца ўвосень 2008 г., грамадскія актывісты вырашылі запрасіць дэпутатку на сустрэчу з выбаршчыкамі і запатрабаваць ад яе справаздачы пра зробленую за гады дэпутацтва працу, у тым ліку для вырашэння надзённых праблем рэгіёна.

Мэта: Актывізацыя грамадзянскага ўдзелу, стымуляванне публічнай дыскусіі наконт важных праблемаў і забеспячэнне прадстаўніцтва інтарэсаў мясцовых выбаршчыкаў пры дапамозе эфектыўнага выкарыстання існых заканадаўчых нормаў, якія надзяляюць грамадзян правам патрабаваць ад прадстаўнікоў улады выканання ўскладзеных на іх абавязкаў.

Арганізацыйная структура: Кампанія рэалізоўвалася шырокай грамадзянскай кааліцыяй Горак пры інфармацыйнай падтрымцы незалежных бюлетэняў і сайта Horki.info.

Апісанне дзейнасці: Рашэнне правесці кампанію было прынятае пад уплывам шэрагу фактараў: вялікая колькасць нявырашаных сацыяльных праблемаў у рэгіёне, адмена льготаў, намеры ўладаў будаваць АЭС пад Горкамі і чарговыя парламенцкія выбары. Тэрмін дэпутацтва Таццяны Асмалоўскай заканчваўся, і яна збіралася балатавацца зноў, а выбаршчыкі нічога не ведалі пра тое, што дэпутатка зрабіла для сваёй акругі за папярэднія гады. Грунтоўнага метадалагічнага падыходу да планавання і арганізацыі кампаніі ў актывістаў не было, таму ў ходзе яе рэалізацыі часам даводзілася імправізаваць.

Спачатку актывісты кампаніі паспрабавалі дамовіцца з дэпутаткай пра сустрэчу па тэлефоне. Усе арганізацыйныя пытанні (арэнда залы, інфармаванне насельніцтва пра сустрэчу і г.д.) яны гатовыя былі ўзяць на сябе. Аднак у тэлефоннай размове дэпутатка адмовілася прыехаць і заявіла, што ў яе шмат справаў у сталіцы і што яна выедзе на выбарчы ўчастак, толькі калі яе накіруе ў камандзіроўку Палата прадстаўнікоў.

Мясцовыя актывісты прынялі рашэнне выкарыстаць закон «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў». У артыкуле 26 («Справаздачы дэпутата Палаты прадстаўнікоў перад выбаршчыкамі, сустрэчы з імі») указваецца, што дэпутат адказны перад сваімі выбаршчыкамі і павінен даваць перад імі справаздачу не радзей за адзін раз на год. Паводле гэтага артыкула, сустрэча з дэпутатам на тэрыторыі выбарчай акругі можа адбыцца на патрабаванне не менш як 300 грамадзян.




Дэпутатка парламента Т. Асмалоўская дае справаздачу перад выбарцамі ў г. Горкі

Мясцовыя актывісты падрыхтавалі адмысловыя падпісныя аркушы са зваротам да Таццяны Асмалоўскай з патрабаваннем прыехаць у Горкі, каб даць перад выбаршчыкамі справаздачу пра сваю дзейнасць на пасадзе дэпутата. Збор подпісаў адбываўся метадам «ад дзвярэй да дзвярэй». Часу і магчымасці правесці інфармацыйную кампанію напярэдадні збору подпісаў у актывістаў не было, таму сутнасць праблемы і мэты кампаніі даводзілася тлумачыць выбаршчыкам пры абыходзе кватэр. За тыдзень 20 актывістаў сабралі больш за 400 подпісаў мясцовых жыхароў, якія патрабавалі ад дэпутаткі з'явіцца ў Горках са справа-здачай. Паводле каардынатараў кампаніі, вялікай палёгкай для актывістаў было тое, што нідзе ў законе не апісаная працэдура збору подпісаў для выкліку дэпутата на сустрэчу з выбаршчыкамі. Арганізатары кампаніі не выключаюць, што адбывалася пэўная праверка подпісаў дзяржслужбоўцамі, але пра яе вынікі нічога не вядома. Ліст з 400 подпісамі быў накіраваны ў Палату прадстаўнікоў. Адмовіцца ад такога запрашэння Таццяна Асмалоўская не мела права, а таму пагадзілася з'явіцца са справаздачай 1 сакавіка 2008 г.

Мясцовыя актывісты дамагліся ад Горацкага райвыканкама выдзялення бясплатнай залы для сустрэчы з дэпутаткай. Яны падрыхтавалі 1000 запрашэнняў і распаўсюдзілі іх у рэгіёне. Большасць іх раскідалі па паштовых скрынях, а невялікую частку расклеілі ў выглядзе абвестак на слупах. У выніку адведзеная для сустрэчы зала была поўная.

Асноўныя праблемы, узнятыя на сустрэчы з дэпутаткай, датычылі адмены льготаў, стану камунальнай гаспадаркі і вяртання насельніцтву страчаных на пачатку 1990-х гг. укладаў у «Ашчадным банку». Грамадзяне скардзіліся на залітыя вадой падвалы, дзіравыя дахі, вечныя праблемы з каналізацыяй, ацяпленнем і панэльнымі дамамі. Былыя работнікі вядомага на ўвесь рэгіён «Белросу» (гэтая фірма валодае рэстаранным комплексам «Парнас» у цэнтры Горак) патрабавалі паспрыяць таму, каб ім нарэшце выплацілі заробкі, якія абяцалі вярнуць ужо больш за год.

Сацыяльны ўдар за мясцовыя праблемы прыняло на сябе кіраўніцтва Горацкага раёна, камунальных службаў, галоўных прадпрыемстваў і ўстаноў.

Першыя асобы горада таксама прыйшлі на сустрэчу з грамадзянамі. Пакуль чыноўнікі адказвалі на пытанні, з залы прагучала рэпліка, што ўсе названыя праблемы існуюць дзесяцігоддзямі, а ўлады ўсё яшчэ іх не вырашылі.

Калі паўстала пытанне пра нашумелую адмену льготаў, адказваць давялося самой дэпутатцы. Яна заявіла, што сапраўды галасавала за тое, каб у студэнтаў, пенсіянераў, інвалідаў і чарнобыльцаў забраліільготы. На погляд «прадстаўніцы народа», яна мела права галасаваць без абмеркавання гэтай праблемы з жыхарамі Горак, бо яны ўжо выбралі яе ў 2004 г., а значыць даверылі вырашаць такія пытанні без дадатковых кансультацыяў.

Напрыканцы сустрэчы каардынатар горацкай «Антыядзернай групы» Пётр Маланачкін перадаў дэпутатцы болей за тысячу подпісаў грамадзянаў з заклікам не будаваць у Горацкім раёне АЭС. «Я паважаю вашу працу. Я прымаю гэтыя подпісы, хаця і не бачу альтэрнатывы ядзернай энергетыцы», – заявіла дэпутатка на развітанне.

Дасягненні:

- Актывісты эфектыўна скарысталі з існых прававых нормаў для прадстаўніцтва інтарэсаў мясцовай грамады.
- Паспяховасць кампаніі дапамагла павысіць вядомасць і аўтарытэт мясцовых грамадскіх ініцыятыў сярод грамадзян.
- Актывісты з'ядналіся і атрымалі матывацыю для далейшай працы, бо ўбачылі, што дасягнулі канкрэтнай перамогі.
- Актывісты атрымалі новы досвед працы з насельніцтвам падчас збору подпісаў, а таксама новы досвед стасункаў з мясцовымі ўладамі.
- Кампанія атрымала розгалас у мясцовых СМІ: пра яе напісала афіцыйная газета «Ленінскі шлях» (электронная версія артыкула «О льготах и АЭС»), а таксама мясцовы інтэрнэт-партал Horki.info і мясцовы незалежны бюлетэнь «Горацкі выбар».

Памылкі: Вялікай памылкай было тое, што кампанія не абапіралася на шырокую інфармацыйную хвалю. Не быў выпушчаны адмысловы бюлетэнь пра збор подпісаў, не былі падрыхтаваныя ўлёткі. На думку арганізатараў, сітуацыю ўратавала тое, што ў такім невялікім мястэчку, як Горкі, інфармацыя такога кшталту вельмі хутка распаўсюджваецца з вуснаў у вусны. Разам з гэтым матэрыялы пра сам сход і яго вынікі апублікавалі незалежны сайт Horki.info і афіцыйная раённая газета «Ленінскі шлях», дзе былі падрабязна выкладзеныя пытанні і адказы, якія прагучалі падчас сустрэчы з дэпутаткай.

Планы на будучыню: Сама кампанія паказала сябе як эфектыўны сродак мабілізацыі мясцовага насельніцтва для абароны сваіх правоў. Схема і методыка кампаніі з карэкціроўкай на новы час і сітуацыю могуць выкарыстоўвацца ў будучыні.

Назва кампаніі

# Кампанія ў абарону Севастопальскага парку



Час правядзення: Чэрвень 2011 г. – дагэтуль

Месца: Першамайскі раён Менска

Ініцыятар: Грамадская ініцыятыва «Еўрапейская перспектыва»

Інструменты: Ініцыяванне мясцовага рэферэндуму, выданне інфармацыйнага бюлетэня, звароты ў дзяржаўныя органы, сходы жыхароў, круглы стол, збор подпісаў.

Праблема: Севастопальскі парк – гэта ўнікальная ландшафтна-рэкрэацыйная і водаахоўная зона Сляпянскай воднай сістэмы, размешчаная на тэрыторыі Першамайскага раёна Менска. На 73 гектарах, які займае парк, расце каля 28 тысяч дрэваў – «лёгкія» мегаполіса. Тут таксама размешчаныя восем артэзіянскіх калодзежаў, што забяспечваюць пітной вадой каля 500 тысяч жыхароў сталіцы. Аднак нягледзячы на тое, што парк мае спецыяльны статус і абараняецца законам, з канца 1990-х гг. рабіліся шматлікія спробы яго знішчыць. Размешчаны непадалёк цэнтра горада, Севастопальскі парк зрабіўся аб’ектам пастаянных атак з боку прадстаўнікоў прыўладнага будаўнічага бізнесу.

На тэрыторыі парку плануецца пабудаваць рэстаран, кавярню, сауну, фітнэс-цэнтр і паркоўку, для чаго спатрэбіцца вырубіць больш за 2 000 дрэваў і закрыць артэзіянскія калодзежы. Больш за 15 гадоў мясцовыя жыхары супрацьстаяць спробам знішчэння і забудовы парку. Мясцовыя актывісты праводзілі сустрэчы з чыноўнікамі, пісалі звароты ў Адміністрацыю прэзідэнта, збіралі подпісы, звярталіся па дапамогу ў СМІ ды г.д. За гэты час змянілася некалькі пакаленняў змагароў з ліку мясцовай супольнасці. Толькі за 2003–2005 гг. жыхарам удалося спыніць як мінімум пяць спробаў распачаць будаўніцтва ў парку. Аднак у 2009–2010 гг. паводле рашэння гарадскіх уладаў артэзіянскія калодзежы пачалі зачыняць і выводзіць з эксплуатацыі. Такім чынам, быў зняты фармальны бар’ер на шляху да забудовы паркавай зямлі. У жніўні 2010 г. жыхары мікрараёна «Усход-2» сабралі каля 3 000 подпісаў супраць забудовы Севастопальскага парку і зносу артэзіянскіх свідравінаў. Актывісты «Еўрапейскай перспектывы» ініцыявалі новы этап кампаніі ў абарону Севастопальскага парку, паставіўшы за мэту не толькі мабілізаваць мясцовых жыхароў і прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы, але і дабіцца правядзення мясцовага рэферэндуму ў пытанні будучыні парку.

Мэта: Захаваць Севастопальскі парк шляхам кансалідацыі ды мабілізацыі мясцовай супольнасці, аказання ціску на ўлады і правядзення мясцовага рэферэндуму.

Арганізацыйная структура: Кампанія здзяйсняецца сіламі «Еўрапейскай перспектывы» і мясцовых актывістаў. Каардынуюць яе два чалавекі.

Апісанне дзейнасці: У ліпені 2011 г. актывісты «Еўрапейскай перспектывы» распачалі інфармацыйную дзейнасць, каб прыцягнуць увагу да праблемы Севастопальскага парку. У першую чаргу былі наладжаныя кантакты з рэдакцыямі вядучых незалежных СМІ, каб забяспечыць ахоп як мага большай аўдыторыі. Для гэтага каардынатары кампаніі правялі сустрэчы з рэдактарамі і журналістамі друкаваных і электронных выданняў, інфармацыйных агенцтваў і радыёстанцый. На сустрэчах яны распавялі пра «Еўрапейскую перспектыву», місію арганізацыі, асноўную праблему, якой займаецца арганізацыя (захаванне Севастопальскага парку), і шляхі яе вырашэння (праз ініцыяванне і правядзенне мясцовага

рэферэндуму). У выніку сустрэчаў былі дасягнутыя дамоўленасці аб партнёрстве, у тым ліку з наступнымі СМІ: газеты «Новы Час», «Наша Ніва» і «Народная Воля»; інфармацыйнае агенцтва «БелаПАН»; інфармацыйныя парталы «Беларускія Навіны» і «Беларускі Партызан»; «Еўрапейскае радыё для Беларусі», радыё «Рацыя» і Беларуская рэдакцыя Польскага радыё. Асабістыя кантакты дапамаглі лепш растлумачыць сутнасць праблемы і зацікавіць журналістаў. Як вынік, у хуткім часе ў беларускіх незалежных медыях рэгулярна пачалі з'яўляцца матэрыялы пра Севастопальскі парк і кампанію для яго абароны.

Актывісты кампаніі таксама стварылі суполкі ў папулярных сацыяльных сетках: Facebook і «Вконтакте». Тут размяшчалася актуальная інфармацыя пра навіны кампаніі ды наладжваліся сувязі з зацікаўленымі грамадзянамі. Да дыскусіі ў сацыяльных сетках далучыўся былы галоўны архітэктар праекта «рэканструкцыі» Севастопальскага парка.

Яшчэ адным важным складнікам інфармацыйнага кампаненту кампаніі зрабілася выданне ўласнага бюлетэня – «Севастопальскі веснік». Цягам ліпеня 2011 г. рыхтаваўся першы нумар. У ім выйшаў артыкул «У пошуках праўды» актывісткі абароны Севастопальскага парку Валянціны Шалейнікавай, дзе апісвалася барацьба мясцовых жыхароў за парк. Былі апублікаваныя гісторыя Севастопальскага парку і храналогія найбольш яркіх падзеяў, якія маглі прывесці да яго знішчэння. Таксама падавалася інфармацыя пра «Еўрапейскую перспектыву» і кантакты яе каардынатараў. Першы нумар бюлетэня выдалі накладам 50 тысяч асобнікаў і распаўсюдзілі праз паштовыя скрыні жыхароў Першамайскага раёна ў сярэдзіне жніўня 2011 г. У выніку каля 30 чалавек патэлефанавалі па кантактных тэлефонах, каб выразіць падтрымку (акрамя аднаго негатыўнага тэлефанавання) і звярнуць увагу актывістаў на іншыя праблемы раёна. Тры асобы выказалі жаданне далучыцца да «Еўрапейскай перспектывы». З дапамогай бюлетэня на сувязь з каардынатарамі кампаніі выйшлі жыхары іншага мікраранёна сталіцы («Уручча-2»), якія ўваходзяць у склад ініцыятыўнай групы, што спрабуе адстаяць зялёную зону ў сваім раёне.

23 жніўня 2011 г. міжведамасная камісія, у склад якой увайшлі прадстаўнікі Генеральнай пракуратуры, Камітэта дзяржаўнага кантролю, а таксама іншых міністэрстваў і ведамстваў, у прысутнасці грамадскіх актывістаў праінспектавала стан свідравінаў на тэрыторыі парку. Інспекцыю ініцыявала Генпракуратура па факце закрыцця ў 2009 г. шэрагу водных калодзежаў. Нагодаю стаўся адпаведны зварот у Генпракуратуру прадстаўнікоў грамадскасці. Вынікі праверкі былі крайне супярэчлівыя і выклікалі бурную дыскусію. Не супадалі не толькі кантрольныя паказнікі пададзенай вады ва ўліковым дзённіку і паказнікі прыбораў у сістэме кіравання свідравінай №76, але і агульная колькасць свідравінаў, размешчаных на тэрыторыі парку. Выявіліся разыходжанні і ў прычынах вываду свідравін з эксплуатацыі (аргументацыя, выкладзеная ў афіцыйных адказах, атрыманых з розных дзяржаўных установаў на запыты жыхароў, супярэчыла версіі, якую выказаў прадстаўнік «Водаканала»). Прадстаўнік Генпракуратуры

запатрабаваў ад профільных устаноў правесці дакладныя калькуляцыі ды падаць пісьмовае заключэнне аб якасці вады.

Акрамя наладжвання кантактаў са СМІ і выдання ўласнага бюлетэня актывісты кампаніі імкнуліся ствараць цікавыя інфармацыйныя нагоды. 1 кастрычніка 2011 г. разам з жыхарамі мікрараёна «Усход-2» яны правялі ў парку суботнік. Мясцовых жыхароў праінфармавалі пра гэтую ініцыятыву з дапамогай улётак, раскіданых у паштовыя скрыні дамоў, размешчаных на тэрыторыі мікрараёна. У суботніку ўзялі ўдзел каля 20 чалавек, якія прыбралі частку парка ад смецця. Удзельнікі акцыі таксама напісалі заявы ў «Менскзялёнбуд», адміністрацыю Першамайскага раёна і Мангарвыканкам з патрабаваннем рэгулярна прыбіраць парк. Да заявы прыклалі фотаздымкі засмечанага парка. Па факце заявы жыхароў «Менскзялёнбуд» у той жа дзень накіраваў сваіх працаўнікоў прыбіраць парк. Гэтыя падзеі шырока асвятляліся і абмяркоўваліся ў СМІ.







Грамадскі суботнік у Севастопальскім парку



Круглы стол «Севастопальскі парк. Праблема – 2020»

Яшчэ адным важным кірункам працы кампаніі было наладжванне сувязяў і супрацы з іншымі грамадскімі ініцыятывамі, экалагічнымі арганізацыямі, экспертамі і юрыстамі. 7 кастрычніка 2011 г. адбыўся круглы стол «Севастопальскі парк. Праблема-2020», у якім узялі ўдзел 15 чалавек. Гэта былі мясцовыя жыхары з ініцыятыўных групаў для абароны Севастопальскага парку і мікрараёна «Уручча-2», якія дамагаюцца захавання зялёнай зоны на перакрыжаванні вуліц Шугаева і Русіянава, прадстаўнікі «Еўрапейскай перспектывы», а таксама эксперты ГА «Экадом», руху «За свабоду» і Нацыянальнай акадэміі навук. Праграма складалася з трох тэматычных блокаў: грамадскага (гісторыя ды праблемы абароны зялёных зонаў, змаганне мясцовых жыхароў за спрыяльнае экалагічнае асяроддзе), экалагічнага (экалагічная сітуацыя ў горадзе, патрэбы і канцэпцыі захавання зялёнай экасістэмы ў Менску) і юрыдычнага (прававыя аспекты шляхоў і магчымасцяў для грамадскасці адстойваць свае інтарэсы). Напрыканцы круглага стала была прынятая рэзалюцыя, у якой удзельнікі:

1. Заклікаюць гарадскія ўлады ўлічваць грамадскае меркаванне пры прыняцці рашэнняў адносна Севастопальскага парку ды іншых зялёных зонаў у Першамайскім раёне Менска.

2. Бачаць адзіным выйсцем для вырашэння праблемы захавання Севастопальскага парку і свідравінаў у ім правядзенне мясцовага рэферэндуму, на які будуць вынесеныя пытанні пра лёс парку.

3. Заклікаюць мясцовых жыхароў і неабыякавых гараджан далучацца да ініцыятыўнай групы для правядзення мясцовага рэферэндуму.

У кастрычніку 2011 г. быў падрыхтаваны, надрукаваны і распаўсюджаны другі нумар «Севастопальскага весніка», дзе асноўная ўвага надавалася мясцоваму рэферэндуму, яго важнасці і плану працы для яго падрыхтоўкі. У бюлетэні ўтрымліваўся заклік да мясцовых жыхароў падтрымаць ініцыятыву мясцовага рэферэндуму. Пачалася актыўная праца з насельніцтвам: адказы на тэлефанаванні, сустрэчы, тлумачальная праца, фармаванне ініцыятыўнай групы. Акрамя таго адбыўся ўстаноўчы сход гарадскога грамадскага аб'яднання «Еўрапейская перспектыва» з мэтай атрымаць дзяржаўную рэгістрацыю. У лістападзе былі аформленыя і пададзеныя ўсе неабходныя для рэгістрацыі дакументы. Аднак 1 снежня 2011 г. Галоўнае ўпраўленне юстыцыі Мінгарвыканкама адмовіла «Еўрапейскай перспектыве» ў рэгістрацыі.

У лістападзе праводзіліся сустрэчы з мясцовымі жыхарамі, якія выказалі жаданне ўвайсці ў склад ініцыятыўнай групы для падрыхтоўкі рэферэндуму. Адбыліся тры невялікія сходы ў дварах жылых дамоў з колькасцю ўдзельнікаў да 10 чалавек. Пасля гэтага было прынятае рашэнне правесці вялікі сход, на якім планавалася абвесціць пра стварэнне ініцыятыўнай групы і падтрымаць рэзалюцыю круглага стала аб правядзенні рэферэндуму. Была праведзеная агітацыя сярод насельніцтва мікрараёна «Усход-2»: праз паштовыя скрыні распаўсюдзілі інфармацыйныя ўлёткі, развесілі плакаты на пад'ездах і прыпынках грамадскага транспарту. Напярэдадні сходу, запланаванага на 27 лістапада, міліцыя зрабіла каардынатару кампаніі Віктару Янчурэвічу афіцыйнае папярэджанне пра недапушчальнасць парушэння заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.

Нягледзячы на супрацьстаянне і ціск з боку ўладаў, сход усё ж такі адбыўся. Паводле ацэнак незалежных СМІ, у ім узялі ўдзел каля 70 чалавек. На сходзе абмеркавалі сітуацыю вакол Севастопальскага парку і зачыталі рэзалюцыю, людзі маглі запісацца ў склад ініцыятыўнай групы. З іроніі лёсу сход адбыўся ў той дзень, калі ўступілі ў сілу папраўкі ў закон аб масавых мерапрыемствах, якія прадугледжваюць больш жорсткую адказнасць за правядзенне акцый. У сувязі з гэтым кіраўніцтва кампаніі прыняло рашэнне ў будучыні спрабаваць выкарыстоўваць легальныя спосабы для правядзення такіх сходаў.






Жыхары мікрараёна «Усход-2» запісваюцца ў ініцыятыўную групу для правядзення мясцовага рэферэндуму

У снежні прадстаўнікі кампаніі падалі ў Менгарвыканкам заяўкі на правядзенне пікету, а ў ЖРЭА і ЖЭС Першамайскага раёна – на скліканне яшчэ двух сходаў для фармавання ініцыятыўнай групы правядзення рэферэндуму. У задавальненні ўсіх гэтых заявак каардынатару кампаніі адмовілі.

У тым жа месяцы ў мікрараёне «Усход-2» узнікла яшчэ адна праблема, да вырашэння якой адразу ж падключылася «Еўрапейская перспектыва». Гарадскія ўлады вырашылі пабудаваць жылы дом на месцы былога дзіцячага садка, што выклікала абурэнне жыхароў мікрараёна. «Еўрапейская перспектыва» і мясцовыя жыхары за кароткі час сабралі больш за 1200 подпісаў супраць будаўніцтва. У выніку адміністрацыя Першамайскага раёна была вымушаная рэкамендаваць забудоўшчыку адмяніць будаўніцтва.

Такое хуткае рэагаванне на з'яўленне новых праблемаў, здольнасць да эфектыўнай мабілізацыі ды самаарганізацыі, а таксама рашучасць дзеянняў умацавала рэпутацыю «Еўрапейскай перспектывы» ў вачох мясцовых жыхароў і прывяло ў ініцыятыўную групу для арганізацыі рэферэндуму новых людзей (агулам у яе склад на пачатак 2012 г. запісаліся 63 чалавекі). Згодна з Выбарчым кодэксам РБ, права ініцыятывы на правядзенне мясцовага рэферэндуму належыць мясцовым прадстаўнічым органам і грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія стала жывуць на тэрыторыі адпаведнай вобласці, раёна, горада, раёна ў горадзе, пасёлка або сельсавета. Ініцыятыўная група для правядзення мясцовага рэферэндуму ў Менску і Менскай вобласці мае складацца не менш як з 50 асобаў; у раёне, горадзе, раёне горада – не менш як з 20 чалавек. Такім чынам, колькасць ахвотных, якія запісаліся ў ініцыятыўную групу для правядзення рэферэндуму адносна лёсу Севастопальскага парку, у тры разы перавышае мінімум, прадугледжаны законам.

Наступныя крокі: Увесну 2012 г. каардынатары кампаніі плануюць правесці сход ініцыятыўнай групы, сфармуляваць пытанне, якое будзе выносіцца на рэферэндум, падрыхтаваць і падаць у адміністрацыю Першамайскага раёна дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы. Цягам 30 дзён з дня звароту па рэгістрацыю ініцыятыўнай групе выдаецца пасведчанне аб рэгістрацыі, узор падпіснога аркуша, а чальцам ініцыятыўнай групы – адпаведныя пасведчанні. Калі рашэнне аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы будзе станоўчае, у актывістаў будзе месяц на збор подпісаў у падтрымку правядзення рэферэндуму (трэба сабраць подпісы не менш як 10% грамадзян, якія валодаюць выбарчым правам і жывуць на тэрыторыі Першамайскага раёна). Падпісныя аркушы трэба будзе перадаць у адміністрацыю Першамайскага раёна на праверку (здзяйсняецца цягам 10 дзён). Не пазней як праз 30 дзён Менскі гарадскі Савет дэпутатаў мае прыняць рашэнне аб правядзенні рэферэндуму. Гэтае рашэнне публікуецца ў друку і паведамляецца праз іншыя сродкі масавай інфармацыі.

Дасягненні: Удалося прыцягнуць рэгулярную ўвагу СМІ да сітуацыі вакол Севастопальскага парку, што дазволіла трымаць у курсе падзеяў шырокую аўдыторыю, а таксама аказваць ціск на ўлады. Мясцовыя жыхары адчулі падтрымку, а ўладам было складаней замоўчваць праблемы і канфлікты.

Разнастайныя дзеянні ў межах кампаніі прымусілі ўлады рэагаваць і дзейнічаць. Генеральная пракуратура вымушаная была правесці інспекцыю свідравінаў і запатрабаваць ад профільных дзяржаўных установаў больш дакладнай справаздачнасці ды адказнага стаўлення да зваротаў грамадзян. У Міністэрстве прыроды была створаная працоўная група, якая будзе займацца пытаннямі захавання і вырашэння праблемаў зялёных зонаў у Менску. У склад групы ўвайшлі таксама прадстаўнікі экалагічных НДА.

Дзякуючы «Севастопальскаму весніку» ды іншым формам працы з насельніцтвам, павялічылася колькасць зваротаў грамадзян наконт самых розных праблем, а не толькі ў звязку з сітуацыяй вакол парку. Людзі звяртаюцца да актывістаў кампаніі, калі неабходна вырашыць пытанне з паркоўвачнымі месцамі, калі вынішчаюцца зялёныя зоны, робяцца спробы ўшчыльніць забудову мікрараёнаў і г.д. «Еўрапейская перспектыва» пачала асацыявацца з арганізацыяй, якая дапамагае ў вырашэнні мясцовых праблем. Былі наладжаныя сувязі з грамадскімі ініцыятыўнымі групамі з іншых раёнаў сталіцы. Актывісты дзеляцца сваім досведам і дапамагаюць адзін аднаму.

У выніку кампаніі сфармавалася ініцыятыўная група для падрыхтоўкі мясцовага рэферэндуму. У яе склад увайшлі пераважна грамадзяне, не заангажаваныя раней у палітычныя партыі або грамадскія арганізацыі. Гэта значыць, што кампаніі ўжо ўдалося стымуляваць актыўнасць сярод мясцовых жыхароў.

Памылкі: Пакуль яшчэ рана ацэньваць паспяховасць і эфектыўнасць кампаніі, бо пытанне аб правядзенні мясцовага рэферэндуму застаецца адкрытым. Не вядома, ці зарэгіструюць ініцыятыўную групу і ці ўдасца яе сябрам сабраць неабходную для абвяшчэння рэферэндуму колькасць подпісаў.

Аднак можна адзначыць, што спадзяванні, ускладзеныя на выкарыстанне сацыяльных сетак для мабілізацыі мясцовага насельніцтва, не апраўдалі сябе ў поўнай ступені. Гэта, на думку каардынатараў кампаніі, выклікалі змены правілаў функцыянавання групаў у сэрвісе «ВКонтакте». Калі раней у групу можна было запрашаць людзей паводле розных параметраў выбаркі, то ўлетку ўмовы змяніліся – запрашаць у групу можна толькі «сяброў» адміністратара групы або рабіць платную рэкламу групы. У выніку мабілізацыйны аспект працы ў сацыяльных сетках зменшыўся. Іх асноўнай функцыяй зрабілася аператыўнае інфармаванне грамадскасці пра падзеі ды навіны кампаніі.

